*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 6 мая 1988 г. № 19 (3429) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## 9 МАЯ—СВЯТА ПЕРАМОГІ



У. МІХАЙЛОЎСКІ. «ПЕРАМОГА» (фрагмент карціны).



За вялікія заслугі ў развіцці савецкага тэатральнага мастацтва ганаровае званне «Народны артыст СССР» нададзена Стэфаніі Міхайлаўне СТАНЮЦЕ — актрысе Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

«Яна нясе ў сабе гісторыю горада, нацыі, тэатра. Яна сама — гісторыя і рэальнасць адначасова», — сцвярджае рэжысёр М. Пінігін у сваіх нататках «Стэфанія і Мод», змешчаных на стар. 10.

# ПРАЎДА ГІСТОРЫІ, ПРАЎДА ЖЫЦЦЯ

### Канферэнцыя гісторыкаў і пісьменнікаў

Ніколі яшчэ пытанні гісторыі і літаратуры не мелі такога актуальнага, можна сказаць, сацыяльнага значэння, як у нашы дні рэвалюцыйнага абнаўлення нашага грамадства. Гісторыкі і пісьменнікі звяртаюць сёння свае позіркі на асноўныя этапы мінулага нашай Радзімы, каб выверыць дарогу ў будучыню. Аб'яднаць сілы і зверыць пазіцыі на гэтым шляху — такая была мэта навуковай канферэнцыі, арганізаванай і праведзенай у Маскве 27 — 28 красавіка Акадэміяй навук СССР, Саюзам пісьменнікаў СССР і Акадэміяй грамадскіх навук пры ЦК КПСС.

Канферэнцыю адкрыў першы сакратар праўлення СП СССР **У. Карпаў.**

З дакладам «Гісторыя, літаратура, грамадства» выступіў віцэ-прэзідэнт АН СССР **П. Федасееў.** Гісторыя заўсёды была і застаецца полем вострай ідэалагічнай барацьбы, сказаў ён. Таму праўдзівае выкладанне гістарычных падзей, марксісцкі аналіз нашых поспехаў і памылак — важная ідэалагічная задача вучоных і дзеячаў літаратуры. Самая важная задача гісторыкаў і літаратуразнаўцаў, падкрэсліў вучоны, — стварыць праўдзівую гісторыю савецкага грамадства, яго духоўнага развіцця, скончыць з безабліччнасцю ў асвятленні гістарычнага працэсу, з замоўчваннем яго канкрэтных дзеячаў, драматычных вынікаў.

Усебаковы, аб'ектыўны падыход да асвятлення мінулага і сённяшняга, працягваў акадэмік П. Федасееў, — гэта патрабаванне не толькі ісціны, але і сумлення. Узаемадзеянне гісторыкаў і літаратуразнаўцаў з пісьменнікамі і літаратурнымі крытыкамі тут асабліва важнае. Іх агульная задача заключаецца ў тым, каб раскрыць аб'ектыўную логіку гісторыі, яе заканамернасці, сувязь гістарычных падзей, паказаць пераемнасць ідэй Вялікага Кастрычніка, справы рэва-

(Заканчэнне на стар. 2—3).

ПЕРАБУДОВЕ — ІДЭІ АБНАЎЛЕННЯ

Васіль ЯКАВЕНКА

# ПАМІНАЮ І ВЕРУ

*Тяжело молчал*
*Валун-догматик*
*В стороне от волн...*
*М. РУБЦОЎ.*

Атмасферны ціск пачаў падаць, і мора прыходзіла ў рух. Яно ператварала бязмежны блакіт у свінцовую шэрань. На рухомай паверхні вады ўтварылася лёгкая пена.

За шумам-пошумам і размераным шаргаценнем, што ішло з-пад вады і прыглушалася ёю ж, згадвалася вечнасць. Яна цякла, плыла, білася аб бераг, і для яе не мела значэння, існуеш ты ці не, ты — пясчынка на водмелі, кропля ў моры.

Пошум вечнасці, аднак, не супакойваў. Хутчэй наадварот — вярэдзіў душу, будзіў згадкі і ўспаміны. Думалася пра тое, што мае вандроўкі па зямлі, якая яшчэ не скрозь ператварылася ў пекла, а толькі сям-там, дзеля нечага патрэбны былі. Пра тое, што сёння, бадай, больш каштоўным з'яўляецца не бытапісанне, а непасрэднае ўздзеянне літаратара і літаратуры на жыццё. А пісьменнік можа дамагчыся гэтага чыстасардэчным і палымяным словам, а таксама ўчынкам.

Думкі не давалі спакою і тут, на беразе мора. Жонка, як шкадуючы, пажартавала:

— Калі хочаш, каб благое адышло, схадзі ў царкву ды свечку пастаў.

Малайчына! Тут яе праўда. Найлепей, сапраўды, было б паставіць свечку. Паставіць і памянуць усё, што аджыло свой век, але, тым не менш, чапляецца за жыццё. Усё, што адышло ў нябыт, але неяк адтуль вяртаецца і вярэдзіць душы жывых і не дае спакою...

Нечакана прыгадалася царква. Здаўна знаёмая мне царква на Гомельшчыне, у якой быў у дзяцінстве без усялякае пільнае патрэбы.

Аднойчы мы збеглі з урокаў — я і мой сусед і хаўруснік Віктар Кастэнка. Ганялі мы сабак па вуліцы, бадзяліся, аціраліся па завуголлях, баючыся трапіць на вочы настаўнікам або знаёмым. З нецярпеннем чакалі канца заняткаў у школе, каб, далучыўшыся да іншых вучняў, як ні ў чым не бывала вярнуцца дадому.

Вецер і холад загнаў нас у царкву, куды Віктар, дарэчы сказаць, ужо ведаў дарогу — хадзіў туды зрэдку разам з бабуляй (бацькі яго загінулі ў вайну, жыў ён з дзедам і бабай). Там, непадалёку ад аналоя, стаяла чародка людзей, і мы далучыліся да іх. Чарга паціху пасоўвалася. Як я зразумеў потым, чарга была да споведзі. Захацелася пакаяцца і нам.

Крок, яшчэ крок насустрач невядомаму таінству, і Віктарава галава і плечы схаваліся пад цёмнай накідкай свяшчэнніка. Пра што яны там шэптам гавораць? Я ва ўсе вочы гляджу на шытае золатам і бліскучае адзенне чалавека, які ведае невядомае мне і злучае неба з зямлёю. Гэтыя прыгажосць і таемнасць ажно сляпяць, дух займае. Мая чарга...

— Што ты маеш сказаць, хлопча?

— Нічога... Прыйшоў разам з Віцем сюды, — ледзь выціснуў я.

— Грахі маеш?

— Не-е...

— Тату, маму слухаешся?

— Ага.

— Ну — малайчына.

І ён сунуў мне ў рот лыжачку нейкага рэчыва — віна? мёду? — я не мог разабраць. А на смак было добрае...

Памінаю... Усё тое, што не прымаю...

З Кастэнкам я сустрэўся ў адну з апошніх маіх камандзіровак. Ён не пакінуў зямлю бацькоў, жыве і працуе непадалёку ад мясцін, звязаных з нашым дзяцінствам. Я прыехаў туды і, уладкаваўшыся ў гасцініцы, пазваніў яму па тэлефоне. Дома, аднак, ніхто не падняў трубку. Тады я набраў нумар на суднарамонтным заводзе, дзе ён робіць. Сакратарка паведаміла, што Кастэнка некалькі тыдняў назад звольніўся.

Навіна легла трывожным халадком на сэрца. Што значыць гэтае яго звальненне? Быў добрым работнікам, вырас да намесніка дырэктара, яго цанілі за веданне справы, цягавітасць у працы і, бадай, незалежны, аздоблены гумарам, вясёлы характар.

Вечарам паехаў да Кастэнкі дадому. Прадчуванне нядобрага не падманула мяне. Працаваў ён ужо ў іншай установе і пра свой суднарамонтны завод загаварыў з горычу:

— Не было як далей рабіць. Адзін з кіраўнікоў — алкаголік, цяпер, праўда, скрыты, і яму пастаянна не хапае сродкаў на «запраўку»—гаручае ж падаражэла.. Шукае грошы на прадпрыемстве. Вынайшаў камбінацыю, якая, пры маім садзеянні, дазваляла б яму прысвоіць тры тысячы рублёў. Я не падпісаў падрыхтаваныя ім паперы. З гэтага і пачалося. А ў будаўніцтве, сам ведаеш, заўсёды можна белае чорным паказаць, з мухі зрабіць слана. Пачалі шукаць пралікі, каб зачапіцца.

— Кастэнка памаўчаў, напэўна, шукаючы нейкае тлумачэнне свайму ўчынку, і не знайшоў яго. — Плюнуў я!..

На суднарамонтным заводзе, дзе я ўсё ж пабываў, спытаўся ў кадравіка, чаму звольніўся Віктар Кастэнка з пасады намесніка дырэктара.

— Дарэмна ён звольніўся...— На вуснах начальніка з'явілася трохі загадкавая і разам з тым вясёлая ўсмешка: — Не было аб'ектыўных прычын.

— А суб'ектыўныя?..

— Суб'ектыўнымі прычынамі мы не займаемся.

Чуеце? Суб'ектыўнымі прычынамі адміністрацыя не займаецца, хоць за «суб'ектыўнымі» заўжды ляжаць сацыяльныя, стаіць сам чалавек. Паказальна!

У гэтых словах кадравіка быў ключ да разумення сітуацыі, што склалася на заводзе пад час перабудовы. Атмасфера там, даведаўся, была ўжо не колішняя. Запанавала няўмелае празмернае адміністраванне. Гэта выклікала недавер рабочых і да новага, што ўкаранялася ў вытворчасць, і да справядлівасці, праўды, галоснасці, і да самой перабудовы, скіраванай якраз супраць адміністравання, прынукі. Пры ўсё тым жа занядбанні чалавечага фактара. Калі ісці адсюль, можна зразумець учынак намесніка дырэктара Віктара Кастэнкі, які, не вытрымаўшы выпрабавання нячыстага духа (чым не суб'ектыўнасць?!), збег з прадпрыемства.

Памінаю нячыстага духа — каб ён спрах! — што гэтак часта збівае з тропу сумленных людзей, а разам з ім памінаю і аматараў розных афёр на вытворчасці, казнакрадаў, ліхадзеяў, для якіх не існуе чалавечай маралі і якія для дасягнення сваіх мэт не грэбуюць нічым, умеюць абылгаць любога і кожнага...

●

Лета толькі яшчэ пачыналася, і свежай ляжала ралля на ўсе бакі ад пасёлкаў. Быў акурат час, калі селянін мог крыху адпачыць паміж сяўбой і касьбой. Гэты момант палічылі зручным пісьменнікі, каб выехаць са сталіцы і паглядзець, што робіцца ў глыбінцы, як ідзе перабудова ў аграпроме, ва ўпраўленнях сельскай гаспадаркі непасрэдна. Пісьменнікі ведалі, што раней на гэтай ніве было шмат пустазелля, казёншчыны і фармалізму. Некаторыя з ім змагаліся, але ніхто не мог даць яму рады. Кіраваць сельскай гаспадаркай яшчэ зусім нядаўна азначала «камандаваць» — як у вайсковых падраздзяленнях. І з'явіліся адпаведныя словы: вясенняя... летняя кампаніі.. манеўр... вышыні, рубяжы, якія бяруць хлебаробы і г. д. Выслоўе «бітва за хлеб» з іх найбольш пашыранае. Прычым, «бітву» вялі найчасцей генералы ад сельскагаспадарчай вытворчасці, а сяляне, што з веку ў век гаспадарылі, даходзячы да тонкасцей, да сакрэтаў кожнага лапіка зямлі, ператвараліся ў «салдат», надзеленых якасцямі даўнейшых парабкаў. Унутраны сялянскі свет разбураўся.

Гэтыя разбурэнні ў вёсцы (і наогул у грамадстве) заўважыў адзін нямецкі філосаф і лінгвіст яшчэ задоўга да Маркса. Аналізуючы парадкі ў сваёй прускай дзяржаве, ён пісаў: «Тое, што чалавек не выбраў сам, у чым ён абмежаваны і несамавіты, не пераходзіць у ягоную сутнасць, застаецца для яго вечна чужым; ён робіць сваю справу, выкарыстоўваючы, як правіла, не чалавечыя сілы, а механічнае ўменне».

Чым гэта не дыягназ хваробы, на якую мы хварэем?.. Акадэмік Т. Заслаўская неяк зазначыла ў друку, што, калі не рэалізуецца творчыя магчымасці, чалавек нярэдка адчужаецца ад працы і грамадскіх каштоўнасцей. Напэўна, па гэтай жа прычыне (згодна сацыялагічным даследаванням) у нашай краіне на поўную сілу працуе толькі трэцяя частка работнікаў, што заняты ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы. Адсюль і вынік, вядомы ўсім.

На камандных вышынях нашай Дзяржавы вырасла не адно пакаленне адміністратараў, многія з якіх засвоілі феадальна-бaнапартысцкія замашкі, хоць і лічацца камуністамі, дыялектыкамі, носьбітамі калектыўнага розуму і вышэйшай маралі. Яны дзесяцігоддзямі ігнаравалі як саму прыроду чалавека-творцы, так і законы эканамічнага развіцця грамадства. Парушаючы іх, парушалі асноўны прынцып сацыялізму («Ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па працы») і тым самым дэфармавалі сацыялізм у самых яго асновах. Замест аб'ектыўных законаў амаль скрозь дзейнічаў так званы сілавы прэс, уяўляючы сабой адну з разнавіднасцей тыраніі. Але ж з гісторыі вядома, што нават самыя вялікія тыраны ў свеце не здольны былі адмяніць законы развіцця грамадства, хоць і стрымлівалі гэтае развіццё.

Дык вось, паездка ў Горацкі раён вярнула мяне да ранейшага сумнага роздуму аб валюнтарызме і адміністраванні, бо там, на сяле, яшчэ раз агаліліся іх стрымліваючая, шкодная ў адносінах да перабудовы сутнасць.

Яшчэ да Горак проста як анекдот гучаў у вуснах пісьменніка Аляксея Карпюка расказ пра адну актывістку ў Гродне — выхаваную для беззапаветнага служэння грамадству, аднак надзеленую адмысловымі службовымі функцыямі. Яна ўся ў руху і як апантаная прыбягае раз-пораз у райком партыі з адным і тым жа пытаннем: «Дайце мне грамадскае даручэнне!» Сама актывістка не здольна прыдумаць сабе хоць які, адпавядаючы яе інтарэсам і імпэту, занятак, аднак і без яго жыць не можа. Так сказаць, «дама-машына».

Выканаўца сёння павінен разглядацца, бадай, як закончаны сацыяльны тып, даволі распаўсюджаны ў нашым грамадстве. Селяніна адвучылі ад векавечнага працэсу мыслення — паператворцы растаблічылі і распісалі для яго ўсе дзеянні на зямлі.

Гэты ж працэс закрануў і прамысловасць. «Не разважаць!» — любімыя словы Анісімава, тыповага адміністратара сталінскай школы, галоўнага героя рамана Аляксандра Бека «Новае прызначэнне». Ён і сам сябе прымушае не разважаць, калі прымае распараджэнні зверху.

Пасля XXVII з'езда КПСС абнаўляючай паводкай жыцця дзе-нідзе падмыла жалезабетонныя палі адміністрацыйна-бюракратычнай сістэмы, але яна па-ранейшаму дзейнічае. У многіх установах, калі начальнік адлучаецца, ніхто не можа вырашыць ніякага пытання. Нават простага. А мітусня ўсчынаецца неймаверная, хоць на самай справе амаль ніхто не працуе...

Горацкі раён нас парадаваў і засмуціў адначасова. Усе пісьменнікі сышліся на думцы, што там працуюць жывыя і ініцыятыўныя людзі і што кіраўнікі раёна як сваю кроўную справу ўспрынялі перабудову ўпраўлення і самых вытворчых адносін; укараняліся брыгадны і, зрэдку, сямейны падрад, самастойнасць у рабоце розных гаспадарчых звенняў і калектываў.

— Горацкае РАПА цяпер нікому не замінае ў рабоце.

Не замінае! І гэта ўжо дасягненне? Гэта ж — мінімум, якога трэба чакаць ад РАПА. Мне, аднак, падалося, што Горацкае аграпрамысловае аб'яднанне ў штодзённай рабоце сёння здольна на самае вялікае, а іменна на выхаванне г а с п а д а р а і стварэнне для яго спрыяльных умоў на прадмет самавыяўлення. Першы крок дзеля гэтага, можна лічыць, ужо зроблены.

Дырэктар саўгаса «Дрыбінскі» Мікалай Фёдаравіч Юркоў, трохі пацяшаючыся сам з сябе, расказаў нам пра такі выпадак.

Веснавая сяўба зацягвалася. Штодня дажджыла, і не было як пускаць цяжкую тэхніку ў поле на пераўвільготненую глебу. Лепшыя тэрміны для сяўбы аўса праходзілі, бо — авёс сей у гразь — будзеш князь.

Юркоў узначальвае грамадскі савет Горацкага РАПА, ён ініцыятыўны чалавек, аўтарытэтны. Дык вось, гэты Юркоў заўважыў, што найлепшы час для аўса праходзіць, і цяпер, каб ніва ўрадзіла, трэба сеяць нейкую іншую культуру. Параіўся са спецыялістамі гаспадаркі — выбар паў на ячмень. Але ж, згодна з зацверджанай у раёне структурай пасеваў, яны павінны заняць раллю аўсом. Што рабіць? Не адно надвор'е ўлічваць даводзіцца.

І, памятаючы пра сваю заўсёдную і, можна сказаць, халопскую залежнасць ад раённых улад, селянін пры партфелі Юркоў звоніць па тэлефоне намесніку старшыні РАПА Шкурынскаму і просіць дазволу пасеяць скараспелы ячмень замест аўса.

Шкурынскі уважліва выслухаў знатнага земляроба і запытаў:

— А чаму вы мне звоніце?

— Дык вашага шэфа — старшыні — няма на месцы.

— Чаму вы наогул сюды звоніце? — у голасе Шкурынскага пачулася не то адчужанасць, не то насмешка, чаго дырэктар «Дрыбінскага» ніяк не чакаў і не мог адразу ўцяміць, што гэта значыла.

— Дык жа пытанне важнае, Леанід Уладзіміравіч. Трэба ўзгадніць, прыняць рашэнне...

— Пачакайце, пачакайце, Мікалай Фёдаравіч. Я ці вы гаспадар там, на вашых палетках? Хто павінен прымаць рашэнне?..

Шкурынскі паклаў трубку, а збянтэжаны Юркоў нейкі час яшчэ трымаў яе каля вуха. Яму зрабілася горача. Яму было сорамна за гэты званок. У краіне адбывалася перабудова, і Юркоў... ён... таксама лічыў, што стаіць не ўбаку ад яе, а тым часам атрымаў ад раённага кіраўніцтва такі прадметны ўрок. Хіба ж не ён, Юркоў, дзесяцігоддзямі, марыў, каб быць на зямлі гаспадаром?! Дык будзь ім!

Што з ім здарылася?

Я ведаў і ўяўляў сабе сітуацыю ў розных раёнах, і шырэй — па сёлах рэспублікі.

Я ведаў, што тое, на чым злавіў сам сябе Юркоў, было тыповаю з'явай. Псіхалагічная абумоўленасць і закамплексаванасць на ўчарашніх сілавых прыёмах і метадах гаспадарання стала з'явай агульнай, і яе ўплыву рэдка які кіраўнік мог пазбегнуць. Іменна гэта і з'яўлялася адным з асноўных тормазаў якаснага адраджэння сацыялізму ў дзяржаве.

Вось і Юркоў. Якую моцную сілу набыла машына уніфікацыі і ломкі пачуццяў, абкаткі і габлявання душ, калі арла яна ператварыла ў свойскую птушку, якой і крылы ўжо непатрэбны, бадай... У металалом бы гэтае бюракратычнае вынаходніцтва!

Памінаю аўтараў гэтага вынаходніцтва, парадкі гэтыя...

●

Выпадак звёў мяне ў Мінску з дырэктарам аднаго даволі буйнога прадпрыемства, і размова зусім натуральна зайшла пра новыя павевы ў жыцці і новыя ўмовы развіцця вытворчасці. Калі мы дастаткова пранікліся даверам адзін да аднаго, дырэктар спытаўся, ці ўяўляю я сабе, як пойдзе перабудова ў краіне далей?

— Уяўляю, — адказаў я, прыкідваючы ў думках, ці не тоіцца за словамі майго субяседніка які-небудзь падвох.

— А я не ўяўляю, — прызнаўся дырэктар.

І мне зрабілася ніякавата, нібы гэты дзелавы чалавек адным махам выбіў з-пад маіх меркаванняў падмурак; я кінуўся тлумачыць яму сваё ўяўленне, рэвізуючы спехам і асэнсоўваючы кожнае слова, каб не паказацца яму пустамелем.

Мне ўяўлялася перабудова ў асноўных рысах, але, шчыра, я чакаў таго, чаго не было яшчэ, — кардынальнай ломкі ў сферы дзеяння Плана і Вала, і невыпадкова, бо на вытворчасці

(Працяг на стар. 14—15).

ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ

# «Берагі майго сумлення...»

Парывіста - свежая вятрыстасць нашага часу працягвае адгортваць трывожныя і балючыя старонкі паэм, вершаў, напісаных у ранейшыя перыяды—часам нават без разліку на іх хуткую публікацыю. Яны нараджаліся як голас творчага сумлення, што не магло маўчаць.

Згадаем, напрыклад, публікацыі—паэмы А. Твардоўскага «Па праву памяці», вершаў В. Бергольц, Я. Еўтушэнкі, або з твораў беларускіх аўтараў— «Паэму тугі» А. Бачылы, «Балючую памяць» С. Грахоўскага...

Такія публікацыі таму і прыкоўваюць нашу ўвагу, што яны нясуць у сабе незаменна-каштоўную якасць—прэстыж сумленнасці. Яна вызначальнай становіцца сёння ў крытычным перачытанні папярэдніх твораў, у пераглядзе іх і выверцы на сапраўдную грамадзянскую годнасць, у разуменні, урэшце: хто ёсць хто?

Пачатак гэтага года прынёс у нумарах нашых часопісаў— лютаўскім («Маладосць»), сакавіцкіх («Полымя» і «Беларусь»)—новыя публікацыі з паэтычнай спадчыны Алеся Бачылы, якому не суджана было, на жаль, дажыць да сённяшняга разняволення грамадскай думкі, галоснасці. Праз многія з вершаў, напісаных звыш дваццаці гадоў назад, праходзіць растрывожаны матыў-роздум, які і сёння надзвычай актуальны: «Ты пасмяротна рэабілітаваны...». Як у нашым новым ладзе магло здарыцца такое, калі «жахлівае судзейства» атрымала нечуваную дэспатычна-бескантрольную ўладу і кінула на згубу мільёны ні ў чым не вінаватых людзей? Адрасуючы такое пытанне нашаму грамадству, паэт спрабуе разабрацца ў маральным і псіхалагічным клімаце таго часу, бескампрамісна ставіцца да самога сябе, да сваёй затлумленасці зроку, легкавернасці:

**Аглушаныя посвістам і тлумам**
**Пустой хвалы, не думалі: чаму**
**За нас усіх адзін павінен**
**думаць?**

**І ўсё перадаверылі яму.**
**Зрабіліся паслушнымі рабамі**
**Яго жаданняў, волі гучных**
**фраз.**

**І ён нярэдка зводзіў нас**
**ілбамі**
**І пацяшаўся, гледзячы на нас.**

Залішне катэгарычна гучыць, магчыма, прызнанне самавінаватасці («Мы! Толькі мы ва ўсім і вінаваты»), але хіба не мае рацыі і няшчаднае папіканне сябе, незадавальненне ўласнай нематой, напружанасцю, пострахам, якія, загнаныя ўглыб, у нутро, надоўга панявечылі чалавека рабскай псіхалогіяй? «Негаючая рана»—гэта не проста назва верша, з якога цытаваліся радкі. Гэта несуцішна вярэдзіцца і прамаўляе само паранёнае светаадчуванне паэта, якое не хоча выракацца першасных маральна-этычных ісцін і асноў—нязрадлівага сяброўства, любові да роднай мовы, да бацькоўскага кута. Пытанне аўтара—«Каму гэта трэба?»—кранаецца сутнасці многіх Бачылавых вершаў.

Поруч узнікае і развіваецца другая надзённа-нялёгкая тэма: «Адкуль яны, чужога свету цені, нікчэмцаў кодла, кодла стукачоў?» (верш «Ты па даносу быў арыштаваны»). Гэта яны, чынячы тое брыдотнае «судзейства», ківалі апраўдальна «на ўмовы... абкружэнне... час». Але падступае праблема з шырокай адрасацыяй: «Чаму яны, віноўнікі зладзейства, жывуць непакараныя між нас?» Пытанні набягаюць—як няспынна балючая пульсацыя роздуму: чаму ж так нягодна заведзена, што апраўдвацца і «змываць» з сябе «віну» павінны невінаватыя, ахвярна кінутыя на страту, а не сапраўдныя віноўнікі і злачынцы, тыя, што наўмысна даносілі, наклікаючы рэпрэсіі?

Роздум над шматлікімі праблемамі так моцна трымае ў абладзе творчае сумленне паэта, што заходзіць растрывожана ў многія і многія творы: «Што ж, цяпер бы судзіць іх— яны непасудныя, іх былая агіднасць забылася ім» («Трыццаць сёмы...»). Але ж чаму? На падставе даўнасці («Даўнасць тут ні пры чым»)? Ці па іншай прычыне? Паэт лічыць амаральным пакідаць пытанне і далей адкрытым—на гледжанне наступных этапаў і пакаленняў. Не трэба думаць, што лірычны герой верша жорстка-помслівы, не хоча ўлічваць абставіны і г. д. Ён проста глыбока перакананы, што ў прынцыпе чалавечай годнасці заўсёды можна не паступіцца, свядома не ісці на крывадушша, прадажнасць, паклёп. Можна і трэба засцерагчы ўласнае сумленне ад бруду. За подласць учыненую немінуча прыйдзецца плаціцца. А як жа інакш?

**Не злапомсныя мы,**
**і вышэйшае меры**
**Мы не хочам за кожнае слова**
**маны,**
**Толькі як да канца**
**ў справядлівасць паверыць,**
**Калі кары людское мінулі яны?**

Міжволі гляджу на даты пад вершамі: 1965, 1966. Часцей за ўсё. Падступае здзіўленне: чаму менавіта ў гэты час найбольш бунтавалася непрымірымае творчае сумленне Алеся Бачылы? Прыгадаем, што ў канцы 1964 года нечакана было перапынена тое дзесяцігоддзе, якое развівалася пад навальнічным дыханнем XX і XXII з'ездаў нашай партыі, гістарычна пераломных у жыцці краіны. Гэта было дзесяцігоддзе, якое пад корань падсякала ўсеўладны культ асобы, а разам—замахнулася і на агромністую бюракратычную машыну «звышцэнтралізацыі», арыентавала на шлях многіх спрыяльных для гаспадарання рэформ, на пацяпленне агульнага грамадскага клімату, прыўздымала самакаштоўнасць чалавечай асобы. У многіх паэтаў (П. Панчанкі, М. Танка, А. Куляшова, А. Пысіна, Н. Гілевіча, А. Вярцінскага, Г. Бураўкіна і інш.) паспеў за гэты час «прарэзацца» грамадзянскі абвострана-чуйны слых і голас, да многіх прыйшло як бы «другое дыханне» творчасці, далейшае раскрыццё патэнцыяльных магчымасцей таленту. Не абмінуў гэты ўзбуджальны працэс і А. Бачылу.

Але вось што цікава. У той час, калі паэзія «другога дыхання», а таксама паэзія маладых віравала грамадзянскімі ваяўніча-наступальнымі настроямі і матывамі творчасць А. Бачылы параўнаўча стрымана карысталася арсеналам лірыка - публіцыстычнай паэтыкі. Прырода яго глыбока лірычнага дару па-свойму прапускала праз сябе тагачасную бурлівасць грамадзянскіх пачуццяў («Матчына мова», «Наказ маці», «Роздум на венскіх могілках»). І толькі пасля таго, як час пацяплення, рэформ, прагі перамен быў нечакана перапынены і дырэктыўна заменены на перыяд т. зв. «стабілізацыі» (мовячы сучасным азначэннем—застою), пасля таго, як беларуская паэзія пачала ўціхамірвацца, сунімаць прамоўніцкую страснасць, улагоджвацца, заглыбляцца ў падтэкст, прырода творчасці Алеся Бачылы перажыла сапраўднае ўзрушэнне. Яго прыроджаная няўступнасць, нават упартасць (нездарма ж тады быў і абвешчаны яго прынцып: «Калі што хвалы найвышэйшае варта, дык толькі настырнасць і толькі упартасць») не на жарты ўзбунтавалася, назіраючы вакол сябе пераўладкаванне, прыцішэнне.

З-пад пяра з'яўляюцца адзін за адным дзесяткі вершаў. Толькі некаторым з іх удаецца прабіцца ў свет, на старонкі перыёдыкі, кніг («Пахаванне паклёпніка», «Няхай жыве рогат!», «Сумленне»). Для вершаў такой танальнасці часы былі не тыя. Што там казаць, калі нават праз дваццаць гадоў, пад час пасмяротнага выдання трохтомніка збору твораў паэта (1986), толькі лічаным з іх («Вясёлая казка», «Жывеш... Здаецца, і не хмурыць...») удалося прабіцца на старонкі. Проста дзіўна, што тады (пазалетась жа!) не ўдалося падключыцца да збору твораў — ні «Паэме тугі» («Полымя», 1987, № 6), ні вось гэтым сёлетнім публікацыям, пра якія размова.

Бачылавы радкі «Ты пасмяротна рэабілітаваны...» асацыятыўна стасуюцца і да твораў, пасмяротна «рэабілітаваных» і ў набытку самога паэта. Да тых твораў, на якіх жорстка-бездухоўная рука ўжо размашыста паставіла тыпова загаднае: «зняць!». Цяжка і ўявіць, што лепшыя з іх маглі апынуцца (ці такое не здаралася?) за «бортам» літаратуры.

Становіцца зразумелым, чаму, сутыкнуўшыся з перыядам вяртання да рэгламентацыі, спробы адраджэння культаўскіх часоў, паэт гэтак устрывожана і апантана ўзяўся за мастацкае асуджэнне і агаленне даўняга засілля дагматызму, уціску дэмакратычнай думкі, розгнага сваволля «ганебных дзяржымордаў»; вяртанне да іх—гэта шлях у бездань. Пяром паэта вадзіла прага маральна-этычнага самаачышчэння грамадства, выбаўлення праўды ад напластаванняў хлусні, паклёпніцтва, шальмоўства, якія, да канца не асуджаныя, пачалі зноў харобра і брыдотна падымаць галовы. Многія з твораў мелі на ўвазе зусім канкрэтныя з'явы і тыпы, з'едліва агалялі іх, высмейвалі, выходзячы да абагульненняў, да вельмі надзённых перасцярог. Верш «Як не ўдаўся скрыпачом...» падсякае звыродную з'яву хлёсткімі, запамінальна-адточанымі радкамі («Ох, цыган жа ты, цыган, гаўкала-сабака. Выгляд робіш, дабрадзей, што другіх бароніш, — сам жа ўпотайкі людзей прадаеш, як коней»), ставячы цяжкое пытанне перад часам: «Дык што ж далей будзе?».

Бачыць, як жывыя памкненні да праўды засмоктвае застойнае балота, і—маўчаць? Мяняць угодліва фарбы—толькі на абельванне? Зноў прыстасоўвацца? «Абы... заўважылі старанне, абы... неабмінулі званнем» — дзеля гэтага мяняць кроўную жыццёвасць тэм і праблем на драбязу? Вось так, як адзін з масцітых, якому захацелася пацвіргітаць у размове са шпаком. Алесь Бачыла не можа ўстрымацца, каб не адгукнуцца на такое творчае здрабненне надзённа грамадзянскім вершам («Паэту, які адважыўся на размову са шпаком»), дзе ёсць і смех, і непрыхаванае абурэнне:

**Спрадвек трымаліся вы моды,**
**Іржавым гнуліся цвіком.**
**Лягчэй жа ціўкаць са шпаком.**
**Дзе трэба бачыць—вы сляпыя,**
**Глухія там, дзе трэба чуць...**

Сярод вершаў, вернутых да агульнаграмадскага жыцця, пасмяротна «рэабілітаваных», шматзначна, па-мастацку стала гучаць таксама творы «Рускаму брату» і «Дыялогі сярмяжнай мовы». Ідэя ў іх роднасная: сцвярджэнне адзінства нацыянальных і інтэрнацыянальных праблем у жыцці краіны. Уражвае гэтая даверліва ўжытая, глыбока прачулая форма размовы:

**Мой рускі брат, слязьмі ў нас**
**вочы поўны...**
**Скажы: няўжо ты хочаш новых**
**слёз?**
**Няўжо дазволіш, каб таптаў**
**чыноўнік**
**Другіх народаў мову, побыт,**
**лёс**

**І ледзь не прымушаў ад маці**
**адракацца,**
**Ад роднае зямлі, ад песень,**
**ад бароў?**
**Нас хочуць пасварыць, з нас**
**хочуць пасмяяцца...**
**На іх руках разні мінулай**
**кроў...**

Напісана дваццаць тры гады назад, а як па-сучаснаму ўвасоблена бачанне трывожнага стану рэчаў, разгортвання праблем, што чакаюць сёння, як ніколі, вельмі ўдумнага і чуйнага вырашэння. Поруч з закліковымі формамі ў творы асабліва падкупае сцішаная просьба-мальба, звернутая даверліва, па праву спаконвечнай роднасці да рускага брата: «Ушчэнт развей шавіністычны чад! Не дай чыноўнікам сцяг Ільіча запляміць!»

Інакш—што тады можа азначаць высокае абвяшчэнне: «Жыць па Ільічу!» Паэт вяртае гэтым словам першароднае рэальна-жыццёвае напаўненне, дае ім сваю пераканаўчую мастацкую інтэрпрэтацыю — у выдатным вершы «Калі ў развагах лопае цярпенне...», які, вартасна папаўняючы паэтычныя набыткі Ленініяны, гучыць надзвычай актуальна ў святле няўхільных працэсаў дэмакратызацыі.

Шырокія, нідзе не размытыя берагі творчай сумленнасці Алеся Бачылы прыцягваюць да сябе глыбокім цячэннем чалавечнасці, праніклівым лірызмам, спавядальнасцю, няўступнай грамадзянскай мужнасцю аўтара—ад гэтых незатаптана-крынічных струменяў і настырных плыняў істотна шырэе рэчышча ўсёй нашай паэзіі.

Мікола АРОЧКА.

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# Мастацтва гліны і агню

**У апошнія гады беларускае мастацтвазнаўства дасягнула прыкметных поспехаў у даследаванні і папулярызацыі розных відаў народнага мастацтва. У немалой ступені гэта заслуга вядомага даследчыка народнай творчасці Яўгена Сахуты. Яго новая кніга прысвечана кераміцы—старажытнаму «мастацтву гліны і агню».**

Нельга сцвярджаць, што гэты від беларускага народнага мастацтва да гэтага часу не прываблівау увагі даследчыкаў. Агульны агляд народнага ганчарства ёсць, напрыклад, у кнізе І. Елатамцавай «Мастацкая кераміка Савецкай Беларусі» (1966 г.). У манаграфіі С. Мілючэнкава «Беларускае народнае ганчарства» (1984 г.) падрабязна і грунтоўна разгледжаны пытанні тэхналогіі рамяства, аднак аўтар, як этнограф, свядома адмовіўся ад мастацкай характарыстыкі ганчарных вырабаў, пакінуўшы гэтую галіну мастацтвазнаўцам. Гэты прагал і запаўняе кніга Я. Сахуты.

Праўда, зрабіць гэта даследчыку было няпроста. У раздзеле «Ад неаліту—да сучаснасці», дзе разглядаецца гісторыя развіцця рамяства, добра бачна выяўленая ў лічбах дынаміка імклівага спаду рамяства ў апошнія дзесяцігоддзі. Калі яшчэ ў перадваенныя гады ў некаторых ганчарных цэнтрах былі сотні майстроў, дык сёння засталіся адзінкі, да таго ж характар іх творчасці прыкметна змяніўся—звузіўся асартымент вырабаў, знізіўся іх мастацкі ўзровень. Калі ж яшчэ ўлічыць адносную беднасць музейных фондаў Беларусі па гэтым відзе мастацтва, дык можна ўявіць, колькі патрабавалася настойлівасці, нястомнасці і мэтанакіраванасці, каб узнавіць страчаныя (нярэдка назаўсёды) звёны народнай культуры. Вось характэрны прыклад: у музейных зборах Беларусі практычна адсутнічаюць калекцыі такога цікавага і арыгінальнага віду кeрамікі, як гліняная цацка. Між тым у кнізе ёй прысвечаны ці не самы грунтоўны і вялікі раздзел. Дзеля гэтага аўтару нярэдка даводзілася вышукваць старых майстроў, угаворваць іх успомніць ранейшае рамяство, высвятляць, што ў іх творчасці традыцыйнае, а што—позняе, наноснае, чужароднае.

Асобныя раздзелы кнігі прысвечаны дзейнасці найбольш буйных ганчарных цэнтраў Беларусі—Ракава, Міра, Копысі, Пружанаў і інш. Шкада, што няма асобнага аналізу многіх іншых ганчарных цэнтраў—Крычава, Дзісны, Ясенца, Крэва і інш. (нешматлікія звесткі пра іх рассыпаны па ўсёй кнізе). Але гэта хутчэй пажаданне, чым папрок, бо, відаць, у аўтара не было дастаткова матэрыялу.

Асабліва грунтоўна асветлена гісторыя рамяства ў Івянцы, што і не здзіўляе: гэта адзіны ганчарны цэнтр у Беларусі, дзе на базе старажытнага промыслу створана буйная сучасная вытворчасць. На жаль, гэтае ў свой час правільнае рашэнне аказалася на шкоду народнаму промыслу, пра што ўжо даўно і неаднойчы гаварылі нераўнадушныя да яго лёсу людзі, і ў першую чаргу—аўтар кнігі. Гаворыць ён пра гэта і ў кнізе. У раздзеле добра відно, як з году ў год прамысловая вытворчасць выцясняла традыцыйны промысел. І хоць аўтар з некаторай доляй аптымізму піша, што сённяшнія івянецкія майстры творча прадаўжаюць старажытныя традыцыі, вывады напрошваюцца несуцяшальныя. Івянецкі промысел патрабуе да сябе ўвагі, як, між іншым, і іншыя ганчарныя цэнтры, на што пастаянна звяртае ўвагу аўтар.

Цікавая і разнастайная ілюстрацыйная частка кнігі. Каляровыя і чорна-белыя фотаздымкі, выкананыя аўтарам, прываблівающь увагу жывасцю і нестандартнасцю падачы матэрыялу, разнастайнасцю і арыгінальнасцю «прывязкі» керамічных вырабаў да інтэр'ера, прыроднага наваколля. Аднак адчуваецца, што аўтар быў пастаўлены ў даволі жорсткія рамкі аб'ёму, куды трэба было «ўціснуць» хоць бы самыя неабходныя ілюстрацыі. Відаць, выдавецтва «Полымя», якое зрабіла добрую справу, выпусціўшы кнігу, яўна паставілася да яе як да выданняў па садоўніцтве альбо кулінарыі. Між тым народнае мастацтва патрабуе іншага, больш уважлівага падыходу. Аднак нават і ў такім параўнаўча сціплым выглядзе кніга Яўгена Сахуты, несумненна, стане добрым дарадчыкам сучасным майстрам-керамістам, музейным работнікам, даследчыкам народнага мастацтва і ўсім яго аматарам.

Генадзь БЛІНОЎ,
член Саюза мастакоў СССР.

Я. Сахута. Беларуская народная кераміка. Мн., «Полымя», 1987.

## КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

Уладзімір КОНАН

# Пачатак ПЕСНІ

**В. Коўтун. Крыж міласэрнасці. Раман. Кніга першая. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.**

НЯЛЁГКУЮ ношку ўзяла на сваё плечы Валянціна Коўтун, калі пачынала вялікі эпічны твор, дзе галоўны герой—выдатная паэтка Алаіза Пашкевіч, сапраўдная Цётка беларускай класічнай літаратуры. Жыццё было ў яе гераічнае, амаль легендарнае, і тут, мабыць, больш прыдатнымі былі б іншыя віды і жанры мастацтва — сімфонія, драма, паэма. Аднак жа і раман—жанр універсальны, здольны акумуляваць выяўленчыя магчымасці ўсёй мастацкай літаратуры. Тут уся справа ў сувымернасці паміж талентам аўтара і прадметам яго адлюстравання.

Не толькі ў нацыянальнай, айчыннай, але і ў сусветнай літаратуры не часта сустрэнеш раман, у аснове якога было б жыццё выдатнага пісьменніка. Часцей пішуць на гэтую тэму дакументальныя аповесці, дзе дастаткова прыдаць белетрызаваную форму вядомым з гісторыі літаратуры падзеям і фактам, да якіх аўтар у лепшым выпадку дадае новыя, здабытыя яго ўласнымі архіўнымі ці краязнаўчымі пошукамі. Наогул жа, як здаецца, дакументальная аповесць апошнім часам выцясняецца навукова-публіцыстычным нарысам. У гэткім жанры напісана кніга Лідзіі Арабей «Стану песняй» (1977 г.) пра Алаізу Пашкевіч. Раман-эсэ Алега Лойкі «Як агонь, як вада...» пра жыццё Янкі Купалы таксама атрымаўся ў асноўным публіцыстычным нарысам.

Таленавітай літаратурнай публіцыстыцы звычайна ўдаецца раскрыць пэўныя рысы характару пісьменніка; аднак жа выявіць цэласнасць яго асобы як рэальнага суб'екта гісторыі і нацыянальнай культуры, здаецца, пад сілу толькі мастацкай інтуіцыі. Тут патрэбна душэўная сумяшчальнасць паміж аўтарам і аб'ектам яго мастацкага выяўлення, больш таго, іх пэўная асабістая адпаведнасць. Кожны, хто далучаўся да свету Алаізы Пашкевіч, змог пераканацца, што яна была паэтам ва ўсіх праявах свайго жыцця, а не толькі ў літаратурнай творчасці.

Зусім невыпадкова, што за стварэнне эпічнага твора пра яе жыццё ўзялася паэтка Валянціна Коўтун. Захаваўшы вернасць паэзіі, яна разам з тым набыла пэўны вопыт як празаік, даследчык літаратуры і фальклору. У паэме «На зломе маланкі» (1979 г.) (па кампазіцыі, рытмічнай інтанацыі, меладычнасці і кантраснай вобразнасці гэты твор нагадвае санату для скрыпкі — паэтычная алюзія на «Скрыпачку беларускую» Цёткі). В. Коўтун узнавіла паэтычны вобраз Алаізы і яе Радзімы. Драматычная паэма «Суд Алаізы» (1985 г.) можа разглядацца як своеасаблівая прэлюдыя да будучага рамана, бо тут ужо выразначыліся контуры некаторых раманных герояў і іх антаганістаў. Праўда, у мастацкіх адносінах гэты твор уступае паэме «На зломе маланкі»: імкнучыся «шэкспірызаваць» яго, аўтарка не пазбегла прыгодніцкіх эпізодаў і вонкава эфектаваных сцэн, якія ў нейкай ступені падмянілі ўнутраную, духоўную драму герояў.

Апошнім часам пачаліся атакі на традыцыйную плынь беларускай прозы, моцную не займальнай фабулай і не меладраматычнымі падзеямі, а слоўным жывапісаннем шматграннасці народнага быцця. Мне бачацца ў гэтай тэндэнцыі сур'ёзныя хібы ў мастацкім гусце, які ў рэшце рэшт у нас не вытрымаў напору масавай культуры.

Аўтар «Крыжа міласэрнасці» пайшла па нялёгкім шляху стварэння інтэлектуальна-філасофскага рамана. Шматграннасць, дыялагічнасць і антанамічнасць ісціны ці праўды жыцця раскрываюцца ў ім праз унутраны, лірычны свет гераіні, а таксама праз сістэму ўзаемазвязаных фабул навелістычнага тыпу, дзе значную змястоўную нагрузку нясуць на сабе пластычна выпісаныя вобразы, падзеі і ўчынкі, якія, апрача свайго сюжэтнага значэння, маюць яшчэ апасродкаваны, сімвалічны сэнс.

Поспех ці няўдача мастацкай рэчы шмат у чым прадвызначаюцца яе экспазіцыяй, завязкай фабулы, наогул «дэбютнай часткай». У рамане В. Коўтун яна нечым нагадвае пачатак санатнай музычнай кампазіцыі. Уяўляецца беларускі драўляны горад 1900 года на беразе ракі Піны, што як быццам бы прымроіўся ў ранняй шэрані, калі цемра ночы паволі адыходзіць, а дзень яшчэ не настаў. Размытыя абрысы ўсяго наваколля—воднай стужкі ракі, яе берагоў, гмахаў гарадской плошчы—напаўрэальныя, сатканыя з быцця і небыцця. А ў цэнтры гэтага акварэльнага пейзажу — тонкая постаць дзяўчыны-пілігрымкі: «Нечаканы боль, што верацяно, рэзка кальнуў вастрыём знутры, з самай сярэдзіны грудзей, ажно перахапіла дыханне. Мігатлівая зорка, успыхнуўшы ў вачах, тут жа разляцелася чырвонымі кропачкамі, пачала нечакана і часта пульсаваць. Спалохаўшыся, Алаіза рэзка скранулася з месца, ступіла яшчэ некалькі крокаў да Піны. І замерла. Боль адразу ж адпусціў, і яна ўжо слухала, як па-камарынаму ўедліва і тонка ные вільготная цёмная цішыня... Прыпыніўшыся, зірнула сабе пад ногі, на чорную зямлю, і пахіснулася. Ад шыі па спіне пакаціўся непрыемны вільготны холад. Здалося, што тут, каля самых яе ног, зеўрае бяздонная чорная яма».

Такое бывае ў людзей уражлівых, душэўна відушчых: у рэдкія моманты амаль містычнага далучэння да прыроды ім дадзена прадбачыць свой уласны лёс, будучыню краіны, народа, трагедыю блізкіх людзей у прароччых сімвалічных вобразах ці прывідах.

Намаганнем волі Алаіза вяртаецца ў рэальнасць. Жыццё паватовага гарадка на беразе Піны шматгалосна і шматфарбна разгортваецца перад вачыма адукаванай сялянскай дзяўчыны. Яна перапыніла вучобу на апошнім курсе віленскай прыватнай гімназіі, дзе разам з ведамі набыла цяжкую хваробу лёгкіх, і цяпер вяртаецца ў вёску, каб прынікнуць да роднай зямлі, наладзіць школку для сялянскіх дзетак, сустрэцца з бацькамі і сябрамі дзяцінства.

Трагічны матыў гэтай уверцюры да «сімфоніі жыцця» будучага выдатнага паэта і грамадскага дзеяча ў вобліку міласэрнай жанчыны змяняецца жанравай карцінай у стылі жывапісу Брэйгеля Мужыцкага: Алаіза назірае, як гандлёвая плошча на беразе Піны напаўняецца шумам-гоманам летняга кірмашу з яго характарыстычнымі, часам амаль гратэскнымі постацямі сялян і мястэчкоўцаў, што паводзяць сябе вольна і раскавана—як на карнавале. Побыт і мастацтва не толькі суседнічаюць, але і перамешаны ў агульнай плыні жыцця: на прыбярэжжы віруе кірмаш, і ў гэты ж час за прыстань зачапілася баржа, а на ёй артысты-аматары наладзілі спектакль—паказваюць «Пінскую шляхту» В. Дуніна-Марцінкевіча, звяртаюцца да кірмашовай публікі на палескай гаворцы. Тут упершыню пачула Алаіза, як гучыць беларускі верш са сцэны вандроўнага тэатра.

На пінскай прыстані Алаіза сустрэла арцель кафельшчыкаў. Яны прывезлі свой выраб і цяпер вяртаюцца назад, цягнучы баржу па рацэ, як бурлакі. Сярод іх—сябра дзяцінства Костусь Каранец, сірата, які шэсць гадоў таму назад прыехаў да свайго дзядзькі Міхайлы Гмырака, арандатара на зямлі Алаізінага бацькі Пашкевіча Сцяпана. Роднага сына Андрэя Міхайла адправіў да сваякоў у Пецярбург на вучобу, а Костусь наняўся да Пашкевічаў пастухом. І цяпер на шчацэ хлопца заўважыла Алаіза шрам ад пугі, якой пачаставаў арандатар былога пастушка. Костусь быў адным з тых, каго ратавала ад зняваг міласэрная Алаіза.

Плывучы на баржы разам з арцельшчыкамі і вандроўнымі артыстамі, яна нанова у думках перажыла тую шчаслівую пару жыцця ў бацькавай хаце—перад ад'ездам у Вільню. За шэсць гадоў сябры яе змяніліся: Андрэй забыў дарогу да роднай вёскі, а Костусь, надзелены ад прыроды талентам мастака, растрачвае яго марна, імкнецца «выбіцца ў людзі» з свайго парабкоўскага стану, нават выконвае ролю «прыдворнага» жывапісца паватовай судзейчыхі.

Пад ціхае плюхаценне баржы Алаізіна памяць узнавіла яркія карціны сядзібнага побыту, каларытныя вобразы вяскоўцаў. Вясковае «інтэрмецца»—адзін з лепшых фрагментаў рамана: аўтарцы ўдалося перадаць духоўнае адзінства працаўніка-селяніна з зямлёю, сядзібай, з няхітрымі, але дасканалымі і прыгожымі ў сваёй прастаце хлебаробскімі прыладамі працы. Лізанька (так зваў яе бацька) атрымала ад бацькоў лепшыя рысы народнага характару — працавітасць, сялянскую цягавітасць, таленавітую і спагадлівую душу, урэшце, яшчэ і сціплыя сродкі, каб вучыцца ў прыватнай гімназіі. Найбольш каларытны тут вобраз старэйшага з Гмыракаў — дзеда Гаўры, удзельніка паўстання 1863 года. Гадоў дзесяць таму назад вярнуўся ён з мураўёўскага астрога і царскай ссылкі, страціўшы маёмасць, шляхецкае званне і нават павагу збоку сваіх мітуслівых сына і ўнука. Вось ад гэтага «кінжальшчыка» і касінера, каго хатнія лічылі бадай што вар'ятам за «старамодны» дэмакратызм і беларускае донкіхоцтва, маладая Пашкевічанка атрымала блаславенне ў навуку і апошнія залатыя чырвонцы—усё, што засталося ад шляхецкай маёмасці рыцара эпохі Каліноўскага.

В. Коўтун ведае і паважае традыцыйны побыт сялянства, але не замахваецца на панарамнае адлюстраванне яго паўнаты на сумежжы двух апошніх стагоддзяў. Вясковае жыццё Алаізы, яе бацькоў і аднавяскоўцаў пададзена ў форме эпізадычных імпрэсій ці ўспамінаў гераіні. Пазбягае аўтар прамой паэтызацыі вёскі ці празмернай драматызацыі цяжкай сялянскай працы. Дзед Алаізы меў аж два фальваркі, адзін з якіх дастаўся яе бацьку Стэфану. Тыповыя «кулакі» паводле мерак «сацыялагічнага» літаратуразнаўства. А па шчырай праўдзе, такія сялянскія сем'і былі, як правіла, шматдзетнымі, трымаліся на сялянскай цягавітасці, памножанай на хлебаробчы талент іх гаспадароў. З асяроддзя такіх «фальваркавых» сялян і дробнай шляхты выйшлі першыя беларускія пісьменнікі-адраджэнцы.

Творчасць Цёткі, як вядома, вызначаецца дынамічнай рытмікай, яе фабулы, вобразы і сюжэты рухомыя, кантрастныя, і ў гэтым бачыцца прыкмета новага мастацкага мыслення дваццатага стагоддзя. Вечнай пілігрымкай была і сама паэтка, яна ніколі доўга не заседжвалася на адным месцы з таго часу, як семнаццацігадовай дзяўчынай пакінула бацькоўскую хату. Жыла ў Вільні, Пецярбурзе, Львове, Кракаве, пабывала ў Італіі, Фінляндыі, Германіі, Швецыі, Нарвегіі. Было тут і вымушанае расстанне з радзімай, але і быў таксама арганічны інтэрнацыяналізм пісьменніцы, павага да ўсіх народаў свету, цікавасць да іх жыцця і культуры, жаданне перадаць іх духоўны вопыт роднай Беларусі.

І ў рамане «Крыж міласэрнасці» мы найчасцей сустрэнем Алаізу ў дарозе: на баржы, у поездзе, на дрогкім сялянскім возе, на шырокіх «лініях» Пецярбурга або ціхіх вулках Вільні. Разварушанае жыццё пачатку нашага стагоддзя В. Коўтун найчасцей падае праз успрыманне ці ўспаміны сваёй гераіні. Гэта, па сутнасці, паэтычны, лірычны метад адлюстравання рэальнасці, і ён прыносіць тут неблагі плён. Прыкметы сучаснай рэалістычнай прозы—незавершанасць паасобных сцэн і эпізодаў, выкарыстанне прыёму «кінематаграфічнага мантажу», імкненне зафіксаваць «плынь свядомасці» герояў — таксама прысутнічаюць у гэтым творы. Аўтарка працягвае традыцыі псіхалагічнай прозы, заснаваныя ў беларускай літаратуры М. Гарэцкім, Кузьмой Чорным і прадоўжаныя нашымі таленавітымі празаікамі 60 — 70-х гадоў.

У дакументальнай аповесці «Стану песняй» Лідзія Арабей выказала меркаванне: мабыць, яшчэ ў 1899—1901 гадах, калі Алаіза вучылася ў прыватнай гімназіі і ўрыўкамі працавала настаўніцай, яна пазнаёмілася з віленскім рэвалюцыянерам Іванам Касяком, з якім сябравалі Фелікс Дзяржынскі, а пазней і малады настаўнік Канстанцін Міцкевіч. У рамане В. Коўтун гэтая гіпотэза разгорнута ў цікавы мастацкі сюжэт. Падзеі адбываюцца ў доме чыгуначніка на станцыі Лентварыс. Там ёй давялося сутыкнуцца з жандарскім ротмістрам Генісарэцкім і з непрыемнасцю прыкмеціць у яго кампаніі пры начным вобыску сябра дзяцінства Андрэя Гмырака.

Першы з іх — фігура адназначная, тыповы кар'ерыст, які роднага бацьку прадасць за трыццаць сярэбранікаў, калі толькі яму паабяцаць службовы поспех і адпаведныя матэрыяльныя даброты. Аднак жа ў кантэксце беларускай гісторыі — гэта не толькі сколак «праклятай мінуўшчыны». Створаны пісьменніцай вобраз цікавы ў якасці люстэрка для некаторых «дзеячаў», апантаных «комплексам янычара». Выбіўшыся «ў людзі» з асяроддзя простага народа, яны выракаюцца сваіх бацькоў, братоў і сясцёр, а разам з тым — роднае мовы і нацыянальнай культуры. Але і гэтага ім мала: трэба яшчэ вызваліцца ад рэштак сумлення, дзеля чаго янычары заўсёды «палілі масты», каб выпадкова не спатыкнуцца на парозе матчынай хаты, якая часам можа стаць перашкодай на дарозе да кар'еры. Ім патрэбна не толькі вырачыся ўсяго свайго, «хатняга», бацькоўскага, стаць чужынцамі ў некалі родным краі, але яшчэ ўзвесці паклёп на яго, абкрасці гісторыю свайго народа, пазбавіць мінуўшчыны і будучыні, адвучыць яго дзяцей ад роднай мовы, ад матчынай песні.

Жандарскі ротмістр Генісарэцкі ва ўсіх эпізодах рамана паводзіць сябе паводле такой «логікі», дэманструючы пэўную паслядоўнасць характару, вытрымку і калектыўны вопыт тайнай паліцыі.

На іншым квасе замешаны, інакш спечаны Андрэй Гмырак. Ён тыповы «блудны сын» беларускай вёскі: там сябраваў ён з Алаізай, там паміж імі зарадзілася рамантычнае каханне, яму прысвяціла таленавітая дзяўчынка свае першыя вершыкі. Ён—нашчадак паўстанца 1863 года, сын былога шляхціца, арандатара, а пазней рамесніка-кафельшчыка. А ў сталічным універсітэце Андрэй вучыўся за кошт тытулаваных сваякоў, і спачатку яны, а пасля лупцоўкі ў Петрапаўлаўскай цытадэлі (рамантык - студэнт удзельнічаў у стычцы з паліцыяй) царскія жандары «замясілі» і «перапяклі» яго на новы від і лад. І вось перад намі больш прыземлены, чым герой аповесці М. Гарэцкага, тып чалавека, асобу якога цягнуць у супрацьлеглыя бакі «дзве душы». Адмовіўшыся ад чалавечага гонару, пагадзіўшыся на хлусню і змову з тымі, хто яго катаваў, Гмырак прыняў пасаду ў віленскім акружным судзе. Наіўны «слабак», ён думаў абхітрыць паліцэйска-чыноўніцкую машыну — захаваць ранейшыя сувязі з рэвалюцыйным студэнцтвам. На справе ж яго самога лёгка абхітрылі, непрыкметна зрабілі міжвольным правакатарам у стане нацыянальна-вызваленчага руху.

Асноўная фабула рамана і большасць яго эпізодаў памастацку «прывязваюцца» да віленскага і пецярбургскага перыяду вучобы Алаізы: васемнаццацігадовай дзяўчынай яна прыехала ў Вільню, а праз дзесяць гадоў закончыла ў 1904 годзе курсы Лесгафта ў Пецярбурзе, экстэрнам здала экзамены ў Аляксандраўскай жаночай гімназіі, каб атрымаць права вучыцца ва універсітэце. У гэты ж час гераіня рамана прайшла універсітэт жыцця і палітычнай барацьбы, якая пачалася тады якраз з радыкальнага студэнцкага руху. Вобразы прафесараў Лесгафта і Юхневіча, эпізод сустрэчы Алаізы Пашкевіч са славутай пісьменніцай Элізай Ажэшкай, сяброўства і супрацоўніцтва з Вацакам, археолагам Януком і іншымі студэнтамі, будучымі дзеячамі беларускага культурна-нацыянальнага руху належаць да бясспрэчных удач аўтара. Тут, як гэта ўжо не раз было, мастацкая літаратура абагнала навуку. У гісторыкаў усё яшчэ пануюць штампы, калі гутарка заходзіць пра пачынальнікаў беларускага культурна-палітычнага руху і заснавальнікаў нацыянальнага друку. Іх доўга замоўчвалі ў мастацтвазнаўстве і ў гісторыі літаратуры, толькі некаторым знайшлося сціплае месца ў апошніх беларускіх энцыклапедычных выданнях. Сёння, у перыяд духоўнага абнаўлення грамадства, наспеў час адрадзіць народную памяць пра іх.

У рамане В. Коўтун ёсць навела, на маю думку,—найбольшая ўдача пісьменніцы, у сваім родзе невялікі шэдэўр. Гутарка ідзе пра паездку Алаізы пасля маўклівага разрыву з Андрэем у калонію для пракажоных, дзе яна хацела папрацаваць настаўніцай. Фрагмент гэты сімвалічны, ключ да назвы рамана, бо якраз тут гераіня ўпершыню прымерала крыж да сваіх худзенькіх жаночых плячэй. Гэта, здаецца,— чыста мастацкі факт, ён не мае рэальнага «правобразу» ў вядомай біяграфіі Цёткі, аднак ужа вельмі тыповы для яе самаахвярнай натуры і чалавекалюбівай душы. Ёй было мала любові да людзей наогул, да Беларусі, роднае мовы, хацелася дапамагаць жывым людзям, ратаваць канкрэтнага чалавека, стаць любячай маці і Цёткай для сялянскіх дзетак.

Калонію ўзначальвае падзвіжнік айцец Павел, пасля смерці жонкі яму памагае семнаццацігадовая дачка Алена. Усе трое—прыгожыя людзі, узнёслыя непасрэднай «звычайнасцю» сваёй дабрыні. Але іх «крыжы», на думку аўтара, былі ў нечым несумяшчальныя. Алаіза інтуітыўна адчула прыхаваны страх свяшчэнніка, боязь таго, каб таленавітая настаўніца сваім «умяшаннем у кола вялікага пакутніцтва» не разбурыла свет яго штодзённага подзвігу, «у якім жыве цяпер з маскаю святога і з адчуваннем сябе як адзінага бога ў гэтым закінутым кутку». Баяўся ён і таго, каб Алаіза не павяла за сабой Алену ў свет больш шырокі за калонію, туды, дзе патрэбна ратаваць цэлы народ, у якога ўкралі мову і радзіму.

І ўсё ж чытач адчуе, што аўтар несправядлівы, нават крыху тэндэнцыйны да Паўла. Гэта якраз той выпадак, калі пісьменнік, хочучы «праклясці» свайго героя, логікай мастацкай праўды благаслаўляе яго.

Прыпомнім пачатак рамана: адзінокая, хворая Алаіза на беразе начной Піны адчула жудаснае прыцягненне бяздоння. Там яна «ледзь не пабегла, як уцякаючы ад нечага прывідна-пачварнага, што вось-вось, здаецца, дагоніць цябе, што ўжо і дакранаецца да спіны доўгімі пальцамі выцягнутых рук»... Было ў яе адчуванне хуткаплыннасці жыцця і сваёй трагічнай наканаванасці. Але ў душы гэтай кволай любячай жанчыны, клапатлівай маці - настаўніцы беларускіх дзетак быў моцны мужчынскі, рыцарскі пачатак—тая духоўная сіла, пра якую так моцна сказаў другі беларускі паэт трагічнага лёсу: «Жывеш не вечна чалавек,—перажыві ж у момант век! Каб хвалявалася жыццё, каб больш разгону ў ім было... Жыві і цэльнасці шукай, аб шыраце духоўнай дбай».

Следам за класікамі сусветнай паэзіі беларуская паэтка стварыла свой, беларускі варыянт Помніка песнярам Беларусі:

**На магіле ўзыду дубам,**
**Пачну шаптаць братнім губам**
**Аб іх долі, аб свабодзе,**
**Стану песняй у народзе!**

У першай кнізе рамана — толькі пачатак гэтай песні. Чакаецца прадаўжэнне рамана: у другой і, мабыць, у трэцяй кнігах узнікне неабходнасць прадоўжыць сюжэтныя лініі, што перасякаліся праз жыццёвы і літаратурны шлях паэткі. Сёння яшчэ рана даваць канчатковую ацэнку месцамі кампазіцыйна незавершанага твора. Пакуль што можна адказаць на пытанне, для якога чытача напісаны твор. Ці толькі ж для аматараў беларускай літаратуры? В. Коўтун удала пазбегла ілюстрацыйнасці: вобразы, сюжэты, іншыя мастацкія факты тут маюць самастойную эстэтычную каштоўнасць. Зразумела, не ўсё роўна ў гэтым творы. Як ніяк, — гэта першы раман паэткі. Тут часам заўважаеш сляды літаратурнай вучобы, аднак жа на лепшых узорах айчыннай прозы. Ёсць у рамане свая рытміка пры ўяўнай арытмічнасці, кампазіцыйнай «раскіданасці»: яна—у цыклічнасці асобных фабул навелістычнага тыпу, у іх прамой ці ўскоснай «прыналежнасці» да свету галоўнай гераіні. Твор вызначаецца разнастайнасцю моўных характарыстык персанажаў у залежнасці ад іх сацыяльнага стану і духоўнага ўзроўню. У рэшце рэшт, гэты твор—для няспешнага чытання, заглыблення ў гістарычнае жыццё народа.



**«Спадчына» — так называецца творчае аб'яднанне пры Мотальскай сярэдняй школе № 1 Іванаўскага раёна. Вучні, якія ўваходзяць у яго, вывучаюць гісторыю роднай вёскі, біяграфіі аднавяскоўцаў, паданні. У літаратурнай гасцёўні клуба калгаса «40 год Кастрычніка» яны арганізуюць сустрэчы са старажыламі, ветэранамі вайны і працы, самадзейнымі артыстамі. Часта бываюць тут і беларускія пісьменнікі.**

Перад мотальскімі школьнікамі выступае Віктар Карамазаў. Справа — Анатоль Кудравец і Мікола Пракаповіч.

Фота Э. КАБЯКА. (БЕЛТА).

# «Санеты смутку»—па-беларуску

Імя славенскага паэта Францэ Прэшарна добра вядома не толькі ў яго на радзіме, дзе суайчыннікі з гонарам называюць яго сваім Пушкіным, але і на ўсёй планеце, бо паэзія Ф. Прэшарна перакладзена на многія мовы народаў свету. Прыйшла яна і да беларускага чытача, калі дзякуючы Нілу Гілевічу ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыў свет анталагічны зборнік «Маці мая, Славенія».

Цяпер — новая сустрэча з Ф. Прэшарнам. Падарунак аматарам паэзіі зноў зрабіла «Мастацкая літаратура». Найперш— аматарам мініяцюрных выданняў. Зборнік Ф. Прэшарна «Санеты смутку» з годнасцю працягвае своеасаблівую серыю кніжачак, у якой у розныя гады выходзілі творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка і іншых аўтараў.



У тым, што з'явілася гэтае унікальнае выданне, немалая заслуга перакладчыка Янкі Сіпакова і мастака Міколая Селешчука. З багатай па змесце творчай спадчынай Ф. Прэшарна (пра жыццёвы і мастакоўскі шлях пісьменніка Я. Сіпакоў падрабязна расказвае ў пасляслоўі «Слова, што вырасла з сэрца і болю») невыпадкова выбраны «Санеты смутку». Менавіта гэты цыкл, які з'яўляецца вяршыняй філасофскай лірыкі Ф. Прэшарна, перакладзены на многія мовы. Дзякуючы яму ў свеце адкрылі і палюбілі славенскую паэзію.



У «Санетах смутку» раскрываецца свет пачуццяў чалавека, што вымушаны жыць у складаны час. Ф. Прэшарн, як вядома, нарадзіўся на пачатку XIX стагоддзя, калі паўднёваславянскія народы, у тым ліку і славенцы, перажывалі сваё нацыянальнае адраджэнне. Але сталася так, што неўзабаве нацыянальныя школы зноў былі закрыты, пачаліся ганенні супраць тых, хто мысліў вольналюбіва: «Жыццё — турма, а час — як кат мне, людзі, туга на кожны дзень — мая дзяўчына, сум і адчай — сябры, што днююць чынна, бяда — наглядчык, што і ўночы будзіць».

Міколай Селяшчук, ілюструючы творы Ф. Прэшарна, заглыбіўся ў свет паэтавых вобразаў, спасцігаючы тое, што, як кажуць, на паверхні не ляжыць, а вынікае з самой паэтычнай тканіны санетаў.



Выхад зборніка Ф. Прэшарна «Санеты смутку» — сведчанне не толькі прадуманага мастацкага афармлення, а і высокай ступені паліграфічнага выканання. Малюнкі М. Селешчука (за выключэннем партрэта Ф. Прэшарна) маюць памер дзвюх старонак кніжкі. Ці варта нагадваць, як цяжка было выконваць пераплётныя работы, каб кожную ілюстрацыю падаць у зборніку акуратна згорнутай папалам?!

Адным словам, выйшла кніжка, якая прыйдзецца даспадобы і аматарам паэзіі, і калекцыянерам мініяцюрных зборнікаў.

А. ВІШНЕЎСКІ.

# Салдат Канстанцін Федзін

Летам 1943 года на фронт у госці да салдат —удзельнікаў Курскай бітвы—прыехала група пісьменнікаў: К. Федзін, А. Серафімовіч, Ус. Іваноў, П. Антакольскі, Б. Пастарнак.

У байцоў стралковай роты, у якой гасцяваў Федзін, завязалася цесная дружба з пісьменнікам. Федзін быў пастаўлены на ўсе віды забеспячэння ў рэдакцыі дывізійнай газеты «За Отчизну». Загадам па дывізіі ён быў прызначаны ганаровым правафланговым.

У загадзе гаварылася: «За вялікі асабісты ўклад у справу папулярызацыі баявых дзеянняў савецкіх воінаў у Вялікай Айчыннай вайне, за еднасць на фронце з салдатамі, камандзірамі і палітработнікамі залічыць пісьменніка К. А. Федзіна ганаровым правафланговым салдатам 1-й стралковай роты 1022-га стралковага палка 269-й стралковай дывізіі».

Пасля гэтых слоў, якія зачытаў перад байцамі камандзір палка, прагучала дружнае трохкратнае «ўра!».

На тым мітынгу выступілі палітработнік Галактыён Размадзе, камандзір роты Іван Хмялёў, сяржант Міхаіл Малодзікаў.

«Для мяне і маіх таварышаў гэта вялікі гонар, але разам і абавязак наступаць яшчэ імклівей і хутчэй здабыць Радзіме перамогу!

Біцца з ворагам трэба яшчэ больш рашуча, паколькі ў нашым страі праслаўлены пісьменнік К. Федзін»,—сказаў М. Малодзікаў.

Многія салдаты і афіцэры дывізіі сталі ў далейшым героямі шматлікіх нарысаў пісьменніка аб Вялікай Айчыннай. Гэта «Камандзір дывізіі» (пра А. Кубасава), «Салдаты», «На маршы» і інш.

Героі нарысаў Федзіна вызначаліся і ў наступных баях — ужо на беларускай зямлі. За ўдзел у баях у раёне Рагачова былі ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза Г. Размадзе, І. Хмялёў, М. Малодзікаў, М. Умурдзінаў, В. Ардашаў і іншыя. 269-я стралковая дывізія ўваходзіла ў склад 3-й арміі пад камандаваннем генерала А. Гарбатава. Салдаты гэтай дывізіі прайшлі з баямі да Эльбы, і заўсёды нібы ў адным страі з імі знаходзіўся К. Федзін. Ён часта прысылаў пісьмы камдыву генералу А. Кубасаву, рэдактару газеты І. Арлову. Ведаў і памятаў асабіста многіх салдат. І яны не забывалі яго.

У пасляваенныя гады генерал арміі А. Гарбатаў, камдыў 269-й стралковай дывізіі А. Кубасаў, сяржант В. Ардашаў, радавы М. Умурдзінаў былі ўдастоены звання «Ганаровы грамадзянін» розных гарадоў Беларусі. У Журавічах цяпер знаходзіцца музей 269-й стралковай дывізіі.

У пятым томе збору твораў К. Федзіна ў раздзеле «Некалькі населеных пунктаў» ёсць і запіскі-ўспаміны аўтара пра яго знаходжанне на фронце ў час баёў за вызваленне Курска, Арла, Браншчыны і ўсходніх раёнаў Беларусі.

Б. ДАЛГАТОВІЧ,
кандыдат гістарычных навук.

 

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Алесь ПІСАРЫК**



●

Мо ўсе мы — рыбы пад вадою:
І мель свая, і берагі...
Сусвет, які нябёсы тояць
Ад нас,—далёкі і глухі.

Наіўна часам разважаем
Пра тое — скуль мы ўсе пайшлі,
І нават вечнае — звужаем
Прымеркай сціплай да Зямлі.

А дзе, скажыце, азарэнне,
Дзе ўзлёты вольніцы-душы?
Адкуль нябеснае гарэнне
І след на камені чужы?

Адкуль у нашых душах немач
І тая роспач з веку ў век?
Чаму б не ўгледзецца у неба,
Адкуль спускаўся чалавек?

Чаму б не зразумець, што людзі
У адной з расквечаных планет—
І ўладары сабе і суддзі,
І кожны бог тут і паэт!

Трывожна і ўначы і днём:
Нябачна стронцыю свячэнне...
Чаму мы ўсё яшчэ жывём
Пад страхам самавынішчэння?

На лад, якія пачуць хацеў,
Пясняр, сваю настройвай ліру!
З галінкай вішні заляцеў
У нашы сэрцы
Голуб міру...

●

Абкружылі цыганкі кабету,
Штось гадаюць ёй наперабой.
І жаночае сэрца слабее
Перад хітраю іх варажбой.

Вось дастала
Вузельчык з-пад світкі,
Развязала яго, і рублі
Па чырвоных руках варажбітак
Неўпрыкмет для яе паплылі...

Ёй казалі пра нейкія чары,
І пра гора яе на вяку,
Ну а самі лавілі вачамі
Задурманенай цёткі руку.

І стаяла яна, як вярбіна,
Нізка схіленая да вады,
Бо нямала жыццё натрубіла
На яе і грахоў і бяды.

Ёй казалі,
Што ў мужа-Міхалкі
Маладых палюбоўнічак — цьма!

— Хопіць голаў дурманіць,
Цыганкі:
Муж з вайны не вярнуўся, няма...

### Як паслала я пасцельку завідна

Гора-гора-гараванейка маё,
Пагубіла я здароўечка сваё
За блазлівым мужанёчкам жывучы,
Позна-рана пасцель белу сцелючы.

Як паслала я пасцельку завідна,
Ды лягла ў яе, паплакаўшы, адна.

Мне адной пасцелька тая, як зіма,
Прыкачуся — майго мілага няма.

Адчыню я вокны ў садзік, ды бягом
Паспяшаю да суседкі на агонь.
А ў суседачкі мой любенькі сядзіць,
На яе, як заварожаны, глядзіць.
Пойдзем, родненькі, да хаты да свае,
Не рабіма пагавору на сяле,
Каб з нас людзі не смяяліся,
Дарожанькі не ўцяшаліся.

### Снежная завея

Вытканы
Завейнымі ўзорамі абрус
Раскаціўся ў полі,
Засцілае рунь.

З ціхае даліны,
Скуль туман плыве —
Свецімца
Чупрынаю
Рыжаю сівец.

Там ставок заспаны
Між кустоў рудых,
Там —
Паразмятаны зайкавы сляды.

Белымі аўчынамі
На калінах снег.
—Не азяблі ў полі?
— Не!.. — пачую ўслед.

Ды пад сіпаткія
Ветрыкавы спевы —
Скуль яны ўзяліся
Маразы і веі?

Запяклася чырвань
На шчаках калін.
З поля — замець белая
Мчыць да лугавін...

### Жураўка

З ДЗЯЦІНСТВА МАЦІ

У першы год вайны—
Хавалася між купін
Жураўкаю...
Была малога росту.
І мо таму
Не ссекла яе куля...

ПРОЗА



Алесь Каждуб

# Помнік

Апавяданне

ПРА ПОМНІК Аляксей Калюга ўпершыню падумаў неўзабаве пасля смерці жонкі. А што ж? Помнік — гэта помнік, якая розніца, калі яго зробяць, да тваёй смерці ці пасля. Хоць будзеш ведаць, што ён ёсць, твой помнік. А пасля смерці ўсякае можа быць. На некаторых магілах пахілыя крыжы ці гэтыя цяперашнія нарубы з дзвюх дошак ужо даўно струхлелі, а помніка як няма, так і няма. І ўжо не будзе, пэўна. Забываюцца дзеці на сваіх бацькоў. Закапаў — а там хоць трава не расці.

Аляксей Пятровіч чалавек рашучы, сказаў — зрабіў. Паехаў заказваць помнік жонцы — і пра другі пачаў гаварыць.

— Чакайце,— не зразумеў яго загадчык майстэрні, малады, у барадзе, няйначай, з былых ці будучых мастакоў,— адзін помнік, так сказаць, нябожчыцы, а другі...

— Мне,— хітнуў галавой Аляксей Пятровіч.— Два помнікі, адзін жонцы, другі мне.

— Нам, канечне, усё роўна...—схаваўся ўвесь за бараду загадчык, твар у яго і так з печаны яблык, а з гэтай папоўскай барадой нават носа не ўбачыш. — У вас што, дзяцей няма?

— Усё ёсць! І дзеці, і ўнук,— усердзіўся Аляксей Пятровіч,— а мне трэба два помнікі!

Аляксей Пятровіч таму і не хадзіў з просьбамі ніжэй дырэктара ці загадчыка, каб не задавалі лішніх пытанняў. Рэзалюцыю на паперу — і пайшоў. А тут дзеці, унук... Адразу відаць, што дырэктарства гэтаму творцу, як карове сядло. Можа, хоць помнік людскі зробіць.

— За тэрміновасць работы дабаўлю! — стукнуў рукой па стале заказчык.

— Мы лішняга не бяром,— скасавурыўся на дзве карткі барадаты, іх яму адразу ўручыў Аляксей Пятровіч, жончыну і сваю.—Жонка, значыць, памерла, а вы, так сказаць, уласнай персонай...

— Я доўга не працягну,— супакоіў яго Аляксей Пятровіч. — А з помнікам і паміраць лягчэй. Якія ў вас узоры?

Загадчык сам правёў яго па двары, паказаў узоры помнікаў, параіў з чорнага мармуру.

— Гэты падыходзіць,— згадзіўся Аляксей Пятровіч,— толькі вось тут усё трэба забраць пліткай.

— Дык гэта ж спецыяльна для кветак,— растлумачыў мастак,— а па баках такі акуратны бардзюрчык...

Паказваючы, загадчык ледзь не абцёр барадою мармур, пастаяў, растапырыўшы рукі, перад Аляксеем Пятровічам замест куста жывых кветак.

— Не трэба,— адмахнуўся той,— закрыйце пліткаю — і ўсё. Хто іх будзе саджаць, тыя кветкі...

Заключылі дамову, Аляксей Пятровіч падпісаўся на трох экземплярах, заплаціў невялікі аванс — і паехаў да хаты ўсцешаны, задаволены.

Зрэшты, думка пра помнік ускочыла ў галаву Аляксею Пятровічу ў бальніцы, куды ён трапіў пасля жончынай смерці. Па суседстве ляжалі такія ж, як і ён, небаракі, хто змагаўся з сваімі балячкамі, а хто і плюнуў на іх, нават не адказваў на пытанні дактароў. Аляксей Пятровіч хоць і разумеў, што пугай абуха не пераб'еш, аднак лёгка здавацца не збіраўся. Па-першае, недажыў яшчэ да бацькавых гадоў, той памёр у шэсцьдзесят два. Ды і як памёр? Зімой сорак чацвёртага года пераехала з іхняй вёскі ў суседнюю Вярхінь бацькава сястра Хадоска, папрасіла перавесці карову. І недзе пад Вярхінню бацьку перастрэў бугай, які сарваўся з калгаснага хлява. Бацька быў яшчэ дужы, але бык дужэйшы, пакачаў бацьку па зямлі. Карову бацька давёў, ды вярнуўся ўжо зусім благі, адразу лёг, не захацеў ні піць, ні есці. А ўначы паклікаў Лёшку: «Паміраю, сынок...» Пасля Аляксей убачыў на спіне бацькі вялізныя чорныя пісягі. Ды тады, у вайну, людзі мерлі, як мухі, без бугаёў.

А па-другое, не з усім яшчэ разлічыўся Аляксей Пятровіч на гэтай зямлі. Канечне, без ягонай Ганны ўжо быццам і няма сэнсу ў жыцці. Але ж вось помнік ёй паставіць, дабіцца праўды на былой рабоце...

Хоць якая ўжо работа. Паўгода назад перавялі яго на інваліднасць па хваробе, а цяпер, кажуць, зусім першую групу дадуць. Ну ды нічога, якнебудзь яшчэ паліпіць.

У бальніцы ён больш за ўсё гаварыў з Іванам Аляксандравічам Лычкоўскім, які ляжаў побач. Івану Аляксандравічу пад восемдзесят, але галава светлая, многа чаго помніць.

— Тут у Целяшах да рэвалюцыі маёнтак пані Бараноўскай быў,—расказваў Лычкоўскі.— Багатая пані, дом на два паверхі. Наш полк недалёка стаяў, дык мы да яе то на абед, то на вячэру з танцамі. Усіх прымала, і частавала добра, па-шляхецку. Ну, пасля нас на пазіцыі, канечне, а пра пані Бараноўскую мне пасля расказалі. Прыйшоў семнаццаты, рэвалюцыя, яснае дзела, экспрапрыяцыя з нацыяналізацыяй. Ну і мужычкі да пані Бараноўскай — маўляў, было ваша, цяпер наша. А яна выйшла да іх на ганак і кажа: «Будзе горай — ды не нам, будзе лепей — ды не вам». Сабралася і паехала за мяжу. З сабой толькі золата ўзяла.

— Не забылася?—здзівіўся Аляксей Пятровіч.

— Пра гэта ніхто не забываецца, — насупіўся Іван Аляксандравіч, але хутка адышоў.— Дык што вы думаеце — год-два назад праз французскае пасольства паступіў да нас запрос: тая самая пані Бараноўская патрабуе, каб ёй выплацілі грошы за маёнтак! Кампенсацыю!..

— Жывая яшчэ?! — зноў здзівіўся Аляксей Пятровіч.—А чаму столькі гадоў маўчала?

— Чаму-чаму... Самі разумееце, які час быў, а цяпер, так сказаць, пацяпленне. Ну, і рашыла па свае грошы звярнуцца.

— Пачытаўшы цяперашнія газеты, дык можна і аддаць,— пажартаваў Аляксей Пятровіч.— У нас цяпер з захадам мір-дружба.

— Ніхто нічога не аддасць! — не зразумеў жарту Лычкоўскі.— А пані Бараноўскую я яшчэ маладой помню. Надзене доўгую сукенку, брыльянты, вянок з жывых руж — і сама сустракае афіцэраў. Музіцыравала, вершы чытала...

— М-да,— уздыхнуў Аляксей Пятровіч,— жыццё... А вы, прабачце, кім працавалі?

— Кім я толькі не быў! — засмяяўся Іван Аляксандравіч.— Нават у бухарскага эміра служыў, ваенспецам. Пасля ў чырвоных... Вайсковым чалавекам заўсёды быў!

— Ясна, — супакоіў яго Аляксей Пятровіч. — Вайскоўцы ва ўсе часы і ўсім уладам патрэбны.

— Яно так,— расчуліўся Іван Аляксандравіч.— Паслужыў за сваё жыццё! Вы вось намнога маладзейшы за мяне, а я яшчэ праз крэсла магу пераскочыць, з месца! Хочаце, пакажу?

— Не трэба! — спалохаўся Аляксей Пятровіч. — Вы лепш пра пані Бараноўскую расказвайце.

— А што пані? Сядзіць сабе дзенебудзь у Парыжы, грошай чакае. А мне тыя грошы ніколі не патрэбны былі. Зараз во пяцьдзесят рублёў пенсіі — і хапае.

Аляксей Пятровіч слухае, падтаквае, смяецца разам з Былым. Але ж ён не ў лесе гадаваўся, разумее, які той ваенспец. Пяцьдзесят рублёў пенсіі ваенспецам плаціць не будуць. Калгаснікі, і тыя больш атрымліваюць. Альбо ён ніякі не афіцэр, альбо... Ды хай сабе гаворыць, весялей пад кропельніцай ляжаць. У Аляксея Пятровіча спярша быў другі сусед, Параход. Невысокі, чарнявы, вусы, як у цыгана, але адразу відаць, што не цыган. І вочы нейкія каламутныя, разнаколерныя. Аляксей Пятровіч прыйшоў у палату, уладкаваўся, праверыў, ці добра стаіць ложак. А сусед ляжаў, як калода, нават не павітаўся. Аляксей Пятровіч, зрэшты, усюды спіць добра, хоць у гасцініцы, хоць у цягніку, хоць на чужым ложку,— а тут сярод ночы прачнуўся. Сусед гаварыў, ціхенька, сам з сабой, але гаварыў не сціхаючы. Аляксей Пятровіч прыслухаўся. «Яна харошая, не, яна харошая жанчына... Ні ў якім разе! Яна табе па мордзе дасць. Ні ў якім разе! Яна табе па мордзе дасць, а я ёй па шыі!»

— Сціхні! — цыкнуў на суседа Аляксей Пятровіч.— Ты чаго не спіш?

— Бу-бу-бу...— закруціўся той з галавой у коўдру, прыціх.

Аляксей Пятровіч заплюшчыў вочы — і зноў прачнуўся. Сусед гаварыў ужо мацней:

— Параход пайшоў — а мы гудзім, гудзім... Пайшоў параход — а мы ўсё гудзім!

— Звар'яцеў?! — падскочыў Аляксей Пятровіч, нахіліўся над суседам — і пачуў пах перагару.— Во, гад, нават у бальніцы набраўся!.. Ды табе, брат, не ў гэтую бальніцу трэба... ЛТП па табе плача!

А сусед раптам сеў на ложку, дакорліва паківаў галавай, лагодна спытаўся:

— Хочаш, я табе верш раскажу?

Аляксей Пятровіч толькі плюнуў.

— Не хочаш верш — давай песню спяю! Харошая песня...

— Не звяртайце на яго ўвагу,— сказаў нехта з кута,— ён ціхі. Жонка кінула, дык перажывае чалавек. Крыху вось так пагаворыць — і засне. Смірны ён, спакойны. Ваня, кладзіся!..

— Спакойны!.. — раззлавана крутнуўся Аляксей Пятровіч.— Усе яны спакойныя... Нажлукціцца, тады людзям спаць не дае. Відаць жа, што белыя коні па яго прыскакалі.

— Яму адэкалон прыносяць,—сказаў той жа голас,— з адэкалону, відаць, і загаворваецца. А так смірны.

Назаўтра, канечне, Аляксей Пятровіч схадзіў да загадчыка аддзялення, прыгразіў, што напіша ў газету, і пасля абеду Парахода павялі некуды з усімі ягонымі трантамі.

— Параход пайшоў — а мы ўсё гудзім!..— сказаў яму на развітанне Аляксей Пятровіч.

— Звіняйце, калі што, — усміхнуўся ў адказ Параход. — Стрэсы, знаеце, тое ды сёе, вось мы і... Звіняйце.

— Давай-давай! — адпусціў яго Аляксей Пятровіч. — Там падлечаць, здымуць, так сказаць, твой стрэс.

Пасля гэтага побач з'явіўся Былы. З ім было і спакайней, і цікавей. Што і казаць—пажыў чалавек! Але з ім пра помнік Аляксей Пятровіч не гаварыў. Падумаць падумаў, але ні словам не абазваўся. Навошта? Помнік — ягоная асабістая справа, няма чаго сюды чужых людзей мяшаць.

І сынам нічога не сказаў. Старэйшы, Міхась, зашыўся ў сваёй сталіцы, да бацькі наязджае раз у год, — ну і няхай там сядзіць. Усё роўна яны з ім больш лаюцца, чым мірацца. Апошні раз прыязджаў, дык Аляксей Пятровіч так і сказаў: «Усяго трэці дзень тут, а апрыкраў больш, чым за тры месяцы!»

Не падабаецца яму, ты ж разуме-



 

А з лесу выйшла —
Глянулі:
Дарослая!

У свой
Чацвёрты клас
Пайшла
У ботах,
У кірзачах —
Салдацкага памеру...
Пасля заняткаў
Да змяркання
Потым
Цягала плуг —
Да поснае вячэры...

То разам з бацькам
На касьбу хадзіла, —
Ажно звінелі
У золкім лузе росы...
Так, вельмі рана
Стала самастойнай,
А людзі гаварылі:
— Бач, дарослая!

●

Журботную песню
шчырун-салавей
Ля ціхай рачулкі спявае.
Напэўна і ён
Не салодка жыве,—
Ранейшай раскошы не мае...

Ужо і гняздзечка
Няма дзе схаваць:
Чаромху дзятва
Аблатошыць заўзята,
Страсе і гняздо...
Анямее трава,
Не змогшы схаваць
Птушанятак...

Таму
І няўцешны бывае ў начы
Салоўка сваім шчабятаннем...
О, чым жа табе,
Добры птах, памагчы,
Калі
Рэчка высмяглай стала,
Калі чэзне ў лузе
Апошні дубец
Каліны,
Падрэзаны плугам,
Даўно не расце
Ля рачулкі мой бэз,
І пчолы
не звоняць над вухам.

●

«У адным канцы вёскі
скачуць,
У другім — плачуць...»
Памерла ўдовая Хадосся.
У хаце —
Свечкі на куце...
Чуваць,
Як нехта з баб галосіць,
Відно,
Як яблыня цвіце...

Чуваць,
Як недзе за павеццю
Труну збіваюць мужыкі.
Стуль —
Патыхае хвояй вецер...
Распачынаюць спеў шпакі.

Наўкол — жыццё:
Вунь —
Людзі сеюць —
Ідуць за конікам гнядым.
І едзе з горада
Вяселле,
Грыміць на ўцеху
Маладым.

●

Кожная хата назву мае сваю—
Сваю гісторыю.
І калі ў руках маці
З'яўляецца спрытны чапёлак,
Звыклы да справы сваёй каля
печы,
Я прыгадваю калгаснага
каваля —
Дзядзьку Стася.
Гасцюючы неяк у нас,
Ён пажадаў:
«Дай бог, каб ніколі
Не астываў качарэжнік!..»
Згадаў каваля.
Адчуваю, што вершу
Цяпла нестае.

# Вясковыя пявунні

Як рады былі яны
Спадчыннай песні,
Хоць сэрцы і ў бедах,
І ў горычы горкліся...
Сканалі бабулькі,
А песні не ўмерці,
Іх песні
ручайнага голасу...

Адну —
Прахарыхаю звалі суседкі.
Хоць помніла
Песень багата яна,
Ды рэдка пяяла
Іх на бяседзе,
Віною —
Балючая стрэмка —
Вайна!

Другую —
Арынаю звалі ў наўколлі,
Напэўна,
Спяўнейшай душы не было,
Спявала
Аднолькава звонка і ў полі,
І за гасцінным вясельным
сталом:
Села дзевачка на пасадзе,
Як бела вішанька ў садзе,
А з пасадку ўстала,
Як ружачка завяла.

Каля яе дзевачкі,
Як лён — бяленечкі,
А хлопчыкі ходзяць,
Ды ўсё гамоняць:
— Дурні былі самі,
Чаму мы не бралі,
Такую харошую
Чужому аддалі...

Надзіва
Вяселлі звіняць у сяле!
Без песні —
Не свята ў Дукоры!
Народ весяліцца —
І мне весялей,
Ясней і ў душы,
І ў прасторы...

## ВІНШУЕМ!



Спаўняецца 75 гадоў вядомаму крытыку і літаратуразнаўцу Васілю Івашыну. Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнем новых творчых поспехаў, добрага здароўя.

Супрацоўнікі «ЛіМа» таксама зычаць юбіляру ўсяго найлепшага ў жыцці і творчасці.

еш, як бацька жыў.

— Чаго ты дабіўся? — пытаецца. — Пасля вайны ў Заходняй людзей раскулачваў, высяляў? Высяляў. Думаеш, яны цябе дабром памінаюць? Сам жа расказваў: прыязджаеце, зачытваеце загад, дваццаць чатыры гадзіны на зборы — і па вагонах. Адных у Сібір, другіх у Карэлію, лясы секчы.

— Я не толькі высяляў! — злуе Аляксей Пятровіч. — А з бандытамі хто ваяваў? Ты што, думаеш, бульбашы проста так на балотах сядзелі? На работу з тваёй маці прыходзім, а ў райаддзел міліцыі ўжо трупы прывозяць на вазах. То старшыню сельсавета, то ўпаўнаважанага... Дык што ж з імі цацкацца?! Мы апошнюю банду ў Пінскіх балотах знішчылі. Акружылі на лясным хутары, прапанавалі здацца. Тыя ў адказ страляюць. Мы тады з ракетніц страху падпалілі, добра, саламяная была, загарэлася, як порах. Адзін хацеў праз гару выскачыць, дык яго з кулямётаў, перакрыжаваным агнём. Але ніхто не здаўся, так і згарэлі, шэсць чалавек. Зацятыя ворагі, не ты іх, дык яны цябе.

— Можа, некаторыя з іх таму і сталі бульбашамі, што ты хутары выкарчоўваў, людзей высяляў.

— Пры чым тут я? Калектывізацыя! Мы толькі выконвалі загады. А бандыты яшчэ да пяцьдзесят трэцяга на балотах сядзелі. Пасля растварыліся, зніклі.

— А за што цябе з міліцыі выгналі?

— За тое, што начальніка міліцыі пры ўсіх баязліўцам назваў. Паехалі на заданне, убачылі, як з крайняй хаты вёскі выйшлі трое і падаліся ў лес. Маёр Бачароў, начальнік, крычыць: «Стой, страляць будзем!» А тыя самі пачалі страляць. І ўцякаюць, канечне. Дык іх акружыць трэба было, да лесу яшчэ далёка. А гэты Бачароў пык-мык, адных туды пасылае, другіх сюды... Пачалі мы страляць — а перад намі нашыя ж міліцыянеры аказаліся. Тыя і ўцяклі ў лес, краму абрабавалі, дык з мяшкамі ўцяклі. Толькі адзін мяшок з цукрам кінулі. Ну, я і кажу: «Здрэйфілі вы, таварыш маёр». А ён на мяне рапарт. Ды я і сам з імі не хацеў... Героі толькі па чашачках на тэлеграфных слупах страляць. Едзем на вазах з задання і смалім з наганаў, як на вайне. Патроны ж трэба растраціць, маўляў, цэлую ноч вялі бой з пераўзыходзячымі сіламі праціўніка. А я што, я бухгалтар, мне ўсё роўна, дзе лічыць, хоць у міліцыі, хоць у сельпо. Так і звольніўся.

— Паваяваў, адным словам.

— А што ж, як да работніка да мяне ніколі ніякіх прэтэнзій не было. Скажуць — выканаю. Можа, трошкі гарачы быў... Тады ж, у пяцідзесятыя гады, з першым сакратаром райкома пасварыўся, выключылі з партыі, але ж праз сем год Бюро ЦК узнавіла! Не, сын, мне за сябе не сорамна.

— Вось мы і чытаем зараз, што такія, як ты, наварочалі. І калектывізацыя тая няправільна праводзілася, і людзей дарэмна на край свету сагналі... Сам кажаш: захацеў першы сакратар — выгнаў з работы і з партыі.

— Але ж я не прапаў! Нідзе на работу не бралі, дык памагалі сябры, камбікорму, дроў, сена прывозілі. Выжыў, і вы з голаду не памерлі. А за тыя загады аб калектывізацыі я не адказваю. Час такі быў.

— Усе вы на час ківаеце... Не час, а людзі вінаватыя. Ды хоць бы меў ты што-небудзь за свае подзвігі... Вазьмі сваю працоўную кніжку — то з адной работы турнуць, то з другой, то з трэцяй. Не толькі ўсю Беларусь праехалі, — на поўдні адзначыліся. Вунь маці першая не вытрымала...

Аляксей Пятровіч ведае, што старэйшы сын не ўхваліў бы і помніка. Мала што не ўхваліў — абсмяяў бы, аблаяў, абазваў бацьку дурнем, яго б на гэта хапіла. Калюгу-старэйшага, канечне, ніякімі словамі не возьмеш, школу ён прайшоў суровую, аднак лішні раз слухаць усякае глупства не хочацца. І без сына ўжо з гэтым помнікам наслухаўся. Першым сябар і паплечнік Кузьма Ільіч Гарохаў закруціў носам.

— Помнік?! — здзівіўся ён. — Сабе? Нешта я не... А што на ім выбіта?

— Мой партрэт і дата нараджэння, — растлумачыў Аляксей Пятровіч. — Самую лепшую картку для партрэта выбраў, там я галоўным бухгалтарам на лёнзаводзе. А дату смерці сыны падставяць, калі захочуць.

— Помнік, канечне, гэта добра... Але ж неяк мне гэта не да сэрца — каб мой жа помнік перада мной стаяў і мазоліў вочы!.. Як жа я буду глядзець на яго?!

— А навошта глядзець? Я яго ў падвале паставіў, тварам да сцяны. Калі спатрэбіцца — выцягнуць. Затое душа спакойная. Вунь стараверы сабе труну загадзя робяць, нават спяць у ёй, а я што, помнік не магу заказаць?

— Ды можаш заказаць, чаму не... Сынам, значыць, не давяраеш?

— Дачакаешся ад тых сыноў... — стаў бокам да Гарохава Аляксей Пятровіч. — Яшчэ закажуць які-небудзь дзяшовенькі помнік, сорамна ляжаць будзе. А тут узяў тое, што захацеў. Не, хай стаіць.

— Ды хай, канечне, толькі я не буду... Прыедзе з Саратава сын, паставіць. Буду ўжо як усе людзі паміраць, па-старому.

— А чаго табе паміраць? Здароўе пакуль ёсць, дык жыві. Вось у мяне ўжо першая група, доўга не працягну.

— Не нагаворвай на сябе.

І суседзі пасмейваліся, даведаўшыся пра помнік, і пляменнік Сяргей паціскаў плячыма. Але Сяргей змоўчаў, ён заўсёды ведаў, што ў дзядзькі Аляксея свая галава на плячах.

Дык вось, старэйшы сын Міша помнік, вядома, не ўхваліў бы, а з меншым, Віцькам, пра яго і гаварыць не варта. З ім наогул гаварыць няма сэнсу, ні пра што. Пустая галава ў чалавека. Ужо адзін раз жаніўся, ніяк сабе работу людскую не можа знайсці, то слесар на заводзе, то вартаўнік у дзіцячым садзе, а то па тры месяцы на поўдні прападае, цягаецца, як шалудзівы сабака. Не, Аляксей Пятровіч на яго даўно махнуў рукой. Пустадомак! Але ж з хаты выганяць не будзеш, вось і жывуць, як чужыя. Віцьку што бацькаў помнік, што дождж, што левы бот — усё роўна. Абы выпіць ды з гэтымі лахудрамі нечасанымі пацягацца. Аляксей Пятровіч ужо і сам ганяў іхнія кампаніі, і міліцыю нацкоўваў, а ім хоць бы што. Рагочуць!

І вось выйшаў ён з бальніцы, атрымаў на камісіі першую групу — а за так яе не даюць, — цяпер сядзіць у сваёй хаце. Урачы пра дыету гавораць. Якая дыета! Было б што з'есці. І хадзіць цяжка, ён жыве на апошнім пятым паверсе, ліфта, канечне, няма. Пакуль зойдзе на сваю гару — мошкі ў вачах мігцяць, ногі, як ватныя, сэрца з горла скача. Першая група — гэта капцы, ён і сам пра гэта ведае.

А сёння рашыў схадзіць у сквер над ракой. Дзянёк пагодны, пачатак восені, дык і сонца лагоднае, і ветрык ледзь павявае, гладзіць па твары. Паціху-памалу, асцярожна ступаючы па няроўным асфальце, прайшоў аж тры аўтобусныя прыпынкі, сяк-так ускараскаўся на гару, на якой некалі было замчышча, а цяпер дзіцячы сквер з грыбкамі і драўлянымі скульптурамі нейкіх балванаў. Народу мала, дык спакойна пастаяў, гледзячы на шырокую прастору ўнізе. Дняпро той жа — і быццам не той. Вунь новы востраў паявіўся, ды які вялікі, метраў сто ўдаўжыню. Леваруч тапалёвы гай, яго Міша з Віцькам саджалі, як у школе вучыліся. Поплаў за ракой увесь жоўты, сонца за лета ўшчэнт выпаліла. Калісь там добрыя сенакосы былі. Над ракой крычаць кнігаўкі. Бач, усе берагі забралі бетонам, рыбаловам і сесці няма дзе, а гэтыя кнігаўкі, як і раней, тужліва пішчаць, вярэдзяць душу.

Што ж, Аляксей Пятровіч. Папанасіла цябе па свеце, дык хоць памрэш на родных берагах. Праўда, ён вось і нарадзіўся на Дняпры, ягоная вёска за дваццаць кіламетраў уніз па рацэ, аднак быў да яго абыякавы. Ні купацца не любіў, ні лавіць рыбу. Вада і вада, цячэ сабе чорт ведае куды, зараз, пасля Чарнобыля, кажуць, атручаная. Рака сама па сабе, а ў Аляксея Пятровіча заўсёды свае справы былі, чалавечыя.

Адсюль, з Дняпра, быў ён накіраваны на работу ў Заходнюю Беларусь, там ажаніўся, нарадзіліся сыны. Цяпер вось Міша папікае, што не так жыў. Жыў, як людзі жылі. Адзін чалавек мае хутар, другі гэты хутар ліквідуе. Закон жыцця. Не, Аляксей Пятровіч сябе не кляне, не мучыць, як некаторыя. З песні слова не выкінеш. А песні тыя не ён складаў, разумнейшыя за яго былі. Не ён, дык другія знайшліся б, а ўсё роўна правялі тую калектывізацыю, і хутары зруйнавалі б. Гадоў пяць назад ён ездзіў туды, дзе прайшлі лепшыя гады, маладыя гады. Многае змянілася, гарадок папрыгажэў, дарогі асфальтавыя, балот ужо амаль не засталося. А кінутыя хутары дасюль стаяць, нічога іх не бярэ. Пустазелле вышэй вокнаў, заместа стрэх суцэльныя дзіркі, а сцены стаяць, трымаюцца за зямлю.

Так, лепшыя гады засталіся там... З партыі выключалі, доўга на работу нідзе не мог уладкавацца, а ўсё роўна вясёлы хадзіў, здаровы! Міхась нападае, бо не разумее нічога, дарма што ў сталіцы жыве. Такія, як Аляксей Пятровіч, пражылі тое, што ім адпушчана. Некаторыя, праўда, хітрэйшыя аказаліся, грошай назбіралі, ладныя гаспадаркі завялі, пакуплялі машыны. А ў Калюгі кватэра з двух пакойчыкаў, тысяча рублёў на кніжцы, — і ён ні аб чым не шкадуе. Каму хочаш можа глядзець у вочы. Сумленна жыў — сумленна пойдзе.

Міша кажа, што не памянуць яго дабром тыя сагнаныя са сваёй зямлі палешукі. Няхай! Але ж і яго самога не раз і не два падстаўлялі, як апошняга дурня. Заўсёды праўду-матку ў вочы рэзаў, вось цяпер і не патрэбен нікому. Зайшоў днямі пагаварыць наконт кватэры, каб памянялі пяты паверх на які ніжэйшы. Дзе там! Як замахалі рукамі, як затрэслі паперамі, як пачалі прыгалошваць ды палохаць чаргой... Плюнуў і пайшоў. Будзе поўзаць на свой пяты паверх, пакуль зусім ногі не перастануць хадзіць. Зрэшты, ён даўно ведае, што яму асабіста ніхто нічога не павінен. Некаторыя ходзяць, нудзяць: «Мне павінны тое, мне павінны гэта, я заслужыў паёк...» Аляксей Пятровіч да такога ніколі не апусціцца.

І помнік сам сабе паставіць.

Аднойчы ён ужо дастаў свой партбілет. Пакруціў яго ў руках, пагартаў, паглядзеў на ўзносы, якія некалі плаціў. Прыстойныя былі ўзносы, не тое, што цяпер. Лічы, усё жыццё прайшоў з гэтым білетам. Аб чым-небудзь шкадуе? Не, як партыя жыла, так і ён. Можа, трохі болей за астатніх праўду шукаў, то брыгадны падрад адным з першых у аўтакалоне ўводзіў, то паведамляў у райком партыі аб незаконнай выплаце прэміяльных фондаў... З-за гэтага падраду шафёры аўтакалоны дружна напісалі на яго ў цэнтральную газету, маўляў, іхні начальнік аддзела працы і зарплаты прыціскае, самаўпраўнічае, не дае працоўнаму чалавеку спакойна жыць. Сем рэвізій было! І ніводная нічога не знайшла. А за тыя незаконныя прэміі дырэктар яго з работы выжыў. Вось так яна даецца, праўда. А ён ваяваў за яе і будзе ваяваць, пакуль жывы. Ды вось толькі няшмат засталося...

Суседзі ў адзін голас даводзяць, што ягонае здароўе нашмат пагоршылася пасля аварыі ў Чарнобылі. Маўляў, пасля яе ўсе хваробы абвастраюцца, асабліва хранічныя. Але ён пра гэта не думае. Можа, з-за Чарнобыля, а можа, і не, хто пра гэта скажа? З суседніх раёнаў людзей высялялі, у іх усё спакойна. І забароны ўжо адмянілі, можаш збіраць і есці хоць ягады з грыбамі, хоць парэчкі з агрэстам.

Уся панадрэчная прастора ўнізе была залітая сонцам, аднак колер самой ракі ўжо загушчэў сінізною, ужо быў восеньскі. Захаладала рака. І маторак на ёй паменела. Кнігаўкі, чайкі, дзеці на пясчанай лукавіне, — гэтыя тут будуць заўсёды. Прайшло жыццё, Аляксей Пятровіч, праляцела. Вось і дзеці адмаўляюцца ад цябе, ад тваіх спраў. Самі яшчэ нічога не зрабілі, а ўжо голас павышаюць, вучаць дурных бацькоў, як трэба было жыць. Аляксей Пятровіч раней выпісваў шмат газет, чытаў усё, што там напісана, «Правду» падшываў гадоў пяць запар. А цяпер падшыўку здаў у макулатуру — і да гэтага года ніводнай газеты не выпісаў, ні цэнтральнай, ні мясцовай.

— Параход пайшоў — а мы гудзім, гудзім... — сказаў ён уголас.

Дзе той Параход зараз, у якой бальніцы лечыцца? Няшчасны чалавек, загубіў сам сябе гарэлкаю, а вось нешта ўспамінаецца Аляксею Пятровічу. І тая пані Бараноўская, Былы... У кожнага сваё жыццё — і якія ж розныя гэтыя жыцці!

Сын сказаў, што ніхто не захоча яго дабром памянуць. Ну што ж, Аляксею Пятровічу не ўпершыню самога сябе за вушы з балота выцягваць. Вось заказаў помнік, прывёз чорную мармуровую пліту з уласным партрэтам, паставіў яе ў падвале, — і душа спакойная. Як пачаў ён з дзіцячых гадоў сам за сябе змагацца, — так і закончыў. А вы жывіце, як хочаце.

Цёмна-сіняя рака, здавалася, заснула, застыла, не было ёй ніякай справы да маленькага чалавека на высознай строме.

МАЙСТРЫ САВЕЦКАГА МАСТАЦТВА

# Стэфанія і Мод

Нейкую частку свайго жыцця я займаюся тым, што стаўлю ў тэатры драматычныя спектаклі. Спачатку мне хацелася скончыць рэпетыцыі як мага хутчэй, я прыспешваў час, з усіх сіл набліжаў дзень прэм'еры. Мне быў важны плён, вынік. Хацелася, урэшце, убачыць цэлае, закончанае. Пэўна, гэта ўласціва ўсім людзям: адваяваць у хаосу быцця хоць бы астравок сваёй «тэатрыторыі». Астравок твайго тлумачэння гэтага хаосу, твайго творчага стаўлення да яго, астравок твайго разумення, розуму. Адсюль усе пошукі філасофіі, мастацтва, ідэалогіі, псіхалогіі.

Але вось дзіўная рэч (злавіце сябе на гэтым адчуванні): як толькі тлумачэнне чаму-небудзь знойдзена, нам робіцца сумна. Сумна, бо — працэс спынены, бо — няма руху.

Цяпер пасля прэм'еры я стараюся радзей бываць на сваіх спектаклях (калі няма патрэбы). Спектакль пачынае разбурацца ў дзень сваёй прэм'еры, і чым далей, тым больш самотная ягоная доля. Гэта як з дзецьмі. З нейкага моманту пачынаеш адчуваць непатрэбнасць свайго выхаваўчага ўмяшальніцтва. Пачынае працаваць нейкая іншая сіла. Лёс, ці што...

Але жыццё не было б жыццём, калі б усе яго законы ва ўсіх выпадках спрацоўвалі «на ўсе сто». І ў маёй працы ёсць выключэнні. Я стараюся амаль заўсёды глядзець свой спектакль «Гаральд і Мод» на малой сцэне купалаўскага тэатра са Стэфаніяй Міхайлаўнай Станютай у галоўнай ролі. Чаму? Зараз адкажу, але спачатку крыху пра сюжэт п'есы.

Жанчына васьмідзесяці гадоў знаёміцца ў царкве з васемнаццацігадовым юнаком. Малады чалавек блізкі да самагубства і рэпеціруе яго на вачах сваёй маці ледзь не штодня. Юнацкі кніжны ідэалізм сутыкнуўся з грубаю рэальнасцю жыцця. Жыццё падманула надзеі і... Адным словам, з кім не было... Дык вось, гэтая самая жанчына — Мод зрабіла для Гаральда (героя нашай п'есы) тое, чаго не мог зрабіць ніхто й нішто. Яна прымусіла яго прыняць і палюбіць жыццё такім, якое яно ёсць. Мод «адчыніла» Гаральду таямнічы свет паэзіі, мастацтва, кахання, святла, пяшчоты, уяўлення, волі. І Гаральд палюбіў Мод (пакахаў!) і прапанаваў ёй выйсці за яго замуж, і гэта здарылася якраз у дзень яе васьмідзесяцігоддзя. У гэты самы дзень Мод пайшла з жыцця. Пайшла па сваёй волі, выпіўшы вялікую дозу снатворнага. Вось і ўсё...

Думаю, не памылюся, калі скажу, што ў дадзеным выпадку гледачы ідуць «на Стэфанію Міхайлаўну Станюту». Мы даўно адвыклі ад такой сітуацыі ў тэатры. Ну, п'еса бывае ўдалая, ну, сітуацыя вострая, камедыйная ў рэшце рэшт, але каб глядач хадзіў «на акцёра», «на асобу» — згадзіцеся, выпадак рэдкі. Каб гледачу было цікава: а што акцёр— чалавек-грамадзянін — думае пра жыццё, пра смерць, пра лёс?

У чым сакрэт поспеху Мод—Стэфаніі? Мне здаецца, у незвычайным супадзенні жыцця і тэатра, вымыслу і рэальнасці, лёсу актрысы і лёсу яе гераіні. Чым прываблівае ў п'есе Мод? Тым, што ў слове гучыць так проста, а ў жыцці даецца так складана: быць самім сабой. Не быць рабом. Захаваць сваю натуру, сумленне. Мод пражыла вялікае жыццё. У ім было ўсё: графіня па паходжанні, яна — удзельніца палітычных мітынгаў, забастовак; салонная пані, якую прымаюць у каралеўскім палацы, і вязень фашысцкага канцлагеру (на руцэ выкалаты лагерны нумар). Мод шмат вандравала па свеце, шмат пабачыла, адчула. І да чаго ж яна прыйшла ў канцы жыцця? Трэба рабіць дабро, калі гэта табе пад сілу. Уратаваць дрэўца, якое гібее; вызваліць з клеткі заапарка цюленя; зберагчы жыццё чалавеку, адагрэць ягоную душу, удыхнуць у яе святло і сэнс, цеплыню і пяшчоту. Мод здзяйсняе ўчынкі. Яна здольная тварыць. Робіць яна гэта ціха, без лішніх слоў, нічога не патрабуе ўзамен. Некаторыя выказванні Мод у гэтай п'есе гучаць, мякка кажучы, экстравагантна, а падчас і па-хуліганцку, а калі-нікалі для распаўсюджанага ў нас дагматычнага ўспрымання свету і апалітычна. Вось уявіце сабе чалавека, які кажа прыкладна наступнае:

— Недастаткова абраць правільны шлях: зрабі так, каб ён быў прыемным.

— Лепш плысці, як плывецца, інакш можна многа страціць.

— Бог ёсць каханне.

— Калі некаторыя людзі думаюць, што яны маюць на нешта права, я тактоўна асвяжаю іх памяць. Сёння вы тут, заўтра вас тут не будзе, не прывязвайцеся ні да чога.

— Шампанскае? Ну што вы, гэта ж натуральны прадукт!

Я сам для сябе намагаўся вызначыць, хто ж такая Мод. Яна ўвесь час трапечацца, рухаецца, змяняецца — вось чаму столькі супярэчнасцей і зусім мала ладных філасофскіх пабудоў. Яна такая самая хаатычная і шматварыянтная, як само жыццё. Яна вольная. Ей удалося не стаць рабыняю сваіх уласных і чужых догмаў, ідэалогій, палітычных настрояў. Яна любіць лес, мора, дрэвы, яна верыць ім і намагаецца зразумець іх патаемны сэнс.

І Гаральда зберагла Мод сваім каханнем: і няма ў гэтай п'есе ніякай «клубнічкі», — каханнем у самым вышэйшым жаночым і мацярынскім сэнсе.

Мод зусім адзінокая, у яе нікога няма, яна даўно перажыла сваіх равеснікаў, сяброў, блізкіх, але самае неверагоднае — гэта яе жыццёвая сіла, яе вера, нават аптымізм, калі хочаце. Уменне ўспрымаць жыццё як дар, як цуд. Не енчыць, не стагнаць, не траціць здаровы розум, як бы цяжка ні было. Вось што такое Мод.

А што ж такое Стэфанія?

Ды тое ж самае, ці амаль тое самае. З акцёраў старэйшага пакалення Стэфанію Міхайлаўну Станюту ў тэатры імя Янкі Купалы любяць як нікога іншага. Яна добрая да людзей, па-дзіцячы клапатлівая, вольная. Іншаму маладому артысту нават і не снілася яе сціпласць, нават сарамлівасць, яе чалавечая і прафесійная прыстойнасць, дакладнасць, тактоўнасць. Яна жыве мастацтвам усур'ёз, яна ім захоплена ў той самы час, калі так шмат людзей служаць за зарплату і ад званка да званка. У ёй ёсць нейкая не сённяшняя абавязковасць і далікатнасць, уласцівая толькі глыбока інтэлігентным людзям. Калі я бачу такіх людзей, як Стэфанія Міхайлаўна, я веру, што ў беларускай інтэлігенцыі на самай справе існуюць карані і традыцыі...

Увогуле... гэта — найвялікшая праблема. Цудоўны тэатр імя Янкі Купалы слаўны сваімі акцёрамі перш за ўсё, але як часта сумуеш (і не толькі ў тэатры — у літаратуры, у кіно, у жывапісе, наогул у жыцці) вось па такіх людзях. Так апрыкрыў на сцэне побыт, так прагнеш убачыць рух душы, духу! Так абрыдзелі на сцэне лапці ды ручнікі; ці ў паэзіі— «адвечныя» сцежкі, хаціны, палі-лясы, зямелька родная, вёсачкі, качачкі... Няўжо толькі яны і ёсць дасягненне беларускай культуры?

Бацька ў Стэфаніі Міхайлаўны быў мастаком, і да гэтага часу ў Беларускім мастацкім музеі захоўваецца ягоная карціна 20-х гадоў — «Партрэт маёй дачкі». На ёй дваццацігадовая Стэфанія з цудоўнай багатай касой...

Мне блізкая яна яшчэ і тым, што яна даўняя мінчанка і памятае наш горад зусім іншым — з конкай і сінематографамі «Эдэн», «Ілюзіён», з гатэлямі «Парыж», «Еўропа», з чароўным ліхтаром на дзіцячай каляднай ёлцы. Вось яна і нясе ў сабе гісторыю горада, нацыі, тэатра. Яна сама — гісторыя і рэальнасць адначасова. Яна звязвае такія далёкія часы, што сапраўды можна ўвераваць у бясконцасць жыцця.

І яшчэ... Раніцою Стэфанія Міхайлаўна падымаецца з усмешкай, з надзеяй, з пачуццём удзячнасці лёсу, які падараваў ёй яшчэ адзін дзень. (А я, а вы, а мы?) Можа быць, таму ў свае гады яна працаздольная, як у юнацтве, у ёй схаваны велізарны запас жыццёвых сіл. Яна не растраціла сябе на злосць, зайздрасць, не ўмярцвіла душу бясконцай хлуснёй і страхам. У ёй ёсць асаблівая арыстакратычная гнуткасць і рухомасць, уласцівыя ўсяму маладому, жывому, сапраўднаму.

Спектакль заканчваецца смерцю Мод. Самагубствам. Але — дзіўна: няма звычайнага ў такіх выпадках пачуцця жаху, бездані, катастрофы. Адыход гэтай жанчыны такі самы лёгкі, цудоўны, далікатны, як і яе жыццё. І потым — а гэта самае галоўнае — застаецца жыць Гаральд, у ім увасобілася ўсё тое, чым была Мод. Яна яго «зрабіла», ён цяпер будзе жыць.

На развітанне Мод кажа Гаральду: «Апоўначы я буду далёка...» І неяк па-сапраўднаму верыш у тое, што яна не памірае, а толькі вяртаецца ў тыя зорныя далячыні сусвету, каб зноў прыйсці на зямлю нейкай ідэяй, сутнасцю, таямніцай... нечым без узросту і часу.

...Аднаго разу Стэфанія ехала па Мінску ў таксі. Быў позні вечар, ішоў ціхі снег.

— Так дзіўна,— сказала яна, звяртаючыся да маладога шафёра,— вось мы едзем у добрай машыне, у цяпле і пры гэтым размаўляем па тэлефоне, а з магнітафона гучыць музыка. А некалі я гэтаю дарогаю ехала на концы.

У машыне было цёмна, але Стэфанія заўважыла, як вадзіцель усміхнуўся і пакруціў галавой.

Ён ёй не паверыў.

І правільна зрабіў.

**Мікалай ПІНІГІН,**
**рэжысёр Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.**

ТВОРЧЫЯ САЮЗЫ: ВОПЫТ, ПРАКТЫКА, ПЕРСПЕКТЫВЫ



# ЯК ДАПАМАГЧЫ АКЦЁРУ

**Аб праблемах, якія сёння найбольш востра паўсталі перад прадстаўнікамі акцёрскага цэха рэспублікі, наш карэспандэнт гутарыць з членам прэзідыума праўлення Саюза тэатральных дзеячаў БССР, старшынёй камісіі СТД па акцёрскай творчасці, народнай артысткай рэспублікі Марыяй Захарэвіч.**

**— Марыя Георгіеўна, гутаркі, падобныя да нашай, апошнім часам пачынаюцца з напамінку: тэатр сёння перажывае не лепшыя дні, бо назбіралася шмат праблем, вырашыць якія хутка і спрытна не бярэцца ніхто. Кожная з гэтых праблем так ці інакш закранае акцёраў. Так што менавіта камісія, на чале якой вы стаіце ў СТД, мусіць «вывучаць, аналізаваць, дапамагаць».**

— Так, мы павінны ведаць нашы тэатры не паводле афіцыйных справаздач, а, так бы мовіць, блізка і непасрэдна. Канчатковым вынікам нашай працы павінен быць добры спектакль, таму мы мусім знаёміцца з рэпертуарам кожнага беларускага тэатра, арганізоўваць абмеркаванне прэм'ер у вядучых калектывах, нешта накшталт «круглага стала» з запрашэннем крытыкаў, вядучых спецыялістаў з іншых труп. Трэба запрашаць на такія абмеркаванні тэатразнаўцаў з Масквы, Ленінграда, старацца, каб удзельнікі дыскусій не абмяжоўваліся агульнымі заўвагамі і кампліментамі, а зрабіць усё, каб гаворка вялася сумленна. А што хаваць? Шэдэўры на нашых сцэнах не з'яўляюцца ўжо даўно, хоць калі даваць веры некаторым рэцэнзіям, дык спектаклі ў нас неблагія, а то і зусім добрыя. На жаль, гэтыя ацэнкі далёкія ад рэальнасці.

**— Сёння, калі тэатральныя калектывы паступова вызваляюцца ад дробязнай чыноўніцкай апекі, ці можна чакаць свайго роду «тэатральнага рэнесансу?».**

— Можна, калі вырашым набалелыя творчыя праблемы і перш-наперш — праблему ак-

БТ: РАЗАМ ЛЯ ЭКРАНА

# ПАВОДЛЕ ЗАКОНАЎ ЖАНРУ

Наш хатні экран напоўнены фільмамі — ігравымі, хранікальна-дакументальнымі — і пазначанымі словам «тэлевізійныя». Падлічана, што за пяць месяцаў толькі па Цэнтральным тэлебачанні паказана 370 стужак! Як жа арыентуецца глядач у гэтым кінаморы, як успрымае такі вялізны паток?

Навукова - сацыялагічная служба (падведамасная) адказвае на гэта пытанне так: «За апошнія восем-дзесяць гадоў незадаволенасць тэлевізійнымі фільмамі стала агульнай і нарастаючай. Тэлефільм ператварыўся ў разменную манету мас-культуры...» (Цытата ўзята з артыкула, змешчанага ў цэнтральным друку). «Аўдыторыя дакументальнага кіно складае 3,5—5 працэнтаў. Дакументальнае кіно тэлегледачы амаль не заўважаюць. Сёння гледачоў больш прыцягваюць тэлеперадачы»... А вось іншае меркаванне: «З дакументальным тэлекіно адбыўся цуд. У цэлым ацэнка дакументальнага кіно вышэйшая за ігравое». Спецыялісты ў дачыненні да неіграваога кіно нават ужываюць вызначэнне «рэнесанс»...

Усё сказанае можна аднесці і да рэспубліканскай кінапрадукцыі, у тым ліку і тэлевізійнай. Невыпадкова на леташнім Усесаюзным фестывалі тэлевізійных фільмаў галоўны прыз быў прысуджаны тэлефільму Беларускага тэлебачання «Тут быў Крылоў», а рэжысёра гэтай карціны Ю. Хашчавацкага сёння называюць у пяцёрцы лепшых тэлерэжысёраў краіны. Названы фільм — адзін з дзесятка, створаных на Беларускім тэлебачанні. І пакуль нашы мясцовыя сацыёлагі маўчаць адносна стаўлення гледачоў да гэтых фільмаў, нагадаем, пра што яны...

Адна са стужак «Тэлефільма», створаная яшчэ ў мінулым годзе, з'явілася прэм'ерай беларускага тэлеэкрана. Кінанавела (так давайце вызначым яе жанр) «Мне сніўся сон» рэжысёра І. Калоўскага — спроба стварыць асацыятыўна-ўмоўнае відовішча, спроба філасофскага роздуму пра чалавека ў яго ўзаемасувязі з прыродай, роздуму пра жыццё і смерць, змену пакаленняў як філасофскай катэгорыі часу. Аднак гэтая стужка створана не для шырокага гледача і не адпавядае, як мне здаецца, прыродзе тэлевізійнага кіно. Пра яго ж сацыёлагі гавораць так: у гледачоў папулярныя тыя формы, якія ўласцівы тэлебачанню сёння, менавіта публіцыстычнасць, вастрыня праблематыкі, дакладна выяўленая аўтарская пазіцыя, жыццёвая праўдзівасць. І, дададзім, адсутнасць

цёрскага майстэрства. Менавіта да гэтага імкнецца наша камісія.

**— Не так даўно А. Баталаў пісаў у «Советской культуре», што акцёрскія праблемы — гэта перш за ўсё «адвечная, ад самога акцёрства ідучая барацьба за гледача»...**

— ...якога мы вельмі часта губляем. Вядома, іншы раз абвінаваціць у гэтым можна драматурга, таму што акцёру ў ягонай п'есе даводзіцца ўвасабляць нешта вельмі далёкае ад жыццёвай і мастацкай праўды. Але цяпер, ва ўмовах эксперыменту, віна за згубленага гледача цалкам кладзецца на сумленне пастаноўшчыка спектакля і акцёраў. І няма сэнсу разбіраць, хто больш вінаваты, але, як прадстаўніца камісіі па акцёрскай творчасці, я буду ў першую чаргу зыходзіць з інтарэсаў менавіта акцёрскага цэха. Дык вось, што ж трэба зрабіць, каб істотна павысіць прафесійны ўзровень акцёра, што неабходна вынайсці, каб акцёры не гублялі гледачоў? Пачну з кваліфікацыі маладых акцёраў, якія прыходзяць у трупу пасля ВНУ. Часцяком бывае, што студэнты, якія вельмі добра праявілі сябе ў пастаноўках вучэбнага тэатра, патрапіўшы ў прафесійны тэатр, губляюцца, і надзей, што ўскладаліся на іх, не апраўдваюць. Прычыны? Галоўная прычына, я думаю, у тым, што яны прывыклі да вельмі ўважлівых адносін у інстытуце, а ў прафесійным тэатры сутыкаюцца з пэўнай абыякавасцю рэжысёра. Так пасля адной-дзвюх няўдач маладыя акцёры зусім губляюць упэўненасць у сабе. Але не будзем зараз вінаваціць рэжысёра літаральна ва ўсіх праліках і грахах, бо і ў БДТМІ таксама ёсць над чым добра падумаць. Да прыкладу, Алег Табакоў, які шмат сіл аддаў педагагічнай працы, абвясціў: калі ягоны выпускнік сваім рамяством не можа зарабіць сабе на жыццё ва ўмовах жорсткай сталічнай канкурэнцыі, дык такі акцёр— ягоны, кіраўніка курса, вытворчы брак. Дарэчы, да трэцяга года навучання сам Табакоў адлічыў каля трэці свайго курса, і не таму, што студэнтам бракавала здольнасцей, а таму, што ім для прафесійных поспехаў не ставала валявых якасцей. На маю думку, гэта правільна. Залішняя паблажлівасць потым для самога ж студэнта абернецца прафесійнай і, адпаведна, жыццёвай няўдачай. Трэба наладзіць і больш шчыльныя сувязі паміж БДТМІ і тэатрамі, нашым, купалаўскім, у тым ліку. Наборы на акцёрскі факультэт павінны цалкам вызначацца запатрабаваннямі тэатраў; а пад час вучобы акцёры мусяць прайсці добрую вытворчую практыку хоць у масоўках. Затое пасля прызвычайвацца да тэатральных парадкаў ім будзе куды прасцей.

**— Але відавочна, што праблема павышэння якасці акцёрскага майстэрства востра стаіць і перад тымі, хто працуе ў тэатрах не першы сезон. Акцёр няздатны, а «добры дзядзька-рэжысёр», паводле вызначэння Алега Яфрэмава, уласнай тэхнікай «закрывае» акцёра, гэта значыць, расстаўляе ў спектаклі сістэму знакаў, якія імітуюць натуральнае пражыванне ролі. Вынік — пастаноўкі, пра якія самі акцёры кажуць: «у традыцыях школы прадстаўлення перажывання».**

— Дадайце да гэтага, што рана ці позна любы прафесіянал абрастае штампамі. А гэта, па сутнасці, такая ж самая «сістэма знакаў», за якія ён хаваецца і замест сапраўднага пражывання ролі — імітуе пачуцці. Возьмем найлепшы выпадак: акцёру шчасліва ўдалося пазбегнуць «заштампавання». Але хто можа заручыцца, што рана ці позна не састарэе сама эстэтыка, у якой акцёра выхоўвалі? Тэатр не можа заставацца і па-за модай, у якой, між іншым, адлюстроўваюцца запатрабаванні часу. Як жа дапамагчы акцёру выстаяць сярод усіх гэтых неспрыяльных абставін? Перш за ўсё, вялікія надзеі мы ўскладаем на тэатральны абмен, збіраемся запрасіць у Купалаўскі тэатр на пастаноўкі спектакляў некаторых вядучых рэжысёраў краіны (да прыкладу, эстонскага рэжысёра Міка Міківера). А чаму б не наладзіць рэгулярны акцёрскі абмен паміж мінскімі тэатральнымі калектывамі? Рызыкну выказаць яшчэ больш «пражэкцёрскую» думку: тэатрам трэба запрашаць на пастаноўкі і рэжысёраў з кінастудыі, бо і там ёсць прафесіяналы, якія, я пераканана, з задавальненнем паспрабуюць сябе ў тэатры. Што да таго, дзе знайсці час, дык прастоі паміж фільмамі — звычайная справа, а тэатр дапаможа «змяніць абстаноўку». Падобныя кантакты карысныя будуць усім: і тэатру, і кіно; больш разнастайным і багатым зробіцца тэатральны рэпертуар; не выключана, што пасля такога супрацоўніцтва рэжысёры з «Беларусьфільма» куды часцей пачнуць запрашаць у беларускае кіно беларускіх акцёраў. Ну, а якую ролю можа адыграць кіно ў жыцці акцёра, пераацаніць цяжка. Прыклад з жыцця нашага калектыву — Стэфанія Міхайлаўна Станюта. У тым, што яе творчы лёс у тэатры апошнім часам складваецца шчасліва, «вінаватае» менавіта кіно, персанальна — рэжысёр Ларыса Шапіцька. Так што буду пераконваць членаў нашай камісіі сур'ёзна абмеркаваць маю прапанову і ўключыць яе ў праграму нашай дзейнасці.

**— Мяркую, што тэатральны абмен — гэта не адно толькі запрашэнне ў трупу рэжысёраў з другіх калектываў?**

— Вядома. Другая важная задача, якую нам трэба вырашыць,— гэта наладжванне кантактаў і рэгулярнага абмену вопытам паміж акцёрамі ўсіх тэатральных калектываў рэспублікі. На жаль, мы ўжо даўно не маем уяўлення нават пра тое, што робіцца ў калег у суседнім тэатры. Калі ж наязджаюць гастралёры ці твой уласны тэатр выпраўляецца са спектаклямі ў горад, дзе працуюць добрыя калектывы, дык з-за рэпертуарнай нагрузкі ўдаецца пабачыць зусім няшмат. А такая вось замкнёнасць абарочваецца прафесійнай (дый чалавечай таксама) абмежаванасцю. Як гэта можна змяніць? Мы намерваемся запрашаць да ўдзелу ў «круглых сталах» не толькі рэжысёраў і тэатразнаўцаў, але — абавязкова — акцёраў. Мяркую таксама, што і рэспубліканскія, і рэгіянальныя фестывалі, накшталт «Прыбалтыйскай тэатральнай вясны», павінны ладзіцца не для адных тэатразнаўцаў, крытыкаў і адміністратараў. Рэспубліканскія саюзы тэатральных дзеячаў і камісіі па акцёрскай творчасці мусяць паклапаціцца, каб у акцёраў была магчымасць пабачыць спектаклі калег з другіх рэспублік (і, дарэчы, знаёміцца і сустракацца рэгулярна). І прасачыць, каб гэта не было пустой фармальнасцю.

**— Праблемы, што мы закранулі,— менавіта праблемы акцёрскага майстэрства. А як быць з тымі, што вынікаюць з арганізацыі акцёрскай працы?**

— Некаторыя з іх цяпер досыць паспяхова вырашаюцца. Я маю на ўвазе аплату працы акцёраў. Тэатральны эксперымент не толькі дазваляе выправіць адносіны ўнутры тэатральных калектываў на розных этапах вытворчасці, але і дае рэальную магчымасць падняць заробкі акцёрам усіх катэгорый. Акрамя таго, Саюз тэатральных дзеячаў краіны заняўся акцёрскімі пенсіямі. Неабходна заканадаўча зацвердзіць за саюзам права даплачваць да так званых творчых пенсій пэўную суму грошай. Прафесія ў нас цяжкая і пры адпаведных нагрузках арганізм можа «здрадзіць» акцёру куды раней за пенсійны ўзрост. Сродкі ў саюза ёсць, думаю, што пытанне гэтае вырашыцца хутка.

**— Але ў арганізацыі акцёрскай працы, акрамя праблем эканамічных, ёсць і зусім іншыя цяжкасці. Да прыкладу, выпадкі прымусовага, адміністрацыйнага аб'яднання ў сценах аднаго тэатра людзей з рознымі творчымі інтарэсамі, памкненнямі і здольнасцямі. Найбольш балюча такія сітуацыі адбіваюцца на акцёрах, таму што пра іх згадваюць у апошнюю чаргу. І як тут не прыгадаць лёс маладзёжнага тэатра БССР, утворанага «загадам зверху»?**

— Даследаванне і разгляд канфліктных сітуацый у калектывах — яшчэ адзін абавязак нашай акцёрскай камісіі. У хуткім часе мы пачнём вывучаць справы ТЮГа, ягоны рэпертуар, абмяркуем спектаклі, прааналізуем праблемы, якіх у гэтым калектыве назапасілася зашмат. Што я хачу падкрэсліць? Мы не павінны ператварацца ў чарговы адміністрацыйны орган і ў самых складаных сітуацыях не вінаватых будзем шукаць, а выйсця са становішча. Мы будзем дапамагаць ствараць у кожным тэатральным калектыве творчую атмасферу. Зараз нам вельмі нестае акцёраў-лідэраў, акцёраў-асоб, здатных павесці за сабою калег, аб'яднаць іх — але не для закулісных інтрыг, а для вырашэння творчых задач. А задачы гэтыя — сур'ёзныя, складаныя, і галоўная з іх — адлюстраваць на сцэне наш час. Час грамадскіх зрухаў і вялікіх перамен.

Гутарку вяла
**Н. КАСЦЕРАВА.**

«пастановачных эфектаў». (Паводле гэтых патрабаванняў і зроблена карціна «Тут быў Крылоў» — пра рэформу нашай «сярэднеадукацыйнай» школы. Думаецца, што і журы фестывалю вылучыла яе перш за ўсё не за адмысловую форму, а за тое, што карціна пазначана сучасным мысленнем, менавіта сённяшнім разуменнем праблемы).

Гледачу ўвогуле цікавыя тыя фільмы, што ўваходзяць у «кола іх чытання», сваёй праблематыкай хвалююць шмат каго. Такія, як, напрыклад, два фільмы рэжысёра У. Бокуна — «Інтэрнат» і «З чаго сарока кашу варыла?».

Тэму «Інтэрната» можна вызначыць як тэму «казённага дома», у якім пры ўсёй вонкавай упарадкаванасці жыцця, пры ўсіх камунальна-бытавых выгодах (у параўнанні з вёскай) пакутуе душа чалавека, бо ўсё гэта адчужана ад яе, існуе не для асобы, не для індывіда, а для нейкай абстрактнай адзінкі... Але ж інтэрнат не гатэль, ён быў задуманы як супольны дом адной вялікай сям'і — ці то студэнтаў, ці то рабочых, як іх родная агульная хата, а ператвараўся амаль паўсюдна ў нешта накшталт гасцёўні, ці, хутчэй, добраўпарадкаванай казармы. Тут кожны аблытаны бюракратычнымі правіламі, а правоў па сутнасці не мае... Прапіска і тая — часовая... А гэта — нешта большае за прадпісанні пашпартнага рэжыму і правілы пражывання ў інтэрнатах, за гэтым — драма «часовай прапіскі», драма вёскі ў жыцці вялікага горада. Як жа няўтульна дзяўчаткам у гэтых аднолькава ўтульных пакоях! За гэтым — і праблема вымушанай міграцыі, якую рэжысёр адчуў суладна з новым настроем грамадства, — ці не лепш многім з гэтых дзяўчат вярнуцца з «казённага дома» ў вёску? Успаміны пра яе, знітаванасць з ёй жывуць у сэрцах, позірках, у атмасферы настрою насельнікаў інтэрната...

Такі самы сучасны погляд на жыццё ўласцівы У. Бокуну і ў фільме «З чаго сарока кашу варыла?». Тут асабістая драма вучонага, якога чыноўнікі адарвалі ад працы, — а ёй было аддадзена трыццаць пяць гадоў жыцця, — перарастае ў «драму ідэй».

Чалавека выправілі на пенсію. Узрост ягоны адпаведны, усё законна. А тое, што пры гэтым расфарміравалі лабараторыю, якой ён кіраваў, дык і тут, здавалася б, усё правільна — лабараторыя займалася вывядзеннем грэчкі, а ў нас яна ўпарта не жадае расці. І аграпром вырашыў адмовіцца ад гэтай культуры наогул. Ды тут грымнуў Чарнобыль!.. І пры мабілізацыі ўсіх сродкаў змагання з праменнай хваробай высветлілася, што грэчка ў шэсць разоў змяншае ўздзеянне шкоднай радыяцыі на арганізм. Ну, вядома, тэрмінова ўспомнілі пра адпраўленага на пенсію вучонага (яго прозвішча А. Анохін) і яшчэ больш тэрмінова выклікалі яго з Мінска на Палессе... Паступова мы даведваемся, што дырэктар інстытута, які скараціў пасаду Анохіна, заўсёды аб'язджаў грэчку бокам, што мясцовыя сяляне грэчку і ў вочы не бачаць, бо выдаецца яна толькі ў асобных магазінах па «спецзаказе», што замест грэчкі заўзята «каранавалі» кукурузу, што маліліся на акадэміка Лысенку...

Фільм зняты без усялякіх спецыяльных прыёмаў, гранічна натуральна, без «пастановачных» момантаў, без інсцэніровак — камера, сапраўды, углядаецца ў жыццё.

На цікавую сучасную праблему адгукнуліся і стваральнікі маляўнічага фільма «Што колькі каштуе?» (рэжысёр В. Жыгалка). Здымачны фон — кветкі. Іх шмат, але тут, у Давыд-Гарадку, з іх не дзівяцца, а зарабляюць на іх вялікія грошы — разводзяць на насенне, якое прадаюць вясною на рынках Украіны, Расіі. Большасць мясцовых людзей, паводле тутэйшага вызначэння, «едуць на вёсну». І гэта замест таго, каб... «займацца грамадска карыснай працай»! І як толькі іх не ўшчуваюць аўтары фільма! І дамы ў іх не дамы, а «харомы», і машын колькі пры дварах, а іх гаспадары, маўляў, прыкідваюцца хворымі, абы толькі «не працаваць на дзяржаву». І «бацькі горада» называюць іх нахлебнікамі... А за што — спытае глядач. Усё ж адпаведна закона аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці! Людзі робяць добрую справу: збіраюць насенне, якое не пастаўляюць у патрэбнай колькасці дзяржаўныя арганізацыі. Выснова сумная: фільм, зняты зусім нядаўна, састарэў адначасова з выхадам на экран. З інтанацыі фільма адчуваецца, што яго стваральнікі самі не вельмі перакананыя ў сваёй рацыі. І, зразумела, не могуць пераканаць гледача. Адсюль павярхоўнасць, шматслоўе, кампазіцыйная рыхласць, незавершанасць стужкі. А матэрыял жа даваў магчымасць зняць калі не «архангельскага», дык давыдгарадоцкага мужыка!

Напомню, што ўсе гэтыя фільмы — з тэлевізійных: яны адрозніваюцца ад знятых для кінаэкрана сваімі памерамі, больш запаволеным рытмам і дазваляюць больш пільна ўглядацца ў тое, што адбываецца на экране. І гэтым мо набліжаюцца да цікавай, праблемнай тэлеперадачы. І хай не крыўдуюць тэлерэжысёры, аднак, думаецца, лепш, калі фільм нагадвае цікавую тэлеперадачу, чым шэрую дакументальную кінастужку. А глядач, сведчаць сацыёлагі, сёння аддае перавагу інфармацыйна-музычным праграмам — нават перад іграым кіно...

Тэлефільм БТ «Чыя гэта справа?» (рэжысёр А. Шчаглоў) падаўся стужкай з навукова-вытворчага цыкла. І не толькі таму, што гаворка ідзе пра клінавую пракатку металу — навуковую распрацоўку, якая марудна ўкараняецца ў вытворчасць. Рознымі спосабамі падачы (рэпартажам з цэха, дыялогам з вучоным у яго кабінеце, інтэрв'ю, знятым чамусьці на пустыры, маналогам вядучага ля сцен «Мінстанкапрома» ў Маскве) аўтары намагаюцца зацікавіць гледача новай тэхналогіяй пракату металаў. З лічбамі ў руках даводзяць, якая яна эканамічная, безадходная, колькі ў ёй тоіцца рэзерваў. І ўсё тут правільна, але ўжо на сёмай мінуце (менавіта сем мінут, як сцвярджаюць сацыёлагі, — крытычная мяжа нашай устойлівай увагі) усё робіцца ясным. Успамінаеш, што недзе пра гэта ўжо чуў, чытаў, і сам фільм пачынае нагадваць расцягнуты газетны артыкул. Відаць, справа ў тым, што аўтары не знайшлі патрэбнай інтанацыі, нечаканага, вынаходлівага тэлепавароту, акцэнту, які зацікавіў бы праблематыкай фільма не толькі спецыялістаў, але шырокага гледача.

А вось зусім іншы прыклад. Тэлефільм «Маналог з адступленнямі» (рэжысёр Л. Гедравічус) нельга ўявіць сабе на вялікім экране. І па інтанацыі і па спосабах выяўлення — ён для «хатняга ўжытку», нібы спецыяльна разлічаны на «сямейную размову». Тут скарыстаны проста тэлевізійны прыём: камера — у кватэры народнага артыста СССР Р. Янкоўскага. І здымкі вяліся, можна сказаць, рэпартажна, са статычнай кропкі. І калі раз-пораз у гаворку за хатнім сталом «урэзваюцца» творы класікі жывапісу, яны ўспрымаюцца як карціны са сцяны кватэры і кінаўстаўкі, дзе мы бачым акцёра ў асобных ролях, зняты таксама камерна, без масавых сцэн, без гледачоў у тэатральнай зале — тварам у твар.

У кадры ўвесь час два пакаленні акцёраў Янкоўскіх: Расціслаў з сынамі Уладзімірам і Ігарам, яго брат Алег Янкоўскі. Так бы мовіць, чацвёра мужчын у спрэчцы. А колькі дынамікі ўнутры кадра! Як неадрыўна сочыш за зместам гаворкі! Вабіць спавядальная манера размовы самога Р. Янкоўскага, яго шчырыя развагі над сабой і над людзьмі. Тут і пра час, і пра сябе, і пра канфлікт пакаленняў... Інтэлектуальнае, цікавае тэлекіно.

Праўда, здзівіла, што самі тэлевізійнікі рэкамендавалі гэты фільм не як кіно... Маўляў, балбатня! Паблажлівае «гэта не зусім кіно» прымусіла пашкадаваць, што тэлебачанне ўсё яшчэ хворае на нейкі комплекс непаўнацэннасці. А ці не час пагадзіцца, што тэлекіно здымаецца не для кіназалы і што яго не варта параўноўваць з кіно, знятым для вялікага экрана, як нельга параўноўваць работы дызайнера з работамі архітэктара, ці публіцыста з белетрыстам. Адно другое не прыніжае. І не можа замяніць. Тэлекіно ўжо выпрацавала свае законы.

**Р. БАКУНОВІЧ.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Полацкія кантрасты

Святлана БЕРАСЦЕНЬ




## ЗАМЕСТ ДЗЁННІКА

17 КРАСАВІКА. Моцарт... у электронным гадзінніку? Учора, па дарозе на Полацк, неспадзявана выявіўся гэты, адзін з многіх музычных парадоксаў нашага часу. Мая двухгадовая суседка па купэ занудзілася ад доўгай вандроўкі, пачала тузаць матчыну руку. Маці выслабаніла з-пад манжэта электронны гадзіннік, націснула кнопачку—і загучала «Маленькая начная серэнада». Дзяўчо сцішылася, тварык паяснеў. Жанчына ўсміхнулася: «Вось так: ёй Моцарт замест калыханкі»... Усё-такі добра, што разам з апошнім словам тэхнікі ў свет дзяўчынкі ўваходзіць менавіта Моцарт. Светлы, гарманічны, даўно не модны, затое на многія часы—жывы.

Тут, у Полацку, мы таксама пачуем Моцарта. У выдатным выкананні. У кантрастным, але не антаганістычным суседстве з музыкай іншых эпох і стыляў. Мы — невялічкая група карэспандэнтаў радыё і друку — прыехалі сюды на Першы ўсесаюзны фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі.

Сёння ў Полацку яркае чыстае неба, даволі пякучае сонца і халаднаватае паветра. Вясна яшчэ не пасмялела: у баразнах сям-там снег, нават не пачарнелы; свежая зеляніна яшчэ не прабілася над шэрай леташняй травой; перагукаюцца сініцы і зяблікі — ды пустуюць шпакоўні.

Я ўпершыню ў гэтым горадзе, і тое, што чула ці чытала пра яго раней, адступае перад непасрэднымі ўражаннямі. Балючыя кантрасты полацкіх вуліц! Асколкі некалі слыннага старажытнага горада — нібы выпадковыя адзінкі амаль вынішчанай пароды, што просяць для сябе старонку ў «чырвонай кнізе»: не дайце згінуць! Мая калежанка, якая не адзін год жыла ў Полацку, скрушна паглядае на пабітыя сцены колішняга езуіцкага калегіума, на патаптаны вал Івана Грознага, на недарэчную дзевяціпавярхоўку, што заступіла месца разбуранага ў 60-я гады велічнага Мікалаеўскага сабора. Дасюль трапляецца пад нагамі друз ад разбітых масіўных сцен. Ад гістарычнага помніка ў гонар перамогі ў Айчыннай вайне 1812 года, які таксама «прыбралі» дамарослыя манкурты, не засталося і пылу. Сёння пілуюць на бульвары старыя, жывыя яшчэ, дрэвы...

Дзіўна, як гэта Сафійка не далася ў рукі «падрыўнікам», ацалела, дачакалася свайго адраджэння і новых гаспадароў? На фоне ясных простых фарбаў наваколля — асляпляльная постаць старадаўняга сабора на высокім беразе, ля скрыжавання плыняў Дзвіны і Палаты. Цяпер тут музей і канцэртная зала, вядомая музыкантам з усёй краіны. І — цэнтр фестывалю. Рэклама свята, графічныя плакаты (зробленыя па эскізах маскоўскіх мастакоў і выдадзеныя полацкай друкарняй імя Скарыны) суправаджаюць цябе ці не на кожнай вуліцы. На афішах — рэдкае сузор'е выканаўцаў: лаўрэаты Ленінскай прэміі Ірына Архіпава, Генадзь Раждзественскі, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Вікторыя Постнікава, Валерый Палянскі, Таццяна Грындэнка, Аляксей Любімаў.

**Дырэктар Полацкага гісторыка-архітэктурнага запаведніка Таццяна Давыдаўна Рудава расказала: «На працягу 3—4 гадоў прыязджае да нас дырыжор Дзяржаўнага камернага хору Міністэрства культуры СССР Валерый Палянскі. Сумесна з фірмай «Мелодия» ён працаваў тут над шэрагам запісаў для пласцінак і ведае добрыя акустычныя магчымасці залы Сафійскага сабора, а таксама другога архітэктурнага помніка — Багаяўленскага сабора, дзе размяшчаецца карцінная галерэя. Правесці такі музычны фестываль — супольная ідэя, скажам так, запаведніка і Валерыя Кузьміча Палянскага. Нас падтрымалі ў Міністэрстве культуры БССР і ў «Саюзканцэрце». Была праведзена вялікая арганізацыйная работа. Афіша складвалася крыху і стыхійна, але мы загадзя ведалі, што абавязковымі ўдзельнікамі будуць хор Палянскага, дырыжор Раждзественскі, Мінскі камерны аркестр. Дамаўляліся з ансамблем салістаў Вялікага тэатра Саюза ССР, з хорам Эстонскай філармоніі, з ансамблем «Акадэмія старадаўняй музыкі». Прыемна, што пагадзілася прыехаць на адкрыццё Ірына Канстанцінаўна Архіпава...»**

Урачыстае адкрыццё фестывалю і першы канцэрт у 15 гадзін: сёння нядзеля. Спрабуем злічыць гледачоў у зале: каля трохсот месцаў на лаўках плюс каля сотні дадатковых крэслаў. Аншлаг — не тое слова. На сцэне размясціліся ўдзельнікі канцэрта. Песняй віталі фестываль дзяўчаты і хлопцы ў беларускіх нацыянальных уборах, гасцям паднеслі румяны пірог. Ірына Архіпава ад імя артыстаў, ад праўлення Усесаюзнага музычнага таварыства, якое яна ўзначальвае, павіншавала ўсіх з цудоўным святам.

Хор пад кіраўніцтвам Палянскага і салістка Архіпава выконвалі ў гэты дзень «Всенощное бдение» С. Рахманінава. Адраджэнне музыкі, напісанай з прыцэлам на саборную акустыку, і некалі несправядліва выкрасленай з нашага духоўнага ўжытку...

Полацкая публіка мне спадабалася з першага погляду: твары адухоўленыя, засяроджаныя. Дзівоснае ўменне і жаданне слухаць! Больш за гадзіну гучаў рытуальны харавы твор, і ў паўзах паміж нумарамі мы чулі настрыненую цішыню.

Пасля канцэрта зноў блукалі па горадзе. Збочылі на ціхую вулку — і ўбачылі светлую, пад зялёным купалам, Спаса-Ефрасіннеўскую царкву. Жывая старонка даўніны... Пераступілі парог і быццам адчулі на сабе позіркі, маўкліва-таямнічыя, мудрыя і праніклівыя: са старых пацямнелых сцен вачамі фрэскавых выяў глядзела на нас XII стагоддзе. Зусім побач, але як голас вельмі-вельмі няблізкага часу, чуліся спевы царкоўнага хору. І прагучала ў малітве імя заснавальніцы храма — Ефрасінні Полацкай. Ефрасіння, легенда і быль. Кажуць, сярод выяў на старых сценах ёсць і яе абліччa.

Відаць, у хуткім часе спецыялісты пачнуць работы ў гэтай царкве, якая зрэдчас паднаўлялася і раней. Але ж каб не надта шчыравалі рэстаўратары, каб не папсавалі неруш цьмяных скляпенняў, захавалі на унікальных роспісах натуральную «паціну часу»...

**18 красавіка.** У карціннай галерэі ўжо колькі часу працуе персанальная выстаўка Нінэлі Шчаснай. Празрыстыя, нібы каляровыя ледзяшы, шкляныя птушкі на дрыготкіх ніцях; густая атмасфера знаёмых жывапісных палотнаў — партрэты Цёткі, Шырмы, Макаёнка, Шамякіна, Матукоўскага... Кветкі, краявіды. Нервовы рытм фарбаў і ліній у новых работах — «Мой боль», «Пераспелая»... У зале адгароджаны закутак: тут і салон, і майстэрня мастачкі, якая зноў прыехала ў горад свайго маленства. Вольна расстаўлены і развешаны яшчэ няскончаныя палотны, букецікі з сухіх кветак, самаробныя цацкі. На цвічку—спісаны папяровы скрутак: расклад дня, напамінак пра сустрэчы ў заводскіх цэхах, са школьнікамі, якім Шчасная дапамагла наладзіць выстаўку дзіцячага малюнка.

**Як, відаць, усякі творца, яна чакае водгукаў на свае работы і асабліва ахвотна гаворыць пра ўсё, што звязана з выстаўкай. Ды вось мы заўважаем у зале раяль, клавесін, віяланчэль: днямі фестывальныя канцэрты пачнуцца і тут, у карціннай галерэі. Нінэль Іванаўна паглядае на сцены: «Я шчаслівая, што музыка прыйшла на маю выстаўку. Заўжды лічыла, што колер і музыка — побач. У сваіх карцінах ужо спрабавала выказваць музыку праз фарбы: перагуд званоў — колерам, гучанне цымбалаў — таксама. Канцэрты фестывалю я пастараюся запісаць на плёнку, і ў Мінску буду ўключаць музыку ў майстэрні і жыць гэтым фестывалем. Полацк наогул дапамагае працаваць: зараз пішу вобраз Ефрасінні і ёсць магчымасць яшчэ і яшчэ раз паглядзець царкву, увайсці, падыхаць ТЫМ паветрам, удакладніць штосьці, настроіцца на работу».**

...Мы зноў спяшаліся ў Сафію — паслухаць Архіпаву. Гэта своеасаблівая імправізацыя фестывалю, але ўжо загадзя ў горадзе расклеілі абвесткі пра дзённы сольны канцэрт знакамітай вакалісткі. Нягледзячы на будзённы дзень і нязручны час, зала не пуставала. Архіпава спявала арыі, сцэны з опер, рамансы. Слухалі і прымалі цудоўна.

Вячэрні канцэрт пачынаўся ў 20 гадзін. Мы прыйшлі амаль на дзве гадзіны раней. Падняліся па лесвіцы да сабора. Пакаштавалі крынічнай вады, што цячэ «з-пад муроў» Сафіі: смакам нагадвае бярозавік, толькі сцюдзёная. Каля трубы, па якой бяжыць жывая вадзіца, некалькі чалавек з флягамі, слоікамі — бяруць ваду дадому. І артысты камернага хору прыхапілі з сабою гасцінічны шкляны збан, набралі вады і, перадаючы адно аднаму, задаволена цмокалі... Дзіўна, чаму крынічка прыбрана ў такі непрывабны вадасцёк, чаму ніяк не афармлена і нідзе нічога — пра мінеральныя кампаненты гэтай вады?

Грэўся на сонцы рэліктавы Барысаў камень. Непадалёк разыгрываўся трубач у дзіўным чорным гарнітуры, накшталт спартыўнага, з надпісам белымі літаркамі на фуфайцы, па-англійску: «Ансамбль салістаў «Большого». Зіхацеў на сонцы інструмент, разносіліся з вышыні пагорка звонкія пасажы. Было хораша слухаць гэтую стыхійную чыстую музыку, адчуваць і моўчкі вітаць прыход нясмелай полацкай вясны.

Але пайшлі музыканты ў залу. Мы — следам. Надарылася рэдкая магчымасць пабыць на рэпетыцыі Генадзя Раждзественскага. У Полацку дырыжор выступаў з піяністкай Вікторыяй Постнікавай і з ансамблем салістаў Вялікага тэатра, якія толькі-толькі вярнуліся з Бостана, з сенсацыйнага фестывалю савецкага мастацтва ў ЗША пад дэвізам «Давайце ствараць музыку разам!» (Вось адкуль у музыкантаў такая дзіўная апратка). У залу мы не пайшлі, а ціхенька, як цікаўныя школьнікі, уладкаваліся на харавых станках за сцэнай і ўтароліся ў нешырокую адтуліну ў аксамітнай заслоне. Адсюль маглі назіраць за тварам дырыжора.

Трымаў сябе маэстра проста, займаўся для сябе звычайнай, але творчай справай і таму аддаваўся гэтай справе цалкам. Шырока, радасна ўсміхаўся, нават штосьці задаволена выгукваў, тэмпераментна падскокваў, з непаўторнай пластыкай фланіраваў сярод музыкантаў; нязмушана перапыняў ігру, калі хацеў удакладніць нейкі штрых.

**На канцэрце ён выйшаў у класічным фраку — кантрастам выглядалі аркестранты ў свайй дзіўнай уніформе. Рукі, твар дырыжора выпраменьвалі святло і натхненне. Раждзественскі выйшаў да слухачоў, як добры знаёмы, і пачаў адразу распавядаць пра музыку, якая прагучыць. Пачаў так: «Мне думаецца, што ў самой назве фестывалю — старадаўняй і сучаснай музыкі—ужо закладзена штосьці кантрастнае. Музыка старадаўняя — сучасная, далёкая — блізкая; больш любімая, колішняя — менш любімая, цяперашняя; мілагучная прошлая — дысгарманічная цяперашняя. У той жа час «старыя» Бах і Моцарт — хіба яны не сучасныя нам? А сённяшнія творы без рэальных прыкмет сучаснага мыслення — хіба яны не ператвараюцца ў «старадаўнія» з негатыўным адценнем, у зацвілыя архіўныя? З'явілася апошнім часам паняцце полістылістыкі — змяшанне розных стыляў у лагічнай упарадкаванасці. Такім чынам ладзяцца масты паміж мінулым і сённяшнім, старадаўнім і сучасным. І я мяркую, што вельмі яркі ўзор такога мастацтва — музыка Альфрэда Шнітке. Любоў да яе апошнім часам робіцца ўсё большай...»**

Дырыжор гаварыў проста і грунтоўна. Потым павярнуўся тварам да аркестра — і ўжо загаварыла сама за сябе музыка Чацвёртай сімфоніі Шнітке. У другім аддзяленні былі таксама бліскучыя маналогі дырыжора пра музыку, і гучалі «Зігфрыд» Р. Вагнера, «Музычныя вечары» Д. Расіні—Б. Брытэна, Марш («музыка для рэштак аркестра») А. Шнітке.

«Брава!» — доўга пасля канцэрта не сунімалася зала.

**19 красавіка.** Ансамбль салістаў Вялікага тэатра рэпеціраваў і выступаў у гэты вечар з В. Постнікавай, без дырыжора. Праграму каменціраваў віяланчэліст Аляксандр Івашкін, быццам прадаўжаючы тэму размовы Раждзественскага са слухачамі: супастаўленне, рознасць і роднасць далёкіх музычных эпох і стыляў. У праграме В. Моцарт, Э. Дзянісаў, зноў Моцарт і Шнітке. Рэдкая падзея: **іграў сапраўдны ансамбль салістаў.** Ігра духавікоў арганічная, як дыханне, як спеў птушкі. Упершыню пачула такі дзівосны альт (Ігар Багуслаўскі): смычок толькі-толькі дакранаецца да струны, а цябе ўжо нейкім чарадзейным токам працінае.

Музыканты сыгралі на «біс» частку Шніткавай «Сюіты ў старадаўнім стылі». Кожны атрымаў цёмную аксамітную ружу.

**20 красавіка.** Прыехаў Мінскі камерны аркестр. Колькі год назад ён выступаў на адкрыцці гэтай залы, цяпер часты госць Полацка. А тое, што беларускі калектыў аказаўся ў кампаніі з музыкантамі сусветнага ўзроўню,— найлепшая характарыстыка ягонага майстэрства.

Дзённая рэпетыцыя. За пультам В. Палянскі. Мудрагелістыя архітэктурныя аб'ёмы сабора запоўніла густое гучанне струнных — знакамітая «Серэнада» П. Чайкоўскага, якую наш аркестр упершыню іграў сёлета на сваім юбілейным канцэрце. Дырыжыраваў тады малады кіраўнік Мінскага камернага Аляксандр Палянічка. Зараз ён у зале. Чаму не за пультам? Растлумачыў: «У нас на фестывалі два канцэрты, першы правядзе Палянскі, другі я. З Палянскім у нашага аркестра ўжо неблагі творчы кантакт, вопыт супольных выступленняў. Лічу, што праца з рознымі дырыжорамі на карысць калектыву, абуджае цікавасць музыкантаў. Гэта як глыток свежага паветра ў нашым штодзённым жыцці, асабліва пры такой вялікай норме — апошнім часам у нас бывае па 10 канцэртаў за месяц!»

**Аляксандр Палянічка ў Полацку раней не быў. Першы дзень, уражанняў пакуль няшмат, але яны яркія, хвалюючыя: усё тут вельмі і вельмі падабаецца! У кіраўніка Мінскага камернага ўзніклі і меркаванні аб тым, як лепей рыхтавацца да наступнага фестывалю. Для чыста струннага аркестра створана не так і многа, таму трэба загадзя прадумваць і падбіраць разнастайную праграму і запрашаць для ўдзелу ў ёй салістаў. А пакуль у рэпертуары двух фестывальных вечароў музыка А. Арэнскага, В. Моцарта, Б. Брытэна, П. Чайкоўскага,**



**Адзначыў 20-годдзе Мінскі камерны аркестр. Ва ўрачыстай атмасферы прайшоў яго канцэрт у філармоніі, на якім сярод шматлікіх прыхільнікаў калектыву былі і колішнія яго ўдзельнікі. Ініцыятар стварэння Мінскага камернага і першы яго кіраўнік Алег Янчанка выканаў сольную партыю ў Канцэрце для аргана, струннага аркестра і літаўраў Ф. Пуленка.**

20 гадоў назад яны выступалі разам — першыя музыканты маладога Мінскага камернага: артысты аркестра А. Мільто, В. Гурына, Л. Кацішэўская, заслужаны артыст РСФСР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, кампазітар, дырыжор, арганіст А. Янчанка, начальнік упраўлення тэатраў і музычных устаноў Міністэрства культуры БССР У. Рылатка, артысты аркестра Л. Ластаўка і заслужаны артыст БССР М. Штэйн.

Фота Ул. КРУКА.

**І. -С. Баха і ягоных сыноў. Сола выканаюць А. Прыходзька (габой), А. Мільто (арган) і маскоўскі піяніст А. Бахчыеў. (Праз некалькі дзён, ужо ў Мінску, даведаюся: абодва канцэрты прайшлі з аншлагам, музыканты Мінскага камернага іградлі на «біс»).**

Увечары меркавалася выкананне харавых канцэртаў Д. Бартнянскага, але па шматлікіх просьбах публікі камерны хор зноў спяваў «Всенощное бдение» Нашы музычныя ўражанні быццам замкнуліся ў магутным коле харавога жывапісу.

Праз некалькі гадзін ад'язджаем у Мінск. «На дарогу» пагаварылі з Т. Рудавай. Яна расказала, што ў першыя ж фестывальныя дні былі зроблены накіды на будучае. Свае прапановы наконт перспектыў фестывалю выказалі І. Архіпава, Г. Раждзественскі, музыканты Вялікага тэатра, якім захацелася прыехаць у Полацк яшчэ. Таццяна Давыдаўна (а без яе энтузіязму, я думаю, музычнага свята ў Полацку проста не было б) перакананая: калі такія фестывалі зробяцца традыцыйнымі. іх атмасфера будзе мець шырокі выхаваўчы ўплыў і высокія ўзоры музыкі змогуць процістаяць усярэдненай масавай культуры. Бо ўжо за некалькі гадоў сістэматычнай музычна-прапагандысцкай і асветніцкай работы ў канцэртнай зале Сафійскага сабора сфарміравалася кола нераўнадушных і досыць дасведчаных слухачоў. Сёлетні вопыт паказаў, што фестываль можа набыць яркую перспектыву. Пры адпаведных умовах, вядома. А таму трэба правесці значнае добраўпарадкаванне горада, збудаваць новую гасцініцу, кемпінгі і да т. п., завяршыць рэстаўрацыю помнікаў, адкрыць яшчэ некалькі музеяў. І тады фестываль можа выйсці на ўзровень міжнароднага.

...А ўсё-такі дзіўна, і не адной мне: чаму такі яркі фестываль застаўся фактычна па-за ўвагай прадстаўнікоў органаў культуры рэспублікі, кіраўніцтва філармоніі? Гаворка, вядома, не пра тое, што афіцыйны таварыш з Мінска павінен быў папрысутнічаць на адкрыцці і паціснуць руку майстрам мастацтва. А пра тое, што не была скарыстана спрыяльная для чалавечых і дзелавых кантактаў атмасфера фестывалю. Тут лягчэй было, думаю, дамовіцца з Раждзественскім наконт доўгачаканых гастроляў у Мінску. Памеркаваць разам з кіраўніцтвам запаведніка наконт запісаў у Сафійскім саборы лепшых беларускіх выканаўцаў (пакуль што цудоўнымі акустычнымі магчымасцямі залы карыстаюцца масквічы, якія абсталявалі тут свой гукарэжысёрскі пульт; мы ж, калі да нас прыязджала перасовачная апаратная з фірмы «Мелодия», арандавалі малапрыдатную залу ў інстытуце народнай гаспадаркі!). Можна было б параіцца з гаспадарамі і з прадстаўнічымі гасцямі фестывалю пра яго перспектывы, пра пашырэнне на ім кола беларускіх выканаўцаў. Ёсць жа ў нас салісты, адзначаныя на міжнародных конкурсах: вакалісты М. Гулегіна, Л. Колас, А. Рудкоўскі, кларнетыст Г. Забара, піяністы І. Алоўнікаў і А. Целякоў, да прыкладу.

Яшчэ я думаю, што ў Полацку маглі б загучаць, перааркестраваныя на малы склад выканаўцаў, сімфоніі А. Мдзівані «Памяць зямлі» і «Полацкія пісьмёны», блізкія гісторыі старажытнага горада па тэмах, па вобразах. А, можа, і новы твор маладога кампазітара А. Літвіноўскага, партытуру якога аўтар перапісваў пад час фестывалю ў гасцінічным нумары, завітае ў Полацк — скажам, у выкананні музыкантаў Мінскага камернага аркестра?

Ва ўсякім разе, дапытлівая і выхаваная, удумлівая полацкая публіка наўрад ці будзе супраць таго, каб шырэла рэпертуарная палітра фестывалю, каб павялічвалася кола яго ўдзельнікаў.

Вось, у асноўным, і ўсё. Да сустрэчы праз год?

## *III Усесаюзны фестываль народнай творчасці*

# З УШАЦКІХ УЗГОРКАЎ

Як і ўсе хударлявыя і высокія людзі, на свае 60 ён не выглядае. «Чыста ўшацкі малец», — як сказаў бы, паглядзеўшы на Дзям'яна Уладзіміравіча, кожны з яго землякоў. Дадам яшчэ, што чыста ўшацкі Крупеня не толькі па знешнасці, але і па характары. Чалавек ён не гаваркі, сціплы, стрыманы, а яшчэ — бязмежна любіць прыроду, непрыкметную ўшацкую тофлінку (так тут называюць таполю), круглы ўзгорак па-над возерам, купкі бярозак на ўзмежку поля...

Пяцьдзесят лепшых карцін— плён творчай дзейнасці амаль за 40-годдзе — выставіў на суд землякоў самадзейны мастак у карціннай галерэі мястэчка (ёй адведзена месца ў музеі Баявой Славы). 60 гадоў жыцця за плячамі, а вось такую вялікую экспазіцыю сабраў упершыню. А ўвогуле імя майстра-аматара з Ушаччыны даўно вядома тым, хто любіць выяўленчае мастацтва. Быў ён лаўрэатам І Усесаюзнага фестывалю самадзейнай творчасці ў Маскве, яго карціны выстаўляліся ў Англіі, Чэхаславакіі, Венгрыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Чым жа прываблівюць творы Крупені? На мой погляд, яркімі фарбамі, часта без паўтаноў, свежым, амаль дзіцячым успрыманнем прыроды. Тое, што Крупеня не прафесіянал, відаць адразу. Але ў тым, як і што ён малюе, таксама ёсць свой сэнс. Бо часам мастак, набываючы майстэрства, «набіваючы руку», няўлоўна страчвае тую самую непасрэднасць, бескарыслівасць.

З фарбамі самадзейны мастак не расставаўся ніколі, як, дарэчы, і з алоўкам і невялікім сшыткам для малявання. Пачалося гэта ў маладосці, са службы ў арміі і працягвалася далей, калі быў загадчыкам клуба, парторгам калгаса. Ды і цяпер, калі сустрэў свой паважны юбілей, Дзям'ян Уладзіміравіч таксама прагны да чыстага аркуша і палатна.

Часам тыя, хто па службовым абавязку павінен адказваць за развіццё аматарскага выяўленчага мастацтва, арыентуюць самадзейнага мастака зусім не на тыя ўзоры. І ён пачынае працаваць «пад прафесіянала». Што з гэтага атрымліваецца — вядома. Прайшоў праз гэта і Крупеня. У гэтай сувязі мне хацелася б выказаць думку аб неабходнасці асцярожна ставіцца да нашых самадзейных майстроў, не перавучваць іх, бо ў такім выпадку губляецца сэнс творчасці.



Зразумела, што прафесійнае выяўленчае мастацтва, вядома ж, уплывае на самадзейную творчасць. І шэрасць, пампезнасць і кан'юнктура не маглі не адбіцца на густах, на поглядах, «самадзейнікаў», бо вельмі ж хочацца ім часам быць, «як сапраўдныя»...

А гэтага рабіць якраз і не трэба. Трэба заставацца самім сабою, часцей глядзець вакол сябе і ў самога сябе, на родную зямлю, любы сэрцу край.

**Узгоркаў ушацкіх прысніцца абсяг,**
**Бярозкі і елкі, і пыл вечаровы.**
**І ў целе народзіцца раптам мастак,**
**Каб дзень і душу перайначыць нанова.**
**І фарбаў не хопіць, каб свет ахапіць,**
**Каб выказаць сілу, што міг нарадзіла.**
**А позірк гарыць, а з узгоркаў глядзіць**
**Зялёнае неба, смуга і Радзіма.**

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**

### КРАЙ МОЙ РОДНЫ...

# ЁСЦЬ У ЛУЖКАХ МУЗЕЙ

Набліжаецца стагоддзе з дня нараджэння таленавітага, самабытнага мастака Язэпа Нарцызавіча Драздовіча. У Мінску юбілей будзе адзначаны вялікай выстаўкай, якую ўжо рыхтуе Саюз мастакоў Беларусі. Рыхтуецца да юбілею і створаны шэсць гадоў назад Гарадзецкі мастацка-этнаграфічны музей.

Будынак музея стаіць на ўскраіне старадаўняга сяла-мястэчка Лужкі, на цэнтральнай сядзібе саўгаса «Гарадзец», што на Шаркоўшчыне. Месца цудоўнае — вакол стары парк, унізе хуткая плынь Мнюты, стары млын. Захаваўся двухпавярховы палац Платароў — парадны пад'езд з калонамі, на два бакі адыходзяць крылы жылых пакояў. І побач яшчэ больш ранняя пабудова (пачатак XIX стагоддзя) — шатрападобная, з чарапічным дахам і вокнамі ў глыбокіх нішах, капліца-малельня. Вось у ёй, адноўленай, рэстаўрыраванай, і зрабілі музей, размясцілі экспазіцыю. Праўда, ідэя стварэння ў Лужках мастацкага музея ўсё ж зыходзіла з Мінска ад вядомага мастака (ён фактычна быў і кіраўніком усіх рэстаўрацыйных работ і стваральнікам самой экспазіцыі) Аляксея Марачкіна.

З самага пачатку экспазіцыю Гарадзецкага музея меркавалася прысвяціць перш-наперш Язэпу Драздовічу, жыццё і творчасць якога былі цесна звязаны з Дзісеншчынай, з мястэчкам Лужкі — галоўным скрыжаваннем яго вандровак...

Добра памятаю выстаўку Драздовіча, якая адбывалася ў залах Палаца мастацтваў у 1979 годзе. Праз дваццаць пяць гадоў пасля смерці мастака многія ўпершыню пачулі пра яго — недаравальна забытага, фактычна выключанага з мастацкай, культурнай гісторыі. Мы ўбачылі жывапісныя палотны і скульптуры, цудоўныя графічныя аркушы, мноства ілюстрацый да першых віленскіх беларускіх выданняў (дарэчы, Драздовіч быў не толькі ілюстратарам, але і аўтарам кніг). Гэта было як свята.

Вельмі ўражваюць аркушы архітэктурна-гістарычнай серыі («Мір», «Крэва», «Навагрудак», «Ліда», «Меднікі», «Трокі»), серыя, прысвечаная Дзісеншчыне, — «Стадольшчына», «Вёска Лаўрынаўка», «Пунькі» (хутар, дзе нарадзіўся мастак), «Александрыя», «Над Дзісёнкай», «Стары вадапуск». Ці яшчэ адна цудоўная галіна жывапіснай творчасці Драздовіча — яго маляваныя на палатне насценныя дываны. Мастак карыстаўся народнымі ўзорамі, абапіраўся на традыцыі, якія даўно скла́ліся пры маляванні падобных дываноў, але і сам унёс адметныя рысы ў гэтае мастацтва. Цікава, што пасля яго на Дзісеншчыне знайшліся паслядоўнікі, якія яшчэ недзе да 70-х гадоў малявалі дываны «пад Драздовіча», і такі «падражальны» дыван (па-мясцоваму — макатка) ёсць у экспазіцыі Гарадзецкага музея.

Язэп Драздовіч быў вандроўнікам па натуры, па прызванні. Гэтаму паспрыяла і неўладкаванасць яго жыцця, яго ная адзінота. Але вандраваў ён не простым назіральнікам. У сваім дзённіку ён запісаў: «Я палюбіў бацькаўшчыну нашу, вандруючы па ёй...»

Прыгадваю размовы з арганізатарамі той першай выстаўкі Драздовіча. Яны расказвалі, як нялёгка было знайсці, сабраць творы мастака. Летам Язэп Драздовіч вандраваў тыднямі, месяцамі. І там, дзе спыняўся, пакідаў свае творы быццам да часу, прасіў, каб захавалі, а то і адразу дарыў сябрам, знаёмым. А бывала, такім чынам разлічваўся за начлег, пастой.

Незадоўга да смерці, ужо вельмі хворы, Драздовіч пісаў сваякам, прасіў сабраць ягоныя творы па вёсках у мясцінах вандровак. Таму і арганізатары выстаўкі збіралі жывапіс, малюнкі, скульптуру не толькі па музеях Вільні, Мінска, па майстэрнях яго сяброў-мастакоў, але і па хатах на Дзісеншчыне.

У Гарадзецкім музеі твораў самога Драздовіча пакуль што нямнога: чатыры жывапісныя палотны, два напісаныя алеем партрэты — Міхаіла Міхайлоўскага, сябра мастака, і першадрукара Францыска Скарыны, некалькі малюнкаў, разьба па дрэве. Як расказвае парторг саўгаса Казіміра Браніславаўна Бягун — чалавек, адданы справе музея, а зараз і экскурсавод, амаль усе гэтыя творы трапілі сюды ў выніку зноў-такі пошукаў-экспедыцый па сцежках Драздовіча. Сустракалі карціны і малюнкі мастака вывешанымі на пачэсных месцах, а іншы раз людзі прыносілі іх з гары або з каморы.

У мастацкую экспазіцыю музея ўваходзяць прадметы-экспанаты вялікай, у некалькі сотцень адзінак захоўвання, этнаграфічнай калекцыі. Прылады працы і прадметы побыту земляробаў, вырабы з саломкі, цудоўныя ўзоры ткацтва, ганчарныя вырабы. І, можа, якраз якія-небудзь з гэтых экспанатаў у свой час трапілі мастаку на вочы (яны ж усе з суседніх вёсак, хутароў), зацікавілі яго, і ён замаляваў, далучыў іх да сваіх калекцый этнаграфічных малюнкаў.

Невыпадкова трапілі ў музей таксама і творы вядомага беларускага мастака Пётры Сергіевіча. Прадстаўлены тры ягоныя карціны, у тым ліку пісаны алеем, вельмі ўдалы партрэт Драздовіча: прыгожы, з правільнымі рысамі твар, задумлівы позірк добрых вачэй. Мастакі, хоць Драздовіч на дванаццаць гадоў старэйшы, былі сябрамі, мелі на многае агульныя погляды, што фарміраваліся пад уплывам нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Акрамя таго, іх творчасць жывілі адна прырода, адны вобразы: яны ж суседзі, Сергіевіч з Браслаўшчыны.

Сваю лепту ў Гарадзецкі музей унеслі сучасныя мастакі: А. Марачкін, Л. Шчамялёў, В. Цвірка, У. Сулкоўскі, графікі А. Кашкурэвіч і У. Басалыга падарылі музею свае творы. У большасці гэта беларускія пейзажы, а то і менавіта дзісняyнскія, браслаўскія, ці партрэты вяскоўцаў. Таму і гэтыя творы таксама аказаліся «ў тэме», без натугі ўпісаліся ў экспазіцыю.

Вось і атрымалася, што далёка ад сталіцы ў вёсцы склаўся, існуе сапраўдны музей з дзесяткамі арыгінальных твораў, якія належаць вядомым беларускім мастакам. Узнікала пытанне—ці патрэбен ён тут, ці будзе мець наведвальнікаў і той эмацыянальна-духоўны водгук, на які, адпаведна сваім мастацкім каштоўнасцям, здатны?

Прайшло шэсць гадоў з дня заснавання Гарадзецкага музея, і пэўныя вынікі ўжо можна падводзіць. Найбольш аб'ектыўны сведка—«Кніга водгукаў». Найперш па ёй можна аналізаваць геаграфію наведвальнікаў — адкуль прыязджалі, прыходзілі. Значная колькасць—вучні мясцовай школы і з некалькіх дзесяткаў школ Шаркоўшчынскага і суседніх раёнаў. Запісы пакінулі таксама спецыялісты сельскай гаспадаркі, практыканты з Полацкага ПТВ, механізатары, студэнты з Віцебска, наведвальнікі саўгаса «Гарадзец» па розных гаспадарчых справах, мастакі, журналісты, пісьменнікі. І ніводнага раўнадушнага — усхваляваныя радкі, падзякі стваральнікам музея.

Так што Гарадзецкі мастацка-этнаграфічны музей можна лічыць прыкладам у справе арганізацыі культурных цэнтраў у нашых мястэчках, вёсках. Наспела неабходнасць духоўнага, мастацкага выхавання вяскоўцаў.

**Л. ПРАКОПЧЫК.**

Сідар КОНАНАЎ

# ДЗВЕ КРОПЛІ Ў МОРЫ ВАЙНЫ

**Раздзел з дакументальнай аповесці ў пісьмах і эпізодах**

У ГАДЫ Вялікай Айчыннай я быў уласным карэспандэнтам дывізійнай газеты «В атаку». Не часова, не па камандзіроўках, а ўвесь час знаходзіўся ў ротах і на батарэях праслаўленай 132-й Бахмачска-Варшаўскай, двойчы Чырванасцяжнай ордэна Суворава стралковай дывізіі. Вайна тут была відаць не збоку, а знутры.

У мяне захаваліся пісьмы — жывыя сведкі гэтага. Мая будучая жонка, таксама журналістка Наталля Аляксандраўна Лаўрэнцева, якая працавала ў той час інжынерам на адным з заводаў у горадзе Дзяржынску Горкаўскай вобласці, пісала мне на фронт 25 сакавіка 1943 года:

«Сяргей, дарагі мой!

У нас зусім ужо вясна — мой любімы час. Сапраўдная вясна з усёй яе прыгажосцю: яркае сонца, мяккія таны заходу сонца за Волгай і Акой, сіняе-сіняе неба, ручаі.

Пейзажы нагадваюць мне вядомую карціну Саўрасава «Гракі прыляцелі», якую я вельмі люблю і арыгінал якой бачыла ў Траццякоўскай галерэі. Ты помніш яе? Яна геніяльна простая па задуме, як і ўсё сапраўды вялікае. Голыя галінкі дрэва з гнёздамі мітуслівых гракоў, снег, лужыны, старая забытая царква... Але ў мяккіх танах ружова-сіняга неба, у афарбоўцы воблакаў і, здаецца, у самім паветры карціны адчуваецца адно: ідзе вясна, абуджаецца прырода.

Падобныя «відзікі» я часта наглядаю, Сярожа, у час паездак у Горкі. Мільгне міма цягніка такі вось мілы куточак, з якога вее чыста рускай красою і журбою, і зноў міжволі ўспомніш карціну, што так ярка перадала прыход вясны. Не знаю, дзе цяпер гэты твор рускага жывапісца. Хоць бы ўцалеў.

Усё ж такі сядзіць дзесьці ўва мне руская душа, Сяргей. Просценькая, голая яшчэ бярозка мне даражэй за цудоўную пальму.

Хораша на душы. Цеплыня вясновых сонечных промняў проста ўліваецца ў маю душу. І столькі сілы і бадзёрасці адчуваю ў сабе, што хочацца часткай гэтай радасці жыцця падзяліцца з табою. Хай жа гэта пісьмо маё будзе бадзёрай вяснянай песняй, матыў якой створан урачыстасцю вясны, а словы і думкі выткуны з сонечных промняў, сіняга вясенняга неба і празрыстага, чыстага паветра. Радасць жыцця, глыбокая вера ў непазбежную нашу перамогу, чаканне нашай сустрэчы з табою — вось што цяпер у маіх думках.

Я знаю, родны, што ў цябе такі ж лірычны характар, як і ў мяне. А гэта значыць, што і ў цябе павінна быць тое ж пачуццё радасці вясны, усведамленне сваёй сілы і глыбокай веры ў хуткую нашу перамогу і асабістую сустрэчу.

Безумоўна, Сярожа, ты, напэўна, больш поўна і раней за мяне ўбачыў і адчуў прыход вясны... А, можа, і наадварот. Можа, у гуле баёў і не заўважыў, як і да вас падабралася яна: чыстая, прыгожая, бадзёрая, імклівая, якая кліча да перамогі над заклятымі фашыстамі, кліча да ранейшага, шчаслівага жыцця, якое нам трэба абавязкова адстаяць у вайне.

Вось і ўсё, што хацела я напісаць табе, дарагі, сёння.

З вясновым прывітаннем, Сярожка!

Наташа».

Наша дывізія знаходзілася ў той час на Арлоўска-Курскай дузе. За некалькі кіламетраў ад пярэдняга краю стаяла рэдакцыя і друкарня нашай газеты. Мне даводзілася хадзіць у падраздзяленні, арганізоўваць матэрыялы. 8 красавіка я напісаў Наташы кароткі адказ на яе ўзнёслае пісьмо:

«Добры дзень, дарагая Наташа!

Тваё пісьмо, якое ты пісала пад уражаннем вясны, я чытаў з вялікай радасцю. Малайчына ты, сяброўка. Па-добраму зайздрошчу тваёй багатай, моцнай натуры, твайму шырокаму вольнаму размаху, усёй тонкасці тваіх лірычных пачуццяў, перажыванняў і невычарпальнай маладой энергіі.

Але вось сам — я проста не пазнаю сябе сёлетняй вясною. Горкая радасць на маёй душы. Можа, ад таго, што побач з прыходам вясны бачу і перажываю тут. Можа, ад таго, што станаўлюся «старым» — за чвэрць веку пераваліла. Сам не ведаю, чаму я стаў больш раўнадушна, чым раней, успрымаць прыроду. Гляджу вось на яе абуджэнне, і нейкая прыкрасць і нуда адольваюць мяне. Стараюся не прыслухоўвацца асабліва да музыкі вясны нават тады, калі маю такую магчымасць. А слухаць гэтую музыку амаль што няма ніякай магчымасці: шум, гул, небяспека на кожным кроку. Нават птушкі адсюль ляцяць прэч.

Твае ж вясновыя «ноткі» чытаю з вялікай радасцю.

Перадай паклон сваёй маме. Вітаю цябе, родненькая.

Сяргей».

«Дарагі мой сябар!

Маё «вясновае» пісьмо не абудзіла ў табе ўзаемнага пачуцця бадзёрасці і радасці жыцця. Гаворыш, вясна не хвалюе цябе, на душы прыкрасць і нуда. Як балюча мне чытаць гэта, Сяргей! Што з табою стала, родны мой? Разбярыся ў сабе як след. Хіба не хочаш жыць і радавацца жыццю? Няўжо вайна і цяжкія перажыванні забілі ў табе ўсё жывое? У табе, хто так тонка і глыбока ўспрымаў жыццё? Я не веру і не хачу верыць твайму пісьму, таму што гэта ніяк не вяжацца з тваёй натурай. Успомні, як пісаў ты мне пра Крым і Чорнае мора. Хіба там не адчула я з радасцю ў табе глыбокае разуменне красы. Я так радавалася. Гэта так зближала нас з табою.

А тут раптам песімізм і змрочнасць. І асабліва балюча і сумна мне, што ты пішаш гэта тады, калі ў цябе ёсць я, твой сябра... А зрэшты мы абодва з табой сатканы з супярэчнасцей у саміх сабе. Я часта адчуваю гэта і ў сабе, і ў табе. Але скажу адно, Сярожа, тое, што ты пішаш аб сваім раўнадушшы да вясны, да ўсяго жывога, што абуджаецца пад сонцам,— няправільна і сумна. І я не ведаю, якія знайсці словы, каб пераканаць цябе ў неабходнасці вярнуць гэту згубленую табою радасць успрыняцця жыцця, уласцівую табе таксама, як і мне, уменне бачыць у жыцці, у прыродзе прыгажосць, сілу, магутнасць, радасць і шчасце.

Я ўпэўнена, што ты разумееш і любіш вясну таксама, як і я. Толькі суровае жыццё, вайна, перажыванні прытупілі ўсё гэта ў табе на час. Ды і сапраўды. Дзе там, на полі бою, убачыць яе, вясну, ва ўсёй яе прыгажосці. Вось тут ты, бадай што, маеш рацыю. Але калі ты любіў і дакранаўся да ўсяго прыгожага — ці то мора, кветкі, добрыя кнігі, карціны,— то ўсё гэта, безумоўна, вернецца зноў да цябе. Прачніся, Сяргей, паглядзі навокал — якая прыгажосць у прыродзе! Як ні складана, як ні цяжка жыць, а ўсё ж прыгожа вясной!

Асабіста я люблю жыццё. А цяпер, калі ў мяне ёсць ты, ёсць сябра, — я асабліва люблю жыццё ва ўсіх яго праявах — вясну, прыгажосць заходу сонца за Волгаю, ільдзіны, што нясуцца па рацэ і ломяць усё на сваім шляху, бадзёры паўднёвы вецер з тысячамі веснавых пахаў, якія хвалююць і бадзёраць.

Вось непадалёку ад свайго дома я знайшла ў парку першую пралеску. Пасылаю табе яе. Якая яна прыгожая, якая мілая сэрцу!

Як можна не адчуваць, не любіць усё гэта, Сяргей?

Чакаю тваіх пісьмаў. Прывітанне ад мамы і лепшай маёй сяброўкі Тані Віаленці. Наташа. 21 красавіка 1943 г.».

«Дарагая Наташанька!

Цябе вельмі абурыла маё раўнадушша да прыходу вясны. Пытаешся: што са мной? Ведаеш, не заўсёды адразу можна выказаць свой душэўны стан, назваць прычыну сваёй радасці або гора. Я ведаю, чаму мяне не акрыляе ваенная вясна. Але калі пісаў сваё мінулае пісьмо, то не меў дастаткова часу, фактаў і аргументаў ды і проста не хацеў прыводзіць іх, рабіць прыкрасць сабе і табе. Сёння мушу зрабіць гэта, каб ты зразумела, у чым тут справа.

Вось давай мы разам з табою накіруемся з нашай рэдакцыі, якая знаходзіцца сёння ў дванаццаці кіламетрах ад перадавой, у падраздзяленні, што стаяць у абароне. Пойдзем па тым месцы, дзе я ішоў адзін на днях.

Крочым, узяўшыся за рукі, па вялікім лузе. Ён ужо ачысціўся ад снегу, але яшчэ мокры, топкі. З'явілася зелень, першыя кветкі. У глыбокім блакітным небе заліваецца жаўранак. Ён нібы падвешаны на непрыкметнай нітачцы. Яшчэ вышэй застыла на адным месцы лёгкае белае воблака. Цудоўны вясновы дзень — праўда? Здаецца, усё навокал анямела, слухаючы музыку вольнага спевака. У песні птушкі, якая

# Памінаю і веру

(Працяг. Пачатак на стар. 4).

сёння гэта самыя адыёзныя і непрэзентабельныя, самыя пыхлівыя і самачынныя «фігуры». Яны ствараюць умовы і для парушэнняў маралі, перараджэння работніка.

Чакаю ўдару па іх. Сакрушальнага ўдару. Каб ад таго і другога чарапкі пасыпаліся. На іх месца павінны прыйсці зусім іншае планаванне, зусім іншыя прынцыпы ў штодзённай рабоце прадпрыемстваў...

Дзелавы чалавек слухаў і, слухаючы, не аспрэчваў мяне. Але я здагадваўся, што яму цяжка прыняць мой аптымізм, хоць (а можа, якраз і таму што) ён не горш за мяне вывучыў праект Закона аб дзяржаўным прадпрыемстве, які тады абмяркоўваўся ў друку, чытаў і ведаў іншыя афіцыйныя дакументы... Яго завод, трэба сказаць, ужо перайшоў на самафінансаванне і самаакупнасць, толькі, вызначаючы для гэтага прадпрыемства фінансава-эканамічныя ўмовы работы, міністэрства паставіла ў залежнасць заробак калектыву ад нарошчвання выпуску прадукцыі са знакам якасці, а там, на заводзе, ужо цяпер усе вырабы мелі знак якасці і далей не было як дабаўляць. Заніжаны таксама і нарматыў на прыбытак прадпрыемства. Словам, лепшы ў горадзе, дый у сваёй галіне калектыў пастаўлены ў найцяжэйшыя ўмовы. Пры такой распрацоўцы нарматываў ды стымулаў у выйгрышы зноў-такі акажацца той, хто горш працуе.

Я зазначыў, што фармалізм і нераспарадчасць міністэрскіх чыноўнікаў у ходзе перабудовы будуць зведзены да мінімуму, хібы пра якія ён гаварыў, будуць выпраўлены. Інакш немагчыма...

Дырэктар і тут са мной не спрачаўся, аднак голас у яго быў разважліва-скрушлівы:

— Я пайшоў у райком партыі і сказаў сакратару, што не ўяўляю сабе перабудовы пры існуючых парадках.

— Цікава... І што вам адказаў сакратар?

— А я і сам, кажа, не ўяўляю.

Сітуацыя з райкомам набывала анекдатычны характар, і, магчыма, менавіта па гэтай прычыне я палічыў бы яе несур'ёзнай, а дырэктара прыняў бы за франдзёра, каб не сустрэчы з рабочымі на розных прадпрыемствах і іх паныласць, з якой я ўпершыню сутыкнуўся на суднарамонтным...

Неяк я разам з сакратаром партбюро аднаго з будупраўленняў Мікалаем Цімчуком паехалі да будаўнікоў — на ўскраіну Мінска, дзе рос новы мікрараён. Гаворка спачатку не клеілася. Рэплікі былі пагардлівыя, здзеклівыя:

— І вы ўсур'ёз пра перабудову?

— Гы-гы... Знаем...

— А з каго яна павінна пачынацца? Га?

— Абман... Хіба не?

— У нас, калі шчыра, усё — як было. Толькі горш.

Я пацікавіўся ў будаўнікоў, ці зарабляюць яны сабе на хлеб пры пераводзе на гаспадарчы разлік, і тут увабраную ў робу публіку нібыта ўзарвала:

— А як?

— Матэрыялаў не прывозяць — сядзім! З нічога можна толькі вялікія планы скласці!

— Сапраўды: план ёсць, а работы няма, няма работы — няма грошай. Лагічна! Гаспадарчы разлік у дзеянні!

— Потым — штурмаўшчына, а нехта хоча якасці...

Не, тут дзейнічаў не гаспадарчы разлік, а дзейнічалі пракаветныя ножніцы паміж планаваннем вытворчасці і матэрыяльнымі фондамі, гэта значыць, забеспячэннем будоўлі.

Планаванне (ад дасягнутага) за многія гады і дзесяцігоддзі дасягнула, можна сказаць, Эльбрусавых вяршынь. Раслі і фонды, толькі яны раслі не так, як планавыя лічбы на паперы, і цяпер, пры перабудове і ўкараненні сістэмы гаспадарчага разліку ў вытворчасць, варта было б прывесці ў строгую адпаведнасць адно з другім, ліквідаваць ножніцы, чаго патрабавала элементарная логіка развіцця эканомікі, арганізацыі вытворчасці і ашчаджэння сацыялістычнай маралі. Такое становішча было б ідэальным. Аднак да ідэалу, відаць, у высокіх штабах ніхто не імкнуўся, і мне не хацелася хоць бы ў думках аказацца ў становішчы начальнікаў будоўлі, пачынаючы ад майстра, прараба... Ім належала руплівасць, усімі праўдамі і няпраўдамі шукаць сродкі, каб выканаць план (за месяц, за квартал і за год), «зрабіць» рабочым, а заадно і сабе ніштаватую зарплату, захаваць бадзёры дух у калектыве — і значыць — сам калектыў.

Сакратар партбюро гаварыў мне азадачана:

— Сумна, сумна, скажу вам, назіраць за некаторымі з'явамі. Як быццам нейкая цёмная сіла ў перабудову ўвязалася. Не разумею, што робіцца: ноччу нашы рабочыя ходзяць на тэрыторыю домабудаўнічага камбіната і крадуць там матэрыялы, дэталі, аснастку, каб на сваім аб'екце не застацца без работы.

Не варта думаць, канечне, што там, на ўскраіне Мінска, і наогул на будаўнічым плацдарме склалася нешта ўжо зусім нечуванае, новае, чаму ні прыкладаў, ні аналагаў у гісторыі нашага грамадства няма. Наадварот, гэта кожны раз паўтаралася як толькі абвяшчалі нейкую шырокую кампанію і ў ёй спехам, бяздумна дасягалі працэнта і поўнага, пераможнага «ахопу» тымі ці іншымі мерапрыемствамі...

Працэнтаманія неаднойчы збівала з тропу нават нашых палітыкаў, асабліва калі яны мелі парыванні і якасці на ўзор мележаўскага Башлыкова з «Палескай хронікі», які ўжо ва ўмовах першай пяцігодкі ўзбіўся на ласку начальства, працуючы на рапарт па раскулачванні, калектывізацыі сялян і гэтак далей.

Башлыкоўшчына як з'ява народжана шаблонным адміністрацыйным упраўленнем і стылем загаду, народжана сталінізмам.

Пазней, у пяцідзесятыя гады, гэтую з'яву заўважыць і выкрые В. Авечкін. З-пад яго пяра паўстане вобраз Барзова, чалавека, які ўвасабляе сабой усё той жа прыярытэт дзеяння над развагай.

Пісьменнік І. Васільеў, адкрыта разважаючы над гістарычным вопытам партыі і на-

# Дзе кіпеў крывавы бой

**Нататкі з Усесаюзнай творчай канферэнцыі пісьменнікаў**

Літаратура і ваенна-патрыятычнае выхаванне — тэма Усесаюзнай творчай канферэнцыі, якая адбылася ў Валгаградзе і была прысвечана 70-годдзю Савецкай Арміі і 45-годдзю перамогі пад Сталінградам.

Перад пачаткам канферэнцыі пісьменнікі, якія з'ехаліся ў горад-герой з многіх куткоў краіны, разам з тысячамі кнігалюбаў горада і вобласці ўсклалі вянкі да помніка абаронцам Царыцына ў 1919 годзе, манумента Маці-Айчыны на Мамаевым кургане.

Мамаеў Курган! Утрымаць панучую над горадам вышыню было пытаннем жыцця і смерці 62-й арміі. Безупынныя бai за Мамаеў курган працягваліся 135 дзён і начэй. Тут былі разгромлены многія танкавыя і пяхотныя дывізіі праціўніка.

І вось тут, на месцы жорсткіх баёў, «на галоўнай вышыні Расіі», як назвалі ў народзе Мамаеў курган, і стаіць помнік-ансамбль, які ўвекавечыў легендарны подзвіг абаронцаў волжскай цвярдыні.

...Па зале ваеннай славы рухаецца людскі паток. У першых радах былыя ўдзельнікі баёў у Сталінградзе, празаік Міхаіл Аляксееў, грузінскі паэт Вахтанг Гарганелі, паэт Яўгеній Далматоўскі, кіргізскі паэт Таменбай Байзакаў, былы камандзір гарматы, празаік з Ташкента Аннатула Анарбаеў. Сярод герояў бітвы за Сталінград— удзельніца другой вялікай бітвы — за яго адраджэнне, паэтэса Людміла Шчыпахіна і іншыя.

Пасля ўскладання вянкоў пісьменнікі ў кнізе ганаровых гасцей пакінулі запіс: «Воіны Сталінграда, вы ляглі ў гэтую зямлю і заслужылі бяссмерце. Схіляем галовы перад светлай вашай памяццю».

Ля выхада з залы нас асвяціла яркае сонца, яно адкрыла перад намі велічную панараму адбудаванага горада. У жалобнай скрусе мы спускаемся з вяршыні кургана. Думкі нашы аб тых, хто загінуў, каму не суджана ўбачыць гэты ўзняты з руін і попелу прыгажун-горад. Сярод іх знаходзіцца, магчыма, і мой малодшы брат Аляксандр. Па дарозе на фронт ён пісаў маці на Урал, дзе яна знаходзілася ў час эвакуацыі з Віцебска: «Ідзём да Волгі»... Гэта было яго апошняе пісьмо...

Побач са мной ішоў паэт з Баку Міхаіл Петракоў — выхаванец арміі, ветэран вайны. У нейкі момант ён павярнуўся тварам да манумента і з хваляваннем прачытаў радкі:

Так вот какой ты<br>легендарный курган,<br>носящий ковыльное<br>имя Мамая!

Тут, у Сталінградзе, было шмат цікавых знаёмстваў і сустрэч. Для мяне было прыемнай нечаканасцю дазнацца, што сакратар Валгаградскай пісьменніцкай арганізацыі Анатолій Данільчанка наш зямляк-беларус.

— Як жыве Іван Пятровіч Шамякін? — цікавіцца сакратар Мурманскай пісьменніцкай арганізацыі Віктар Ціmaфееў.— Ён жа абараняў у час вайны наш горад.

— Вы з Мінска? — звяртаецца да мяне Аннатула Анарбаеў.— Там жыве наш камандзір 76-й гвардзейскай дывізіі генерал Кірсанаў...

Кажу, што ведаю яго. Жыў на вуліцы Захарава...

— Так, так, на Захарава,— узрадаваўся Анарбаеў.—Пісаў яму. Не адказвае...

— Памёр генерал Кірсанаў,— засмучаю я ўзбекскага сябра.

— Памёр... Шкада. Ад Волгі да Берліна з ім прайшлі.

З Уладзімірам Зоткіным з Растова-на-Доне я пазнаёміўся на Алеі Герояў ля старой таполі, каля якой на мармуровай дошцы было напісана: «Таполя гэта прайшла праз бітву вялікую».

І мой новы знаёмы, калега па пяру Уладзімір Мацвеевіч Зоткін таксама ацалеў у гэтай вялікай бітве. Камандзір гарматы, ён па-геройску ваяваў, будучы ў час баёў узнагароджаны двума ордэнамі Чырвонай Зоркі. Потым у баях на Курскай дузе быў цяжка паранены. У шпіталі камісія яго хацела спісаць з ваеннага ўліку. Ён мог вярнуцца ў сваю ціхую, далёкую ад фронту вёску на Алтаі, але ўпарты сібірак рашуча заявіў:

— Я магу ваяваць і з адным вокам!

І вярнуўся ў строй, да сваёй гарматы, з ёй дайшоў да Берліна.

На другі дзень усе ўдзельнікі канферэнцыі і Дзён літаратуры сабраліся ў Доме палітычнай асветы абкома КПСС. Той, хто прывёз свае кнігі, паклаў іх на спецыяльныя паліцы ў дар валгаградцам. У кніжным жа кіёску, дарэчы, амаль не было твораў пісьменнікаў, якія прыбылі на канферэнцыю, што, да слова, засмуціла кнігалюбаў.

Няма магчымасці падрабязна спыніцца на змесце дакладаў і выступленняў, праз якія чырвонай ніткай прайшла думка аб бессмяротнасці подзвігу абаронцаў Сталінграда, аб тым, што гэты подзвіг варты самага высокага мастацкага ўвасаблення. Удзельнікі нарады з цікавасцю абмеркавалі тэму, якая тычылася ролі літаратуры ў героіка-патрыятычным і інтэрнацыянальным выхаванні савецкай моладзі.

Ва ўступнай прамове сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Ю. Верчанка нагадаў:

— Валгаград ужо другі раз становіцца месцам сустрэчы пісьменнікаў, якія пішуць аб арміі. Сустрэчы гэтыя плённыя і іх трэба працягваць і надалей.

— Зараз ідзе ломка старых стэрэатыпаў, скальпелем галоснасці ўскрываюцца застарэлыя нормы, зацвярджаецца новае палітычнае мысленне,— гаварыў у дакладзе старшыня камісіі па ваенна-мастацкай літаратуры СП СССР Іван Стаднюк.— Некаторыя гісторыкі і літаратары, свядома ці несвядома, прыніжаюць значэнне нашай Перамогі. Перамога далася нам вялікімі ахвярамі. Патрэбны паглыблены пошук і праўдзівае адлюстраванне Айчыннай вайны ў літаратуры. А інакш не варта брацца за пяро.

Намеснік начальніка ўпраўлення прапаганды і агітацыі Галоўнага палітычнага ўпраўлення Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, генерал-лейтэнант Н. Шапалін у змястоўным дакладзе «Сучасная армія і літаратура» назваў імёны пісьменнікаў, у тым ліку і беларускіх, творы якіх можна ўбачыць у воінаў, якія выконваюць інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане.

— Хто прыходзіць сёння ў армію? Сорак два працэнты — былыя школьнікі, дванаццаць працэнтаў хлопцаў, якія скончылі прафесійныя вучылішчы. Школа і сям'я павінны клапаціцца аб выхаванні будучага воіна,— кажа ён.

— Армія самая высокамаральная частка нашага грамадства,— зазначыў у сваім слове сакратар праўлення СП РСФСР Ф. Чуеў.

— Мы жывём у гарачы час,—пачала сваё выступленне паэтэса Людміла Шчыпахіна.— Перабудова зноў вылучыла на пярэдні край чалавека-барацьбіта. І сілы ў змаганні мы чэрпаем з крыніц гераічнага мінулага нашага народа.

Цікава прагучала выступленне, прысвечанае сучаснай арміі, члена беларускай пісьменніцкай арганізацыі генерал-маёра Анатоля Сульянава, аўтара ваенных раманаў, аповесцей і апавяданняў.

Не абышлося на канферэнцыі (і гэта ў духу сённяшняга дня) без крытыкі і гарачай палемікі. Галоўны рэдактар часопіса «Молодая гвардия» А. Іваноў востра крытыкаваў грамадскія пазіцыі часопіса «Огонёк», газет «Московские новости», «Неделя», «Комсомольская правда» і «Литературная газета». У запале палемікі некаторыя прамоўцы парушалі нормы этыкі. Гэтыя выступленні былі ў сваю чаргу асуджаны наступнымі прамоўцамі. «Не трэба шукаць ворагаў у Саюзе пісьменнікаў, — заявіў Яўгеній Далматоўскі.— Гэта не толькі не разумна, але і шкодна».

**Л. ПРОКША.**



Рэха вайны. Фота В. ГАНЧАРЭНКІ.



**З 9 ПА 15 МАЯ**

**9 мая, 18.05**

**«ПАСЛАНЦЫ ЧАСУ»**

Беларускія песні Вялікай Айчыннай вайны. Перадача 2-я. У ёй прагучаць песні Любана, Пукста, Алоўнікава.

**10 мая, 21.50**

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

Вы пабываеце на прэм'еры фільма «Пераправа», які прадставіць рэжысёр-пастаноўшчык народны артыст СССР В. Тураў; убачыце беларускую экспазіцыю ў Музеі Дружбы народаў СССР у Грузіі; пазнаёміцеся з выданнем «Гісторыя беларускага мастацтва», сустрэнецеся з акцёрам-купалаўцам Ф. Варанецкім.

**11 мая, 19.25**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы Я. Коласа чытае І. Дзянісаў.

**11 мая, 21.50**

**«У ТЭАТРАХ РЭСПУБЛІКІ»**

Д. Кавачэвіч. «Там і тут».

Спектакль Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Рэжысёр М. Пінігін.

Ролі выконваюць: заслужаныя артысты рэспублікі В. Філатаў, Т. Нікалаева, А. Дзянісаў, А. Рынковіч і іншыя.

**12 мая, 23.20**

Фестываль «Прыбалтыйская тэатральная вясна». Перадача 1-я. «Герой сучаснай сцэны». Вядучы—кандыдат мастацтвазнаўства В. Ракіцкі.

**13 мая, 23.20**

Фестываль «Прыбалтыйская тэатральная вясна». Перадача 2-я. «Тэатр ва ўмовах перабудовы». Вядучы — кандыдат мастацтвазнаўства В. Ракіцкі.

**14 мая, 11.15**

**«ТЭАТР І ЧАС»**

Праблемы абласной сцэны. Магілёўскі абласны тэатр імя Дуніна-Марцінкевіча.

**14 мая, 14.35**

**«МЕТРАНОМ»**

Музычна-публіцыстычная праграма.

**14 мая, 20.15**

**«ТЭЛЕВІЗІЙНЫ ВЕРНІСАЖ»**

Перадача прысвечана Зембінскай карціннай галерэі.

**15 мая, 12.40**

**«ПЕЎЧАЕ ПОЛЕ»**

Тэлевізійны конкурс самадзейных харавых калектываў рэспублікі. Выступаюць прадстаўнікі Мінскай вобласці.

**15 мая, 14.55**

**ЗАПРАШАЕ ЧАСОПІС «БЕЛАРУСЬ»**

З чарговым нумарам знаёміць галоўны рэдактар А. Шабалін.

**15 мая, 15.15**

**«ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ»**

Ю. Семяняка, А. Аксючыц. «Крыніца любові».

**15 мая, 23.10**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

**15 мая, 16.10**

**«ТВОРЧЫЯ ПАРТРЭТЫ»**

Перадача прысвечана народнаму мастаку БССР Л. Зайцаву. Вядучы — дырэктар Дзяржаўнага мастацкага музея БССР Ю. Карачун.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01181. М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.